Газэта заснаваная ў 1906. Адноўленая ў 1991
Выдавец Рэдакцыя газэты «Наша Ніва»

# НАША НІВА

VIII год выданьня
http://members.xoom.com/Nasa_Niva

9 лістапада 1998 г.

ПЕРШАЯ БЕЛАРУСКАЯ ГАЗЭТА

№21 (118)

# БЕЛАРУСЬ У ПАРАЛЕЛЬНЫМ ЧАСЕ

Колькі чаго ў жыцьці залежыць ад сьвядомасьці чалавека, а колькі адбываецца самахоць?.. Вось сёньняшняе адчуваньне Беларусі: пра аўтарытарны рэжым усё сказана і можна толькі паўтарацца, апазыцыянэры таксама стабілізаваліся, палітычныя прагнозы й ацэнкі нагадваюць пераклады адкуль-небудзь з ангельскай і ня спраўджваюцца, народ у прынцыпе задаволены status quo. І ўсё гэта нібы ня тычыцца Беларусі. Бо Беларусь жыве ўжо неяк па-свойму, міма рэжыму, апазыцыі й народа. Пра тое, што яна жыве, сьведчаць зьявы й падзеі культуры, у якіх зусім не адчуваецца аўтарства. Бывае ж такое, што пэўны аўтар, які ўчора не заўважаўся, сёньня раптам загучаў на поўны голас. І ніхто, у тым ліку й ён сам, не разумее, чаму. Быццам і сапраўды існуе той паралельны час, які, у параўнаньні з нашым, не спыніўся, а працягвае свой рух. І нібы менавіта туды перамясьцілася Беларусь, пакінуўшы тут толькі надпіс на сьцяне пра тое, што яна – жыве.

Паралельнаму часу прысьвечаныя матэрыялы гэтага нумару «НН». Гутарка пойдзе пра падзеі й праявы культуры, за якімі не прачытваецца напружанай думкі канкрэтнага стваральніка і якія выглядаюць на парадак больш рэальна й вартасна, чым у папярэднія гады.

Вось, скажам, «Народны Альбом» беларускіх рок-музыкаў, прэм'ера якога адбылася нядаўна ў Польшчы. У Беларусі гэты праект, бадай, і не ацэньваўся. У Польшчы ж, дзе культурныя працэсы больш спарадкаваныя, аглядальнік «Gazety Wyborczej» Робэрт Ляшчынскі піша:

«Спачатку мне падалося дзіўным, што ў краіне, у якой дзеецца шмат важных справаў, артысты займаюцца гісторыямі 80-гадовае даўніны. Аказваецца, аднак, што з дапамогай такой формулы пра Беларусь можна сказаць нашмат болей і пры гэтым ня зьвесьці ўвесь праект да жанру бягучага палітычнага камэнтара. Вось чаму «Народны Альбом» – гэта перад усім твор мастацтва. У Польшчы яго рэклямавалі як «антылукашэнкаўскую рок-опэру», з чаго самі творцы сьмяюцца й падкрэсьліваюць, што існуюць у Беларусі цалкам афіцыйна. «Антылукашэнкавасьць» «Народнага Альбому» заключаецца магчыма ў тым, што Лукашэнкі там няма».

Р.Ляшчынскі міжволі падказвае нам ідэю Беларусі ў паралельным часе. Нешта падобнае вычуваеш і ў словах саміх рок-музыкаў, калі просіш іх распавесьці пра тое, з чым яны сёньня выходзяць да публікі. Адказы падаюцца ня тое, што павярхоўнымі або дзяжурнымі, але не зусім адпаведнымі тым творам, якія музыкі пішуць і выносяць на публіку.

Сёньня пазьяўлялася мноства цэльных (давершаных) і вартасных (бясспрэчных) культурных прадуктаў, творцы якіх ня здольныя растлумачыць гэтую давершанасьць і вартасьць.

*Працяг на старонцы 8*



**Славамір Адамовіч**

***

*... Пасьля ванны пахнеш добрым мылам,*
*пасьля працы – пломбамі і ёдам,*
*пахнеш кухняй, хлебам, хатнім пылам,*
*пахнеш рыбай, жніўеньскім гародам,*
*пасьля мужа пахнеш дзьмухаўцамі,*
*пасьля фэсту ў Будславе – касьцёлам,*
*пахнеш кменам, аерам, квасцамі,*
*велікоднай булкаю і толам,*
*пахнеш васемнаццацьцю гадамі,*
*пахнеш так, як пахну я, калі*
*пакрываю прасьціну сьлядамі,*
*нібы разараны пласт ральлі.*

1998 год, кастрычнік

# БЕЛАЯ КНІГА МОВЫ

## *Дзень без чужога слова. Працяг будзе*

2 лістапада мы абвясьцілі ў Беларусі Дзень без чужога слова. Якія вынікі нашаніўскае ініцыятывы? Пра гэта пыталіся ў нас калегі зь іншых выданьняў і проста сябры.

Вынікі аднолькава суцяшаюць і засмучаюць. Па ўсёй краіне ў розных месцах чуваць пра прыклады стаіцызму асобных людзей. У Полацку ў фірме камптутарных паслугаў чалавек запатрабаваў, каб дакумэнты яму надрукавалі па-беларуску. У Смаргоні заўзятары ледзь не да істэрыкі давялі прадавачку з газэтнага шапіку, пытаючыся пра «Нашу Ніву». «Ды што там такое ў вашай «Ніве», – абуралася маладая кабета, – была адна, я прадала». На Гомсельмашы з-за мовы чалавек рызыкуе быць звольненым з працы... Мы чакаем, калі рэдакцыйная пошта прынясе нам яшчэ шмат зьвестак пра чалавечыя ўчынкі, якія сёньня найчасьцей выглядаюць як подзьвіг. Што ні кажыце, а гаварыць па-беларуску сёньня – гэта адкрыта супрацьстаяць акупацыі, прычым найперш – акупацыі ў сабе. Усе разам мы мусім фіксаваць такія факты і скласьці зь іх сваю моўную Белую Кнігу.

Засмучае тое, што ў большасьці дэклараваных патрыятычных суполак, арганізацыяў, рэдакцыяў да нашае прапановы паставіліся скептычна альбо дзеля ўласнае "зручнасьці" –прапусьцілі міма вушэй. Гэта не растлумачыш інакш, як палёнам лукашэнкавае палітыкі, скіраванае на дэмаралізацыю беларускіх суполак. Памятаеце ягонае – «а мяне задавальняе такая апазыцыя»?

Аднак варта паўратыць, што вынікі Дня Мовы суцяшаюць і засмучаюць аднолькава. Гэта значыць, што абраны ня той крытэрый. Мы ня можам гаварыць пра статыстычнае вымярэньне, калі справа тычыцца інтымнага выбару чалавека. Прапанаваўшы фактычны моўны пост, мы ня можам ані змушаць людзей гаварыць па-беларуску, ані выпытваць у іх – ці ж вытрывалі яны гэты Дзень без чужога слова. Таксама як у верніка мы ня можам пытацца, ці трымаў ён Велікодны пост? Дакладна як вернік у сваіх учынках мае дачыненьне з Богам ва ўласнай душы, так і беларус адказвае перад Бацькаўшчынай ва ўласнай душы. Іншая рэч, калі ягоныя пераканьні сутыкаюцца з асяродзьдзем: варожым або прыхільным. Тады ўжо гэта тычыцца нас усіх разам і мы мусім гаварыць пра гэта ў газэце.

Нагадваем, што Дзень Мовы або Дзень без чужога слова або Моўны пост мы праводзім у другі дзень кожнага месяца. І абавязкова чакаем вашых допісаў з назіраньнямі ў такі дзень – хто й як яго правёў. Наступны Дзень – 2 сьнежня.

Рэдакцыя



# САМАПАДМАН

Звычайна беларусы выказваюцца за сваю мову і ў перапісах насельніцтва большасьцю галасоў называюць яе роднай. Чаму беларусы на сваёй мове не гавораць? На гэтае пытаньне звычайна згадваюць двухсотгадовую палітыку русіфікацыі або пасьляваенную урбанізацыю, разбурэньне самое мовы праз штучнае набліжэньне да расейскай і г.д. Аднак існуе й яшчэ адно вытлумачэньне. Беларусы ў прынцыпе жывуць ненармальна. І тое, што яны не гавораць па-свойму, – гэта частка агульнае ненармальнасьці. Праўда, тых беларусаў, якія не бывалі ў іншых краінах, даволі лёгка пераканаць у адваротным. Што, дарэчы, і робяць пасьпяхова кіраўнікі краіны. Ізаляванасьць ад сьвету дазваляе кіраўнікам маніпуляваць чалавечай сьвядомасьцю, падтрымліваць ва ўяўленьні людзей тое пачуцьцё асабістае залежнасьці ад уладаў, якое наш народ вынес з досьведу савецкага жыцьця.

У чым тут справа?

Справа ў тым, што беларусы наракаюць на высокія кошты. І менавіта гэтым яны найперш адрозьніваюцца ад амэрыканцаў, французаў або ўжо нават і літоўцаў, якія наракаюць на нізкія заробкі. Ай-яй, – бядуе беларуская цётка, гэта ж цукар ужо 45 тысяч за кілю. З пункту гледжаньня амэрыканца або літоўца па-першае, чвэрць даляра за кілю цукру – гэта ня грошы, а па-другое, няхай цукар каштуе хоць 45 мільёнаў – ня ў гэтым рэч, рэч у тым, колькі ты атрымліваеш. Прэзыдэнтам Клінтану або Адамкусу вельмі няпроста маніпуляваць уяўленьнямі людзей, якія ацэньваюць гэтых прэзыдэнтаў паводле росту ўласных даходаў. Лукашэнку, наадварот, вельмі лёгка займацца маніпуляцыямі, бо народ пазірае на кошты, а кошты ППРБ ніколі публічна не падымаў, а толькі зьніжаў. Кошты падымалі чыноўнікі, якіх Лукашэнка за гэта пэрыядычна здымае і садзіць у турму. Сам жа ён падымае менавіта даходы насельніцтва. Вось пэнсію на трыццаць працэнтаў падняў. Праўда, зайчык за гэты час абясцэніўся ўдвая. Але гэта банкіры вінаватыя. І яшчэ – Лукашэнка плаціць мала, але рэгулярна.

Народ перабірае ў кішэнях свае мільёны, але не наракае, што рэальны кошт гэтых мільёнаў мізэрны. Вось кошты бянтэжаць.

Калі б беларускі чалавек разважаў як той амэрыканец, француз, або ўжо нават літовец, яму б ніяк не выпадала дзяліць выканаўчую ўладу на добрага царка і благіх баяраў. Ён бы заўтра ж выйшаў на вуліцу з патрабаваньнем павысіць даходы. Патрабаваць жа зьнізіць кошты – гэта тое самае, што называць беларускую мову роднай, але не карыстацца ёю. Іншымі словамі – самападман.

**Алесь Кебік**

*Ліставаньне*

# КРОКІ НАСУСТРАЧ

*Добры дзень, шаноўная рэдакцыя!*



*Гэта яшчэ адзін з шматлікіх лістоў у вашую падтрымку.*

*Зараз я вучуся ў 10 клясе. Да дзявятай спазнавала сьвет на беларускай мове. 10 гадоў таму мая маці аддала мяне ў беларускую школу, хоць яна была вельмі далёка ад дому. Зь цягам часу з усёй школы засталася толькі адна беларуская кляса, якую мы з аднаклясьнікамі не хацелі аддаваць пад расейскі ўплыў. Мы трымаліся, як маглі, нашыя бацькі пісалі заявы на тое, што хочуць, каб іхныя дзеці навучаліся на роднай мове. Але ўсё ж у 96-м годзе кляса была расфармаваная.*

*Зараз вучуся ў эканамічнай клясе з расейскай мовай навучаньня, і да гэтага зусім не ляжыць мая душа, але так я маю дадатковы шанец паступіць ва ўнівэрсытэт. Адзінае, што ў мяне засталося ад беларускай школы — гэта веданьне мовы, пачуцьцё гонару за Беларусь і вашая газэта, якая ўвабрала нашае гістарычнае мінулае і нашае будучае. Трымайцеся, бо вы патрэбныя нам, «нам» — я маю на ўвазе пакаленьне, якое толькі пачынае ўваходзіць у грамадзкае жыцьцё і разумець, кім яно ёсьць. «Наша Ніва» адзіная газэта, якая ня здрадзіла сабе і гісторыі. Сапраўды, у такі складаны час, калі беларускасьць вынішчаецца, у школах дзецям унушаецца нянавісьць да ўсяго беларускага. Я ня ведаю такой другой краіны, дзе б агрызаліся на цябе, калі загаворыш на роднай мове ў грамадзкім транспарце.*

*«Наша Ніва», я веру, сустрэне час, калі зможа з гонарам у голасе сказаць: «Гэта мы вытрымалі ганьбу Беларусі, гэта з дапамогай нас новае пакаленьне можа сказаць «Я — беларус».*

Таццяна М., Менск

**Славамір Адамовіч**

*Прывітаньне, паважаны (...)!*

*Вось перабралася я ў вялікі горад Віцебск і займаюся напісаньнем лістоў. Між іншым, я даўна нічога ня чула пра Вашу дзейнасьць і мы ня мелі ад Вас ніякіх зьвестак. Тым больш мне хочацца пагутарыць (...) НА НАШАЙ РОДНАЙ МОВЕ, бо тут я ўжо зара? развучуся размаўляць па-беларуску. Віцебск хоць і вялікі горад, ды яшчэ і абласны цэнтар, але роднай мовы тут ні разу яшчэ ня чула. Як паступіла, думала, што сутрэнуся з моладзьдзю, якую хвалюе наша будучыня (маю на ўвазе будучыню беларусаў). Уяўляеце, якое расчараваньне, калі ўбачыла, што нікога гэта не цікавіць. Тут В.С. мне навучаньне такое даў, што ўсім трэба, уся моладзь гарой за Беларусь. Я, вядома, доўга яму пярэчыла і на гэтым мы разышліся (...). Я вучуся на закройшчыцу ў вучылішчы і задаволена гэтым. Праўда, не хапае вельмі дому і сяброў. Я спадзявалася тут, у горадзе, знайсьці аднадумцаў, з каторымі было б цікава, каб нехта разумеў і з кім можна было б проста пагаварыць. На жаль, у нашай моладзі адсутнічае пачуцьцё незалежнасьці, а нас яшчэ агітавалі ў лукашэнкаўскую партыю ўступаць. Між іншым, палова ўжо запісалася. Мама казала мне, каб я там сваіх думак хаця не выказвала, бо магу нажыць сабе непрыемнасьцяў. У нас усе настаўнікі жывуць па савецкай палітыцы, закаханыя ў Леніна й Расею. Здаецца, такое сучаснае вучылішча, такое прэстыжнае, а такія застарэлыя погляды. Я як дамоў прыяжджаю — адпачываю душой, бо магу хоць паразмаўляць на сваёй цудоўнай мове. Я ўспамінаю, як мы з мамай былі ў Вас, і як Вы нам камплімэнтаў надавалі за тое, што мы добра ведалі беларускую мову. А тут калі выпадкова скажаш па-беларуску, то глядзяць як на цуд нейкі. Тут усе такія «русские», аж жудка робіцца. Увогуле я расчаравалася ў горадзе, уяўляла сабе неяк па-іншаму. Людзі нейкія чужыя, няма простай чалавечай дабрыні. Мне, бывае, хочацца спытаць у каго-небудзь, куды мы ўсе коцімся? Кожны думае толькі як выжыць, заняты марамі пра грошы й багацьце. Напэўна, гэта цяпер асноўная праблема ўсіх людзей.*

*(...) Толькі не зьвяртайце ўвагі на мае памылкі, бо граматыкі я амаль ня ведаю. Прывітаньне ад маіх дамашніх і да пабачэньня!*

Зоська
Менск, лістапад 1998 г.



Дзень добры, Зося!

Малайчына, што напісала. Пішы заўсёды, нават калі не выпадае спадзявацца на адказ. Галоўнае – тое, што хвалюе цябе, твае жаданьні. Жаданьні ў саюзе з розумам даюць перамогу й прагрэс. Вялікія жаданьні прыводзяць да вялікага посьпеху...

Але вось што я хачу заўважыць на некаторыя твае крыўды, выказаныя ў лісьце. Няхай цябе асабліва не хвалюе той факт, што людзей хвалюе праблема выжываньня, грошай. Гэтыя людзкія хваляваньні – нармальныя. Няхай багацеюць. Стануць на ногі –падумаюць і пра душу, і пачнуць вызваляцца ад страху. І чым хутчэй будуць сябе праяўляць адважныя адзінкі, тым хутчэй будзе вызваляцца ад дурнаты й самаабмежаваньня ўсё грамадзтва.

Ты вось пішаш, што табе хочацца пагаварыць «на нашай роднай мове». Дык гавары, мілая Зоська, гавары! Будзь сабою! Не ламі сябе праз калена! Іначай усе твае ўздыханьні й словы будуць марнымі. Гэта нічога, што ты дзяўчына й прыналежыш да гэтак званага слабага полу. А ты будзь моцнай! Ты – цэнтар, ты паўсюль гаворыш па-беларуску (з выкладчыкамі на занятках, з суседкамі па пакоі, з хлопцамі-кавалерамі). Гэта спачатку, месяц-два яны пасьмяюцца, паглядзяць на цябе «як на цуд нейкі». Потым сьмяяцца будзеш ты, ты ўбачыш, як гэта файна –заставацца самой сабою, ломячы любыя перашкоды. А вось калі ты пачнеш інтэнсыўна вучыцца сацыяльнай мімікрыі, г. зн. пераходзіць у горадзе на расейскую мову, уступіш у «лукашэнкаўскую партыю» (я так зразумеў, што гэта БПСМ), сапраўдныя думкі свае будзеш хаваць, то, па-першае, табе самой будзе гідка ад гульні ў хованкі з уласным ценем, а, па-другое, пры такім развароце тваёй жыцьцёвай хады і я згублю цябе. Не, ты, магчыма, і будзеш чытаць, слухаць мяне і пра мяне, але жывыя ўзаеміны, бадай, згаснуць. Бо не хачу даваць таму, хто ў нашай справе беларускай можа нешта зрабіць, ды ня хоча. Ад таго, хто ня можа, і не патрабуюць. А ты – можаш! Твая справа – быць сабою, беларускай з Пастаўшчыны, вартай родзічкай твайго дзядзькі Вітольда. А ён мог і заставаўся самім сабою; чытаў кнігі, якія хацеў, казаў, што думаў, уголас і прылюдна, а не шаптаўся па завугольлях (бо вядома, што шэпты хату зводзяць).

Дарэчы, пра твайго дзядзьку. У сьнежні Беларускі гуманітарны фонд «Наша Ніва» мяркуе арганізаваць выставу, прысьвечаную беларускім нонканфармістам (дысыдэнтам) 60-70-х гадоў. Спадзяюся, імя твайго родзіча Вітольда Дзісько, якое цяпер вядомае ўжо ня толькі вашай сям'і, будзе гучаць на гэтай імпрэзе.

Я хоць і выступаю тут у ролі катэгарычнага дыдакта, але зразумець тваё становішча магу, бо ў любым выпадку ты мне паводле свайго натуральнага, наіўна-маладога беларускага духу бліжэй, чым сотні, калі ня тысячы, нашых гора-інтэлігентаў. І з граматай у цябе ўсё нармальна. Каб так зьмястоўна пісалі нашыя настаўніцы бел. мовы, мы маглі б лічыць сябе геніяльнай нацыяй.

Пра В. С. Ня ведаю, дзе вы зь ім зьляцеліся, толькі мушу сказаць, што гэта цьмяны чалавек. Блытаньнік. А нам патрэбныя людзі сталёвай волі, перад якімі ня ўстояць ніякія запоры. Ну а моладзь, якая за Беларусь, яна ёсьць. І ня толькі ў Менску. Прыйдзе час, і ты яе спаткаеш. Але толькі ў разе тым, калі будзеш заставацца сабою сапраўднай.

Зоська, дзяўчынка, я таму такі рэзкі ў сваім адказе, што не хачу згубіць яшчэ аднаго знаёмага чалавека, які можа стаць Нармальным Беларусам і праз гэта – маім сябрам ці хоць бы проста таварышам. Зрабі так, каб я не згубіў цябе.

Заставацца здаровенькай, жадаем табе я і мае таварышы!

Мірон.

P. S. Каб ведаць пра нашую дзейнасьць – чытай «НН».



# БПСМаўцы супраць

У кастрычніку 1998 году Малады Фронт правёў ананімнае сацыялягічнае апытаньне сярод беларускае моладзі ад 14 да 25 гадоў. Было распаўсюджана больш за дзьве тысячы анкетаў з пытаньнямі агульнапалітычнага і грамадзкага зьместу:

— Хто, на вашую думку, мог бы стаць сёньня дастойным кіраўніком беларускай дзяржавы?

— За каго б вы прагаласавалі сёньня на свабодных парлямэнцкіх выбарах?

— Якую маладзёвую арганізацыю вы падтрымліваеце?

— Як вы ставіцеся да будаўніцтва АЭС у Беларусі?

Агульнабеларускія вынікі яшчэ не падрахоўваюцца, а вынікі менскага апытаньня (542 анкеты) ужо падведзеныя. Апытаньне праводзілася ў большасьці менскіх ВНУ (БДПА, БДУ, БДЭУ, МДЛУ, БПУ, БАТУ), некалькіх вучэльнях і тэхнікумах, 23-х школах розных раёнаў Менска. Самім маладафронтаўцам было забаронена адказваць на пытаньні анкетаў. Парытэт дзяўчат і хлопцаў быў захаваны як 55/45. Студэнты, школьнікі, старэйшыя за 14 гадоў, а таксама рабочая й службовая моладзь, асьпіранты да 25 гадоў склалі прыкладна роўныя катэгорыі, як гэта й мае месца ў Менску.

Адказы на першае пытаньне нас зьдзівілі. Мяркуйце самі, больш як 67% моладзі (а гэта 2/3) адказалі, што кандыдытаў у дастойныя кіраўнікі нашай дзяржавы на сёньняшні дзень у Беларусі няма. Такім чынам, бясспрэчны факт: сярод сёньняшніх палітычных лідэраў моладзь ня бачыць патэнцыйнага прэзыдэнта. Досыць нечаканай была і раскладка магчымых прэтэндэнтаў:

Лукашэнка 14,7%
Пазьняк 7,9%
Карпенка 5,4%
Шушкевіч 1,9%
Ганчар 1,1%

Іншыя кандыдаты разам набралі менш за 2%. Лідэры камуністаў не набралі ніводнага голасу.

Нас вельмі зьдзівіла першае месца Лукашэнкі. Яшчэ год таму, адказваючы на падобнае апытаньне, менская моладзь «падтрымала» Лукашэнку

# ГРЫПАВІРУС

Пра тое, што нашае грамадзтва хварэе, вядома даўна. Пра тое, што нашая эканоміка хварэе, мы таксама ведаем даўна. Таксама і з экалёгіяй, і з культурай, і з апазыцыяй. Відаць, ня хворая ў нас толькі ўлада. Ёй няма калі хварэць, яна занятая сваімі справамі — экспансіяй на Ўсход, рыканьнем на Захад і нацыянальным хакеем. У пэўны час дзяржаўныя чыноўнікі цалуюцца з расейцамі, сварацца з NATO і гуляюць у хакей. Тыя, хто ім супрацьстаіць унутры краіны, гуляюць у гульні іншыя — яны шукаюць. Агентаў у сваіх шэрагах. Гульня цікавая, апошнія кампутарныя прыдумкі — не канкурэнты, тут жа — ніякай віртуальнасьці. З «агентам» можна выпіць філіжанку кавы ці пляшку піва, а пасьля заняцца вельмі цікавай аналітычнай справай. Прыкінуць усе «за» і «супраць», падзяліцца канфідэнцыйнай інфармацыяй з праверанымі таварышамі і вызначыць плян дзеяньняў у гэтым кірунку на заўтра.

Праблема «агентаў» заўжды актуальная, тым болей, калі ня ладзяцца ўласныя справы, а па расейскіх каналах шуруюць з зайздроснай пэрыядычнасьцю сэрыялы пра 007. Як тут не прасякнуцца праблематыкай.

У самых разнастайных апазыцыйных арганізацыях ці незалежных сродках масавай інфармацыі, асабліва за чаркай, тым больш калі вы ня маеце дачыненьня да хаця і братняй, але канкурэнтнай канторы, вам распавядуць пра «агентаў» усё — рост, вагу, памер ботаў, на якім паверсе жыве, дзе і якія заданьні выконвае, нават службовую мянушку і пароль. Усе шукаюць і... вядома, знаходзяць. Тым часам на мітынг да дзесяцігадовага юбілею БНФ ледзь зьбіраецца тысяча адданых фанатаў, уплыў разам узятых апазыцыйных партыяў добра калі сягае дзесяці адсоткаў, наклады незалежных выданьняў уражваюць сваімі памерамі, а радыёстанцыі — слухацкай аўдыторыяй. Гэта пры тым, што папулярнасьць нават гуляючай у хакей улады не расьце. Можа, і там ужо перасталі гуляць у хакей і шукаюць... Дзе падзеліся зьніклыя працэнты папулярнасьці. Усе шукаюць, ад экзальтаваных асобаў да арганізацыяў, якія прэтэндуюць на салідНасьць.

Восень. Грыпавірус. Электарат таксама шукае... бульбу на палетках і што таньнейшае ў крамах. Дзе зарабіць капейку і як яе захаваць.

Усё пераблыталася, усіх апанаваў паляўнічы азарт, усе зрабіліся «сьмершаўцамі» — сьмерць шпіёнам. Калі зьнікаюць грошы — агенты, калі завалілася справа — агенты, дзіця ў школе двойку атрымала — таксама «проіскі», карацей, татальны наступ ГБ. Ці магчыма пазбавіцца ад ГБ? Ці магчыма пазбавіцца ад хіміі, якая «широко простирает руки свои в дела человеческие»? Некаторыя новапаўсталыя аўтарытэты вышуку лічаць, што магчыма. Я ж сьціпла мяркую, што мафія ня гіне, таму, шаноўныя спадарове, хай ГБ займаецца сваёй справай, а мы — кожны сваёй, як той казаў, Богу богава, ГБ гэбэшнае. Жывуць жа некаторыя шмат гадоў з дамавікамі і барабашкамі, і нічога. Бывае нават, што дамавікі й барабашкі прасякаюцца іхнымі праблемамі і дапамагаюць, бо й дамавікі, і барабашкі — таксама людзі, хоць і былыя, і нішто чалавечае ім не чужое. Галоўнае, каб усе працавалі прафэсійна і рабілі сваю справу так, каб за яе не было сорамна. Профі будзе паважна ставіцца да профі, нават апанэнта. Пакуль жа, гледзячы на прафэсійную дзейнасьць апазыцыйных арганізацыяў і незалежнай прэсы, застаецца адно шукаць агентаў. Але канцы дурное, хай ГБ гуляе ў свае гульні з ЦРУ, ФСБ, «Масадам» ці само з сабой.

Праз нейкі час адкрыюцца архівы, магчыма, значна раней, чым хтосьці сабе ўяўляе, і кожны з тых, хто прагне даведацца —хто, дзе й калі быў яго «добразычліўцам», відаць, атрымае такую магчымасьць, бо напісана — няма нічога таемнага, што ня стала б яваю, але ці зробіцца ад гэтага лягчэй, бо ізноў жа сказана — нашыя веды памнажаюць наш смутак. А каб не сумаваць, працуйце, спадарове, працуйце сур'ёзна, на СВАЁЙ дзялцы, бо што ёсьць лепшае за добрасумленна зробленую справу, тады, можа, і пасьля адкрыцьця архіваў вы ня будзеце надта сумаваць, бо зразумееце, што аказаліся мацнейшымі, а для моцных людзей гэта ня суць важна, бо «ёсьць рэчы, важнейшыя за атамную вайну».

**Алег Дашкевіч**

# БАРБАРА. ПЛАЧ ЗАМЕСТ ГІМНУ

А Літва, як і Амэрыка, даўно адчыненая. Толькі ў Амэрыцы ўжо колькі стагодзьдзяў стала жывуць людзі, а ў Літве няма жыхароў. Заходзяць на Літву калі-нікалі цікаўныя наведнікі, экскурсанты, але не гаспадары. Ды ўсё ж я ВЕДАЮ, што ЛІТВА – нашая АБЯЦАНАЯ ЗЯМЛЯ. Буду жыць на Літве адна. Мае блудныя дзеці разышліся па сьвеце долі шукаць. А я ім дарогі не заступала, бо ў кожнага дарога свая. Мо й вернуцца калі-небудзь... Прыму іх любых бяз крыўды, бяз злосьці, без папроку, на тое я – іхная маці.

А зараз я па Літве блукаю, продкаў сваіх шукаю. Ёсьць продкі зямныя, а ёсьць касьмічныя. Вунь мільгануў сьветлы, спакутаваны цень Барбары Радзівіл. Яшчэ адна непрызнаная-забраная Наша Нацыянальная Гераіня. Хто расьпіша Цябе дзёрзкімі вершамі? Хто складзе Табе велічны Гімн? Ты яго заслужыла. Зьмялеў наш радавод. Выраздзілася мужчынскае племя. Ах, Барбара! Дзе твой Жыгімонт? Той Адзіны Мужчына, дзеля якога варта было жыць і памерці, дзеля якога Ты зьдзейсьніла подзьвіг? Няма яго. Цяперашнія хлопчыкі пішуць вершыкі пра Клеапатру, а Ты, Ліцьвінская Каханка, усімі забытая. Што ж, калі мужчыны не прысьвячаюць табе дзёрзкіх вершаў, буду дзёрзкай я, жанчына, бо Ты, мая адважная, свабодалюбівая Сястра, першай паўстала адваёўваць забраныя правы жанчын. Вайдэлётка каханьня, ты не была начыньнем шэрым матылькам, ды хутчэй грацыёзнай стракaзой, якая стала птушкай, якая зьвіла б сваё гнязьдзечка і выгадавала ў ім дзетак?! Відаць, лета было занадта кароткае. Не пасьпела. «Птушка чалавецтва ня можа лётаць на адным крыле», – прамаўляў Вівэкананда, маючы на ўвазе праўдзівае разьняволеньне жанчыны. Ведаю, ведаю: не чытала ты, не цікавілася вучонымі кнігамі. Мо ад таго й шчырасьць твая была няўзброеная, ад таго й Літва-Маці не збудавала свой Пасад. Сястра мая, Ты цяпер мудрэйшая за мяне, Табе з Вышыні відней. Навучы мяне Каханьню.

... Якая ж ты каралева, Барбара? І твой Жыгімонт – не кароль. Лес. Зіма. Каралеўскае паляваньне. А вы абое ўцяклі ад слуг, ад сяброў, ад справаў, ад забаваў, і нікога й нічога больш на сьвеце няма. Толькі Ён... Толькі Яна... Ах, якімі дарагімі каштоўнасьцямі зіхціць і прываблівае да сябе чысьцюткай белізною сьнег! Высока ўзьбітая пышная сьнегавая пярына. Ускараскацца на яе можна толькі на паляўнічых лыжах, інакш рызыкуеш па грудзі праваліцца ў сьцюдзёную пасьцелю. О, як сьляпіць, палае на ўвесь лес сонца, не раўнуючы, як сэрца ў грудзёх! «Любы, заслані!» – выдыхаюць мілыя-пяшчотныя вусны, каб не парушыць гармоніі дзьвюх чалавечых душаў зь лясным сьветам. А ён, такі чуйны, клапатлівы, нямы, умомант выканае гэтую просьбу – ружовае выдыханьне. Дужыя рукі Жыгімонта падхопяць Барбару, і закаханыя ператворацца ў першабытных Адама ды Эву. Што з таго, што наўкола не Эдэмскі сад, ды засьнежаны лес?! Наймагутнейшая ў Сусьвеце Сіла Каханьня зьліе іхныя целы ў адно рэчышча, і тая вогненная рака растопіць сьнег..., а можа, не растопіць... Сьнег, як птах белы, два скрыдлы развіне ды раптоўна зьляціць. Цёпла й блакітна стане наўкола. Хлыне пах Італіі з пахам ружаў і язьміну... Гэта дзесьці ўжо было... У каго? З кім? Можа, у Міцкевічавым Сьне?.. Можа, у Ганны?.. Можа, у Марыі... Але яны былі ня першыя, хто набліжаў вясну чалавецтва.



Ах, Барбара! Прыгожае тваё Сьвятло! Пазыч мне тваёй прыгажосьці, а я табе дам праўдзівае цяпло агменю, таго, што саграе цела ды лекуе душу. Падзелімся, як Сёстры! Маё цяпло загоіць нарывы на тваёй скуры, нанесеныя людзкой злосьцяй ды зайздрасьцяй. А Твая Прыгажосьць дасьць мне, зямной жанчыне, тую Сілу Каханьня, якой валодаеш Ты, Нябесная. Цяпер восень. Дзяды. Твой птах белы няхай прыляціць да мяне, на Літву, на двух аднолькава магутных скрыдлах, бо мы папраўдзе роўныя. Мужчына і Жанчына. Да нас, на Літву.

... Барбара Радзівіл была для Літвы як легендарная Эва для Эдэмскага саду. І адна, і другая інтуітыўна ўгадалі, што ў гэты момант трэба разьняволіць сардэчную энэргію. На жаль, і першая, і другая не паслухаліся Найвышэйшага Наказу аб бясконцай карпатлівай працы. Таму й літва ня сталася Літвой, таму й зямля ня сталася Зямлёй...

... папраўдзе роўныя: Мужчына і Жанчына...

... да нас, на Літву...

**Ганна Матусэвіч**

# ППРБ

мізэрнай лічбай у 5,7%. Мы думалі, што сёньня ўся справа — у раскручваньні БПСМ. Але гэта, як мы пабачым далей, аказалася ня так. Усе астатнія кандыдаты (Пазьняк, Карпенка, Ганчар) захавалі свае пазыцыі гадавой даўніны, рэйтынг Шушкевіча істотна панізіўся.

«ПАРЛЯМЭНЦКІЯ ВЫБАРЫ»

Тут карціна больш ясная:

БНФ — 23,5%
Сацыял-дэмакраты — 13,1%
АГП — 7,7%
Радыкальныя нацыяналісты (быў і такі радок) — 2,4%
Камуністы — 2,1%

БНФ захоўвае сваё бясспрэчнае лідэрства сярод менскай моладзі. Нагадаем, год таму за БНФ «галасавала» блізу 1/4 студэнтаў і школьнікаў. Вельмі істотна палепшылі свае пазыцыі сацыял-дэмакраты. Высокі адсотак «ружовых» нашыя аналітыкі тлумачаць магутнай эўрапейскай хваляй сацыял-дэмакратыі. На жаль, ніводзін з прыхільнікаў БСД не пажадаў канкрэтна ўказаць, якую з сацыял-дэмакратычных беларускіх партыяў ён меў на ўвазе. 2,4% моладзі лічаць, што БНФ недастаткова радыкальны ў нацыянальным пытаньні. І гэтага таксама нельга ня ўлічваць. Камуністы, якія год таму мелі 5% падтрымкі, аказаліся ў хвасьце рэйтынгу.

Адказы на трэцяе пытаньне — «Якую маладзёвую арганізацыю вы падтрымліваеце?» — размеркаваліся наступным чынам:

Малады Фронт 27,2%
БПСМ 10,2%
БСМ 3,0%

Іншыя маладзёвыя арганізацыі (называліся «Маладая Грамада», «Белы Легіён», піянэры, анархісты, «Чырвоны Жонд», «Грамадзянскі Форум» і нават РНЕ) набралі менш чым па 1% кожная.

Больш за 43% моладзі адказалі, што прынцыпова не падтрымліваюць ніякую маладзёвую арганізацыю.

Відавочны лідэр — Малады Фронт. Гэта зьвязана, па-першае, з «электаратам БНФ» (гл. вышэй), па-другое, з актыўнай дзейнасьцю ў Менску самога Маладога Фронту, па-трэцяе, з пратэставым галасаваньнем супраць БПСМ.

Дарэчы, менавіта ў БПСМаўскіх анкетах нас і падсьцерагала СЭНСАЦЫЯ, вынесеная ў загаловак. Як бачым, БПСМ набраў больш за 10% падтрымкі сярод менскае моладзі. Большасьць гэтых анкетаў, відавочна, запаўнялі члены БПСМ. Год таму за БПСМ выступіла толькі 2,5%. Інтрыга заключаецца ў тым, што толькі 1/3 БПСМаўцаў лічаць дастойным лідэрам Беларусі Лукашэнку! Астатнія 2/3, як ні дзіўна, галасавалі за сацыял-дэмакратаў, Карпенку, АГП і нават (было аж сем такіх анкетаў) за БНФ. Адсюль вынік: у БПСМ уступаюць зусім не заклятыя лукашысты, а аматары лёгкай кар'еры, грошай і АГП.

АЭС У БЕЛАРУСІ

Адносна будаўніцтва АЭС менская моладзь выказалася амаль аднaзначна:

За 21,5%

Супраць 56,3%

Ня ведаюць ці ня вызначыліся 22,2%

Пасьля падвядзеньня агульнабеларускіх вынікаў Малады Фронт плянуе азнаёміць грамадзкасьць і зь імі.

**Аналітычны цэнтар Маладога Фронту**

# РЫЦАРЫ ПАВОДЛЕ



У далёкія сярэднявечныя часы выхаваньне хлопчыкаў было немудрагелістым, але цяжкім фізычна. Як апісваецца ў рыцарскім рамане «Трышчан і Іжота», у сем гадоў маладога княжыча Трышчана «забралі з рук жанчын» і даверылі «слаўнаму конюху Гарвэналу. Вельмі хутка Гарвэнал навучыў яго ўмельствам, якія былі прыстойныя для князя: як валодаць дзідай, мячом, шчытом і лукам, кідаць каменныя дыскі, пераскокваць адным скачком найшырокія равы; навучыў яго ненавідзець усякую хлусьню, усялякае вераломства, дапамагаць слабым, трымаць дадзенае слова, навучыў усялякага роду сьпевам, ігры на арфе і паляўнічай справе». Пасьля такіх навукаў хлопчык вырас у «прыгожага, мужнага, шыракаплечага, тонкага ў таліі, моцнага, вернага і сьмелага» маладога мужчыну.

Нашым гарадзкім хлопцам гэтага не стае. Мала прасторы для подзьвігаў і выпрабаваньняў. Якраз у рыцарскім руху можна і пафантазіраваць, і сябе выпрабаваць. Тут і вандроўкі, і турнір, і штурм замка. Беларускім Рыцарскім Клюбам кіруе Арына Вячорка:

«Клюб узьнік у 1993 годзе. Напачатку гэта было дзіцячае згуртаваньне, якое сьвядомыя беларускамоўныя бацькі зарганізавалі для сваіх дзяцей. Тады, у пачатку 1993 году, нашым хлопцам было ў асноўным па дзесяць гадоў, і яны працавалі з пап'е-машэ, з кардонам, гулялі ў настольных плястылінавых жаўнерыкаў і біліся на драўляных мячах. За гэтыя гады яны шмат чаму навучыліся і зараз самі могуць навучыць іншых, як рабіць латы і дасьпехі. Праца ў нас так пастаўленая, што старэйшыя перадаюць свае ўменьні малодшым. Я, напрыклад, удзячная свайму былому выхаванцу Міколу Плавінскаму, зараз сябру клюба «Калюмны», які навучыў новых хлопцаў і са скураю працаваць, і рабіць зборны дасьпех. Я ўдзячная Мікіту Матусевічу за фэхтаваньне на мячах, і за выклад прыёмаў самаабароны. Удзячная нашым дзяўчатам, якія падтрымліваюць імідж клюбу і славяцца сваёй прыгажосьцю сярод іншых клюбаў.

Менавіта наш Клюб быў першым рыцарскім клюбам у Менску. Разам з намі распачаўся рух ролевых гульняў у Рэчыцы і Гомелі. Зараз на Гомельшчыне знаходзіцца цэнтар ролевага мадэляваньня. А на базе нашага клюбу выраслі ўсе цяперашнія кіраўнікі буйных рыцарскіх клюбаў Беларусі. Па Менску іх зараз болей за шэсьць. А цяпер утвараюцца клюбы па ўсё Беларусі. Я шчыльна сябрую найперш з вайскова-гістарычным клюбам «Калюмны». Яго стварылі студэнты БДУ (гістарычны факультэт), якія працуюць у рэчышчы рэканструкцыі вайсковай гісторыі Вялікага Княства Літоўскага. Астатнія ж клюбы займаюцца проста гульнёю па эўрапейскай гісторыі. Гэта таксама добра тым, што падлеткі нечым занятыя, але беларускасьці там няма. Сярод рыцарскага руху нарэшце пачынае адчувацца цікавасьць да таго, з чаго мы пачыналі ў 1993 годзе. Многія ўспомнілі, што існавала беларуская шляхта, што была замкавая культура, што былі свае кавальскія традыцыі, што быў свой адметны стыль у войску літоўскім. Узгадваюцца беларускія назвы, вычытваецца Статут ВКЛ. І гэты працэс закрануў усе рыцарскія клюбы. Цяпер клюбы — гэта ўжо не тусоўка, а пачынае фармавацца сьветапоглядная група людзей, якія ўжо некалькі гадоў у рыцарстве і нарэшце прыйшлі да таго, што трэба адраджаць свае культурныя і гістарычныя карані.

Мы лічым, што рыцар — гэта ня толькі ваяр, але й чалавек, які займае актыўную грамадзкую пазыцыю і сьцьвярджае сябе ў грамадзтве. Мы занялі пазыцыю адраджэньня кансты-

# ВАЎЧЫНАЯ ЯМА

**Васіль Быкаў**

*Заканчэньне. Пачатак у 19-м нумары.*

Шлях свой сюды салдат збольшага памятаў, той пралягаў уздоўж крывулякі-ракі. Адсюль мо кілямэтраў пяць было да броду, а там яшчэ колькі полем да хутара. Заблудзіць ён не павінны, тым болей удзень. Толькі б не натыкнуцца на людзей, на міліцыю. Галоўнае — за рэчкай перайсьці гравійку-шашу, па якой, напэўна, гойсаюць патрулі, занепакоена думаў салдат. Усё ж як ні было рызыкова, а трэба было здабыць агню, безь якога ім жыць стала неяк. А яшчэ хлопец таіў прыліпчывую надзею паесьці. Можа, у старога паесьці будзе чаго. Той раз ён частаваў салдата бульбай з прастаквашай і нават быў хлеб. Ён доўга яшчэ шкадаваў, што хлеба тады зьеў адну толькі лусту і цяпер адчуў паўзабыты пах зваранай у печы бульбы з падгаркамі на верхніх бульбінах. Можа, яму пашчасьціць, бо згаладнеў ён у зоне, як мае быць. А да жабаў так і не адолеў гідоту і еў хіба, каб не сканаць ад голаду. Нішто яго так не гняло там, як голад, заўжды хацелася есьці. Ніколі раней ня думаў, што пачуцьцё голаду можа быць такім неадвязным і такім гнятлівым. Нават і ў тым даўнім выпадку, як спрабаваў уцячы ад мачыхі да бабулі на вёску і два дні праседзеў у пустым хлеўчуку без вады і ежы. Есьці тады нават ня дужа і хацелася, было страшна, што яго знойдуць. Яго і знайшлі. Дзяўчынкі з суседняга двара падказалі міліцыі, і тая яго ўзяла на сьвітаньні соннага. Пасьля быў пастарунак, нейкая дзяўчына ў міліцэйскім, якая ўсё нешта ад яго дамагалася. Дужа сорамна было затым вяртацца да мачыхі, і ён яшчэ дзень ці болей ня еў. І не хацелася дурню...

Ісьці каля рэчкі сьцяжынамі было даволі нязручна, тыя толькі дзе-нідзе захаваліся ў кустоўі і лазьняку, а ў большасьці пазарасталі хмызам і крапівой — ня згледзець. Тады ён прастаў шлях і шыбаваў дзе хмызьняком, а дзе лесам; часам трапляла перайсьці лужок з высокай, да калена травой, якая гучна шорхала па халявах ботаў. Людзей не было нідзе. Ды, мабыць, і не магло быць — усё ж тут пачыналася праклятая зона, якой палохаліся за дзясяткі кілямэтраў адсюль. Ён таксама баяўся, але тое ранейшае страхавітае пачуцьцё, зь якім ён ішоў сюды, неяк прытупілася. Падобна, ён стаў прывыкаць да небясьпекі ці прымірыўся зь ёй як зь непазьбежнасьцю. Можа, гэта й добра, а можа й не.

Абы толькі пашэнціла на хутары, думаў салдат. Абы не спаткаць там чужых, а дзед яму дапаможа. Як дапамог першы раз, дык дапаможа і яшчэ. Ды й ён уважыў старога — пайшоў, каб таго не абвінавацілі, што схаваў. Праз той выпадак дзед нібы стаўся ягоным саўдзельнікам і, напэўна, таксама падлягаў адказнасьці. Цікава, а ці падлягае адказнасьці бамж? Мабыць, так. Усё ж салдат распавёў яму пра забойства, значыцца, той павінен данесьці ўладам. Ва ўсякім разе не хаваць злачынцу. Такія вось законы і такое права — данесьці на таго, хто побач, з кім дзеляць хлеб і ложак... Дужа маральны закон, — нічога ня скажаш, разважаў салдат. Найбольшай бяды належала чакаць ад людзей, якія дужа сябравалі з законамі, а бамж яго не прадасьць, тое салдат адчуваў пэўна. Чаму ён так адчуваў, хто ведае. Мабыць, пачуцьці ня маюць адказнасьці перад законам, таксама як і перад розумам, таму яны й завуцца пачуцьцямі.

Адно было пэўна — за гэты бядотны час у салдата ня стала нікога больш блізкага за двух чалавек — дзеда і бамжа, во ў чым справа. Ужо яны ўтрох таксама, мабыць, зьвязаныя адным няшчасьцем, і калі што — іх напаткае адна бяда. Ці, можа, ужо напаткала...

А можа, плюнуць на ўсё й мятаць куды далей, — ня ў лад з уласным настроем падумаў салдат. Толькі куды?

Так разважаючы, ён ішоў краем бору, перайшоў невысокі баравы грудок. Стала цёпла, ён угрэўся, адышоў ад учарашняга залеўнага холаду. Бушлат яго амаль ужо высах. Навакольны баравы лес, як заўжды, замілаванаю радасьцю клаўся на душу. Хлопцу было ў ім міла і прыемна, і хоць на час прападала гнятлівае пачуцьцё, што не зьнікала ніколі. Ён з захапленьнем азіраў амаль кожную хвойку і думаў, што, можа, гэта ў ягоных генах адгукаецца далёкая мілась продкаў да лесу? Ці, можа, лесу да продкаў — цяпер як дазнаесься? І раптам наперадзе перад ім раскрыўся вялізны пусты прагал, над якім шырока сьвіцілася неба; шмат сонечнага сьвятла ляжала таксама ў доле. Салдат падышоў бліжэй — на вялізным у некалькі гектараў прасьцягу стаялі ссохлыя рыжыя хвоі з таксама ўсохлым рыжым суччом, зь якога абсыпалася долу ігліца. Усё выглядала здаля, нібы даўняе вялізнае пагарэлішча. Але прыкмет вагню тут не было відаць, ніводная хвоя не абгарэла. Значыць, гэта адтуль, ад Чарнобыля, уражаны здагадаўся салдат. Мусіць, добра, аднак, сыпанула сюды стронцыем або цэзіем ці яшчэ якой халерай, і лес не стрываў. Толькі некалькі маладых асінак нясьмела зелянелі між мёртвых хвояў, болей ніякага жыцьця тут не было відаць.

Аж здрыгануўшыся ад страхавітага пачуцьця, салдат збочыў свой шлях. У гэты нежывы лес страшнавата было паткнуцца, і ён пайшоў у абход. Для таго яму спатрэбілася зрабіць ладны крук, перайсьці невялікае, парослае альхой балотца і нарэшце ён выйшаў да рэчкі.

Тое, што ён называў бродам, быў колішні рачны пераезд — з абодвух берагоў да ракі вялі зарослыя ўжо быльнягом ды крапівой аўтамабільныя каляіны, налітыя ад учарашняй залевы вадой. Салдат зьняў боты і, сьлізгаючы ў гразі босымі пятамі, перайшоў неглыбокую рэчку. Апынуўшыся на другім беразе, падумаў, што недзе тут канчалася зона і маглі трапіцца людзі. Аднак да шашы ніхто яму не трапіўся, ён перабег няпыльную пасьля дажджу гравійку і скіраваў у поле.

Закінутае пасьля чарнобыльскага выбуху поле густа зарасло немаведама чым — хамлакі нізкарослага жыта чаргаваліся з зарасьнікамі аўсюга і вікі, нейкага бухматага разнатраўя, сярод якога дзе-нідзе тырчэлі хілыя кукурузныя калівы, а то пачынаў ярка квітнець люпін. Усё тое ня першы год буяла і расло без патрэбы і рук чалавека, самахоць вяла і дзічэла нікому не патрэбным. Людзі страцілі цікавасьць да гэтай зямлі. Хіба апроч дзеда.

Як на раўніннай далечы паказаўся шыфэрны дах дзедавага хутару, салдат аж адчуў хваляваньне. Тады, увесну, добра набадзяўшыся па сырых лясах і пералесках, ён забрыў сюды, бо далей ісьці ня мог, згаладнеў дарэшты. Дзедаў падворак толькі здаля нагадваў хутар, а на справе быў крайняй у вёсцы хатай. Але пакуль была вёска. Цяпер жа ад вёскі лічы не засталося нічога, апроч хіба некалькіх зьдзічэлых яблыняў у былых садках, падмуркаў ды студняў. Дамы дарэшты ўсе пабурылі, расьцягалі на дровы, а то й папалілі. На месцы некалькіх падворкаў хлопец убачыў сьмярдзючыя, парослыя дзядоўнікам пажарышчы. Ён тады абышоў усю вёску і толькі на апошнім двары знайшоў жывога чалавека, які нават спрабаваў тут гаспадарыць: набыў каня, нацягаў такі-сякі інвэнтар, меў карову і пачаў гадаваць цялушку. Вакол сядзібы распрацаваў ладны пляц пакінутай зямлі, на якой нешта ўжо расло; зямля была дбайна апрацаваная і нават угноеная. Дзед, падобна, чуўся здаровым, ня дужа баяўся атаму. Ягоны прыклад даў бегламу салдату немалую надзею.

Салдат таропка крочыў да хутара па бульбяным палетку са сьвежа акучанымі баразнамі; дзе-нідзе ўжо зацьвіталі бела-сінія кветачкі. Мабыць, нішто будзе ў дзеда бульбачка, па-гаспадарску падумаў салдат.

Ён яшчэ не дайшоў да хутара і, мабыць, мала што згледзеў там, як штосьці яму не спадабалася. Штосьці там было ня так, як тады, калі ён завітаў у першы раз. Найперш не было варотаў, і ўжо з поля быў відзён голы дзедаў падворак. Але ці не пусты ён? Ні дзедавага каня, ні каровы зь цялушкай, якія некалі пасьвіліся паблізу на прывязі, нідзе не было відно. Не адзываўся таксама пранізьлівым брэхам Кудлацік. Прыцінаючы непакой, салдат паціху ўвайшоў у двор і адразу ўбачыў старога. Дзед моўчкі сядзеў на ганку і нават не зьдзівіўся ягонаму прыходу, не павітаўся.

— Што ў вас здарылася? — запытаўся салдат, ужо адчуваючы пэўна, што здарылася кепскае.

Дзед павёў на яго патухлым, няўцямным позіркам і моўчкі разьвёў рукамі. Мяркуючы па ўсім, гаварыць яму было трудна.

— Але што? Што такое?

— Ды во, — мовіў нарэшце гаспадар, — разбурылі, абрабавалі. Усё! Усю маю працу. Столькі стараўся...

Здалося, ён аж заплакаў, — зморшчыў аброслы сівізною твар і высмаркаўся на траву.

— Але хто?

— А хто ж іх ведае — хто. Прыехалі з фурай...

— З фурай?

— Ну гэтай — міжгародныя перавозкі...

— Ноччу?

— Удзень. Надвячоркам. Пагрузілі каня, карову зь цялушкай. Выграблі збажыну, ячменя з кубла... Перавярнулі ўсё дагары дном — валюту шукалі.

— Валюту?

— Ну.

— Але хто? Што за людзі? Свае, прыежджыя? — ня мог супакоіць хваляваньня салдат.

— А хто ж іх знае. Чацьвёра. Спраўных такіх. У скуранках. І з наганам. Кудлаціка застрэлілі.

— Во як!

— Вунь за хлевам ляжыць. Закапаць трэба...

Спакваля стары стаў спакайнець, рукавом заношанай сьвіткі выцер змакрэлыя вочы. Трудна падняўся з ганку. Прыгнечаны горам ён здаўся салдату быццам меншым у росьце, чым быў раней, схуднелым і бездапаможным.

— І што казалі? — дапытваўся салдат. — Можа, мяне шукалі?

— Не. І не пыталіся, рабаўнікі нейкія.

— Дык, можа, у міліцыю трэба? Заяву напісаць?

# СТАТУТУ 1588 Г.

туцыйнай манархіі ў Беларусі. Можна спрачацца пра межы ВКЛ, ці то ранейшыя, ці то цяперашнія, але манархія мусіць быць — як гарант пераемнасьці гістарычных традыцыяў. Статут клюба створаны на аснове Статута ВКЛ 1588 году, які ніхто не адмяняў. Калі мы зрабілі спробу ў гэтым годзе зарэгістравацца ў Міністэрстве юстыцыі, дык адбыўся невялікі казус. Зрабілі мы спасылку на Статут 1588 г., а юрысты нам кажуць: «Прынясіце нам гэты Статут». Ну мы ўсьміхнуліся і прынесьлі. Тады юрыст кажа: «Трэба яго заверыць у натарыюса, кожную старонку». А потым пашкадаваў нас і дазволіў заверыць толькі выпіскі з Статута. Як бачыце, заканадаўства ВКЛ існуе дагэтуль.

У гэтым годзе ў сувязі з узьнікненьнем нашага Статуту і ўлічваючы жаданьне людзей рабіць рэканструкцыю ўзбраеньня пэрыяду ВКЛ, зьявілася патрэба кансалідаваць гэтых людзей і арганізаваць для іх лекцыі і кансультацыі. Мы можам і робім гэта на сваёй базе.

Да нас зьвярнуўся Рыцарскі зьвяз з Баранавічаў, зьвярталася Лідзкая суполка імя Гедыміна, рыцарская суполка з Магілёва. Усім ім даем мэтадычную дапамогу. Акрамя гэтага арганізуем сэмінары. Напрыклад, улетку правялі сэмінар «Рыцарства ў мінулым, цяпер і ў будучыні». Даклады рабілі вядомыя беларускія навукоўцы і госьці зь Вільні й Ковенскага гістарычнага музэю. С.Вітушка распавядаў пра адраджэньне грамадзянства Вялікага Княства Літоўскага. Наступны сэмінар будзе называцца «Лёс ВКЛ». Ён пройдзе вясной. І ахвотныя ўзяць у ім удзел могуць зьвяртацца па нашых адрасах і тэлефонах.

Імпрэзы, па дамоўленасьці з музэям Багдановіча, мы робім у Траецкім прадмесьці, але самая наша ўлюбёная мясьціна — гэта стары Лошыцкі парк. Гэта там спынялася войска Ўсяслава перад бітвай на Нямізе. Ужо пяць гадоў, як ладзім там кожную вясну турніры. А летась паспрабавалі штурмаваць замак, што ўсім вельмі спадабалася.

Кожны рыцар у нашым клюбе адраджае радавод сваёй сям'і і займаецца пошукам сваіх каранёў. Робіцца гэта пры дапамозе навукоўцаў. Лекцыі чытае пан Акаловіч са Згуртаваньня Беларускай Шляхты, а таксама геральдыст пан Леўчык, супрацоўнік гістарычнага архіву. Кандыдат гістарычных навук Юры Бохан кансультуе па гістарычным узбраеньні. А спэцыяліст у галіне гісторыі касьцюму 13-16 стагодзьдзяў пані Барвенава выкладае сваю спэцыяльнасьць сябрам клюба. У клюбе мусіць адраджацца шляхецтва, гэта — адна зь першых мэтаў.

**Уладзімер Гуткоўскі**



*На здымках: Арына Вячорка (фота Ул. Сапагова); рыцарскі збор у Лошыцкім парку.*

**Беларускі Рыцарскі Клюб: тэл. у Менску: 231-48-93. Адрас для допісаў: Беларускі Рыцарскі Клюб, 220030, Менск, вул. Кірава, 14. Сустрэчы Рыцарскага Клюбу адбываюцца па адрасе: Менск, вул. Уральская, 41 (пятніца, субота з 17 па 19 г.).**



— Не. Сказалі: заявіш у міліцыю — усё спалім. Ды й міліцыя — ці не яна й навяла гэтых. Яны ж усе ў хаўрусе, — ціха, бы сам з сабой, разважаў стары, стоячы сярод спусьцелага двара. Дзьверы ў хляўкі й каморы былі расчыненыя насьцеж, у сенцы таксама. На траве ляжалі скінутыя з крукоў вароты. Відаць, стары быў моцна ўражаны тым, што тут адбылося і, падобна, паў духам. Салдат таксама быў уражаны і ня ведаў, чым суцешыць старога. Між тым ішоў час, доўга тут заставацца яму не выпадала, і ён зважліва папытаўся:

— Паесьці ня знойдзецца?

Дзед, падобна, трохі аціх у сваім горы і адчуў чужы клопат таксама. Мабыць, згаладнелы выгляд салдата закрануў у ягонай душы іншыя струны.

— Каб жа было што! У печы другі дзень не паліў. Гэта... Чакай, можа, хлеба асталася...

Ён патупаў у сенцы, пастукаў там чымсь — дзьверцамі ці шуфлядамі — і вынес хлопцу няроўна абламаны кавалак хлеба. Ладны, аднак, кавалак. Салдат адламаў ад яго частку і стаў прагна жаваць. Хлеб быў такі смачны, што ён глытаў яго, здаецца, не дажаваўшы, увесь час, аднак, пазіраючы праз вароты на дарогу і поле. Дзед зноў апусьціўся на ганак.

— Абжыўся, называецца, — на восьмым дзясятку. Думаў, хоць позна, але дачакаўся свае пары. Хоць праз Чарнобыль. А то ўсё неяк было: то калектывізацыя, то вайна, то ўздым сельскай гаспадаркі. А тут Чарнобыль! Казалі, усё шкоднае — і малако, і прадукты. Яно, можа, каму і шкоднае, а мне нічога. Займеў гаспадарку. Адзін. Кішкі ірваў, але ніхто ня шкодзіў. Мусіць, баяліся сюды патыкацца. А я не баюся — рабіў. Дзень і ноч. Затое і меў. Гэта раней задарма. А тут, што зрабіў — тваё. Што пасеяў — сабраў. Шкада, Чарнобыль гэты, каб ён прапаў. Хто яго выдумаў на нашу галаву?..

— Вучоныя выдумалі, — ціха мовіў салдат. — Самыя перадавыя ў міры.

— Каб яны сказіліся, тыя вучоныя. Хай бы лепш жняярку лепшую выдумалі, каб во ня мучыўся з гэтай, — кіўнуў ён на паўразабраную жняярку, што мясьцілася ля варотаў у двары.

— Ім жа, каб плутоній узбагачаць. На ракеты.

— А, ракеты ім трэба! Цяпер во дамавін не набярэсься, як пачнуць ад Чарнобыля мерці. Дамавіны трэба. Кажуць, у Менску ўжо ў цалафане хаваюць. Ці праўда? А я сабе зімой з сухой дошкі змайстраваў, вуглакі на замок узяў — добрае дамаўё палучылася. Дык забралі й яго. Казалі, спатрэбіцца. Каб ім гэтак умерці спатрэбілася...

Сумна і горка было слухаць тое салдату, але словаў суцешыць у яго не знаходзілася — у яго ня меней балела сваё. Ён праглынуў палову кавалка і не наеўся — хацелася зьесьці ўсё.

— Дзед, можа, маеш яшчэ запалкі? — прыпамятаў ён і другую сваю патрэбу.

— Не, запалак ня маю. У самога недзе паўкарабка асталася. Але, калі трэба магу «кацюшу» даць.

— Якую «кацюшу»?

Дзед моўчкі пайшоў у сенцы і хутка вынес адтуль невялікі руды капшучок, разьвязаўшы які, выняў «кацюшу» — кавалак крэменю, абламаны канец напільніка і нейкі абрывак трантаў.

— Во, ударыць, іскра выскачыць, затлее і разьдзьмуць.

— Добра. І яшчэ... Там напарнік захварэў. Каб як падтрымаць...

— Гэтак? Захварэў, кажаш? — насьцярожыўся дзед, і ў яго спакутваных вачах мільгануў цень непакою. — Ад атаму, можа?

— Хто ведае. Але есьці няма.

Дзед уздыхнуў, павярнуўся, быццам куды выправіўся, ды спыніўся.

— Што ж табе даць? Каб жа ня выграблі ўсё. Во бульбачкі зь мех засталося. Сказалі: мы добрыя, гэта табе, каб ня ўмёр. Дык бяры з паўмяшка.

— Не данясу.

— Ну вядзёрка...

Яны ўдвох пайшлі ў цёмны прахалодны застаронак, дзе гаспадар, грузна дыхаючы, навыбіраў зь нейкай скрыні леташняй, з доўгімі белымі парасткамі бульбы. Набралася няноўнае пакарабачанае вядзерца. Здаецца, не без шкадаваньня дзед падаў вядро хлопцу.

— Во, болей няма. Каб ты гэта двума днямі раней — усё было: і сала, і каўбасы. Дык пабралі. Не пабаяліся, што й радыяцыя...

— А і праўда, што радыяцыя? — занепакоена спытаўся салдат.

— Хто ведае. Я еў і нічога, яшчэ не памёр во. І ўнукам даваў, як прыяжджалі. Але тыя наўрад ці самі жраць будуць — на продаж! У Маскву павязуць на нітрагацыю.

Вось табе й на, думаў салдат. Ён спадзяваўся, што хоць дзед жыве ў бясьпецы, неяк гаспадарыць ля самай зоны, не галадае. Аж на дзеда знайшлася іншая пошасьць — не радыяцыя, ня голад, дык бандытызм. Раней сялян рабавала ўлада, а цяпер гэтыя — на фурах. Сапраўды, куды дзецца працоўнаму чалавеку, дзе знайсьці прытулак?

Салдат таропка разьвітаўся і зь вядром у руцэ пашыбаваў па тым самым полі наўпрост да ракі. Сьпярша азіраўся, але дзеда не было відаць. Наводшыбе ад пабуранай вёскі сіратліва мясьцілася абрабаваная сяліба, трохі прыхаваная за некалькімі дрэвамі садка. Бы партызан, бы партызан, — думаў пра сябе салдат, прыпамятаўшы нейкі фільм, што глядзеў у дзяцінстве. Толькі там партызаны несьлі ў лес авечку, а ён — вядро бульбы. І ўсё тоячыся, баючыся. Не нашмат, аднак, зьмяніліся часы... Праўда, тыя хоць мелі вінтоўкі, а ён што?

Увесь час на хадзе ён саваў руку ў кішэню бушлата і адшчыкваў патроху хлеба. І кожны раз думаў, што гэты раз — апошні, што астатняе трэба пакінуць бамжу. І ня мог утрымацца. Голад яго, здаецца, ад таго ня меншаў, а нават большаў. Тады ён аж вылаяў сябе — трэба ж урэшце знаць меру! Ды ягоны дурны жывот, мабыць, не хацеў ведаць меры і патрабаваў яшчэ. Тады салдат стаў суцяшаць сябе, што бульбу ўжо ён прынясе ўсю. Яны напаляць на беразе прысаку і напякуць яе — хопіць на двух. Ужо ён наесца...

Сонца тым часам увабралася ў паўдзённую высь і здорава прыпякала плечы ў бушлаце. Салдат зьдзеў шапку і сунуў яе пад дужку вядра. Так стала вальней і не было відаць, што ён нясе. Ён удала перайшоў затраўленае поле, зноў выйшаў да аброслых крапівой калёінаў на бродзе. Тут трохі спачыў у цяні пад алешынай, зноў разуўся. Пераходзіў брод, не сьпяшаючыся, з насалодай мацаючы босымі нагамі ў сьцюдзёнай вадзе. На другім беразе сеў, каб абуцца. І тады нейкая сіла змусіла яго зірнуць пад сучча недалёкіх елак. Сьпярша ён нічога там не заўважыў, а затым зірнуў зноў і сумеўся ад сполаху. Між елак ля броду стаяў худы, нейкі быццам аблезлы, зь белаватымі праплешынамі на баках воўк. Што то быў воўк, а не сабака, салдат адчуў пэўна: такімі насьцярожанымі і маларухавымі сабакі не бываюць. А ў гэтага — настырчаныя вушы, апушчаны долу хвост... Аднак у ім не прыкмячалася і ніякай адзнакі хцівасьці — можа, болей зьдзіўленьня і зьбянтэжанасьці ад нечаканай сустрэчы з чалавекам. Не адрываючы позірку ад ваўка, салдат падняўся, узяў вядро. Воўк здаля толькі пільна сачыў за ягонымі рухамі, сам, аднак, застаючыся разгублена нерухомым. У паставе ваўка па-ранейшаму не было жаднай прыкметы драпежнасьці — хіба адчай і бясьсільле. Можа, як і чалавек, ён быў згаладнелы і чакаў якой дапамогі, падумаў салдат. А калі ён шалёны? І салдат сьпярша памалу, а затым усё хутчэй пашыбаваў ад ракі. Воўк за ім не пабег.

Штораз азіраючыся, хлопец шпарка ішоў краем бору. Напачатку праз хвойнік яму быў відаць воўк, але спакваля яго аблезлая постаць пачала зьнікаць, заслоненая дрэвамі і падлескам. Хутка ён і зусім схаваўся. Тады салдат пайшоў крыху марудней. Гэта нечаканая сустрэча ў лесе новым клопатам уваралася ў ягоную душу. А ён пасьля гутаркі зь дзедам у каторы ўжо раз гатовы быў паверыць, што не такая яна ўжо і страшная — зона. Што і ў зоне ці каля яе жывуць людзі. Але воўк... Нават воўк! Хіба такі павінны быць нармальны воўк у летнім нармальным лесе? Але калі воўк так падупаў, дык чаго тады чакаць людзям?

Застаўшыся ўранку адзін, бамж доўга й нерухома ляжаў на лапніку, захінаючыся ў сваю кухвайку. Пачуваўся ён кепска, дужа не хацелася ўставаць, было санлява-млосна, сілы ўвачавідкі зьнікалі. І ён ня мог даўмецца, што зь ім адбываецца.

Мабыць, ён яшчэ трохі забыўся ці задрымаў і прачнуўся ад млоснай задухі — не хапала паветра, было дужа горача і хацелася піць. Але вада была толькі ў рацэ, за абрывам, — як да яе дапяцца? І бамж усё ляжаў, баючыся скрануцца з належанага месца, бо ня меў упэўненасьці, што зноў можа сюды вярнуцца.

Праз нейкі нядоўгі час ён адчуў, што стала й зусім кепска, усё ў ягоным нутры гарэла. У роце было суха, язык стаў шурпаты, бы яловая шышка, — не паварушыць. Усё болей дакучала смага, і ён думаў: трэба паўзьці да ракі. Зараз, зараз трэба намагчыся ўстаць, казаў ён сабе ў думках і ня мог устаць. Усё ляжаў, і стан яго ўсё горшаў.

Як зусім стала кепска, зразумеў, што зараз жа трэба вады... Тады нейкім намаганьнем устаў на калені і споўз зь невысокага абрыву. Тут, на ўгрэтым сонцам пяску зрабілася й зусім невыносна. Хістаючыся, ступіў колькі крокаў і ўпаў каленямі ў гарачы пясок. Далей поўз — на кукішках праз пясок і травяністы бераг, пакуль нарэшце не дапяў да вады.

Ён спрабаваў піць, лежачы, але гэтак было нязручна, ён намачыў сабе ўсе грудзі ў кухвайцы і не напіўся. А галоўнае — вада аказалася зусім не такой, як чакаў, — цёплай, мутнай і брыдкай. Яна не спатоліла смагі, не дала ніякай палёгкі, а шлях да яе зусім зьнясіліў бамжа. Паляжаўшы нямала часу на беразе, ён зразумеў, што трэба вяртацца ў засень. На гэткай гарачыні доўга ня вытрымаеш.

Шлях па беразе ўгору быў і зусім жахлівы — бамж прапоўз крокаў дзесяць і зьнясілена аблёг на траве. Дыхаць зусім стала неяк. Цела ўсё га-

*Працяг на старонцы 6*

Сяргей Грыгар'янц:

# «НІХТО НІКОМУ НЕ ПАВІНЕН»

**Расейскі палітоляг адказвае на пытаньні карэспандэнта «НН».**

«НН»: Пасьля 96-га году ў Беларусі склалася меркаваньне, што шукаць падтрымкі ў Расеі для нашай дэмакратыі амаль бессэнсоўна.

С.Г.: Я думаю, што вашая пазыцыя няслушная, шчыра кажучы. Я мяркую, што вы ў значнай ступені атаясамліваеце Расею, расейскае кіраўніцтва і той слой, які выказвае грамадзкую думку, што склалася за савецкім часам.

Сапраўды, усе тыя праблемы, якія на працягу апошніх гадоў патрасаюць Расею, паказваюць, што расейскі дэмакратычны асяродак не дастаткова моцны, ня мае дастатковага досьведу ці практычных здольнасьцяў. Але гэта ня значыць, што яго няма. Гэта не азначае, што ў Расеі няма да каго апэляваць. Гэта значыць, што беларусы гэта робяць занадта слаба. Беларусы не шукаюць тых, хто зьяўляецца іхнімі патэнцыйнымі прыхільнікамі, а такія бясспрэчна ў Расеі ёсьць. Іншая справа, што гэта цяжкая праца.

Падобная сытуацыя склалася ў Расеі са Злучанымі Штатамі. Расейцам здаецца, што Клінтан забыўся на правы чалавека й падтрымліваў вайну ў Чачні. Але Клінтан гэта ня ўся Амэрыка. Тое ж самае й беларусам трэба праяўляць больш актыўнасьці ў пошуках прыхільнікаў беларускай дэмакратыі ў Расеі. Але ў гэтым ёсьць і наша віна. Вось сувязі нашага фонду «Гласность» яўна недастатковыя, як і супрацоўніцтва, якое магло б быць. Але гэта працэс, які павінен быць двухбаковым. А мы раз за разам чуем паўтарэньне аднаго й таго ж – вы нам павінны. Насамрэч ніхто з нас нікому й нічога не павінен. Мы самі ў першую чаргу павінны спраўляцца з уласнымі бедамі. Нам хтосьці можа дапамагчы, калі ён настолькі добры, ці ён, як сказаў Сяргей Кавалёў, адчувае адзінства сьвету й непадзельнасьць яго. Але ж мы самі ў адказе за ўласнае «сёньня» й «заўтра».

«НН»: Як бы нашыя пакуль што розныя «сёньня» ня сталі агульным «заўтра». Цікава, як Вы ацэньваеце шанцы беларускага прэзыдэнта стаць буйною фігурай на расейскай палітычнай сцэне?

С.Г.: Я спадзяюся, што шанцаў няма. Хаця ў Расеі бясспрэчна ёсьць прыхільнікі гэтага. Больш за тое, ня толькі ў Лукашэнкі быў указ аб стварэньні адзінай выбарчай прасторы, але і ў Ельцына быў падрыхтаваны падобны ўказ, які, на шчасьце, некалькі тыдняў таму ня быў падпісаны. І натуральна, былі людзі, якія яго рыхтавалі, як былі й тыя, хто бачыў Лукашэнку ў якасьці прэзыдэнта Расеі. Але ў той жа час у Расеі існуе, як вы, верагодна, ведаеце, пэўная колькасьць уласных кандыдатаў, якім такі сцэнар абсалютна нецікавы, нават калі яны, як напрыклад, генэрал Лебедзь, блізкія да Лукашэнкі па сваіх поглядах. Калі гэта й магчыма, то толькі ў сытуацыі поўнай катастрофы Расеі. У сытуацыі, калі людзі, што стаяць ля ўлады ў Расеі вырашаць, што ў іх няма магчымасьці справіцца з праблемамі эканамічнымі, фінансавымі і, урэшце, палітычнымі тымі сродкамі, якія ў іх ёсьць. І адзінае, што іх ды іхны клан можа утрымаць ля ўлады – гэта рэпрэсіўны рэжым. Гэта неабходнасьць вярнуцца на 30 ці 40 гадоў назад. Вось тады адным з магчымых кандыдатаў, канечне, можа аказацца й Лукашэнка.

«НН»: Але, на Вашую думку, пакуль што рана казаць пра канец дэмакратыі ў Расеі?

С.Г.: Вы ведаеце, Расея, безумоўна, краіна зь вельмі слабымі дэмакратычнымі традыцыямі. І зь яшчэ меншымі навыкамі. Але ў той жа час, зь вельмі вялікім інтэлектуальным патэнцыялам. Дзякасьць яе сёньняшніх праяўваў і ўнутры краіны, і на міжнароднай арэне ўсё ж у значнай ступені тлумачыцца тым, што гэты інтэлектуальны патэнцыял незапатрабаваны. Але гэта ня значыць, што яго няма. І так ці йнакш ён уплывае на сытуацыю, і зараз, дарэчы, больш чым раней. У Расеі, калі мы гэта пераэжывем, адбываюцца насамрэч нармальныя працэсы. Гэта працэс назапашваньня ўласнага досьведу. Досьвед абраньня дэпутатаў, абыходжаньня са сваімі грашыма, стварэньня арганізацыяў, што цябе абараняюць і г.д. Праз гэты этап тэрэтычна неабходна прайсьці. Іншая справа, што пажадана ня проста прайсьці, але й застацца жывым. Што зусім не гарантавана.

Размаўляў З.Б.

Глеб Якунін:

# «БЫЛА Б ВЕРА»

**Вядомы расейскі «раскольнік» адказвае на пытаньні карэспандэнта «НН».**

«НН»: Айцец Глеб, сёньня ў маёй краіне, у асяродзьдзі маладых людзей падае прэстыж праваслаўя, і адпаведна узрастае цяга да каталіцызму з-за непрыхаванай палітычнай пазыцыі вышэйшага духавенства РПЦ...

Г.Я.: Вядома ж, мяне гэта закранае. Але мая барацьба за рэфармаваньне праваслаўнай царквы выкліканая ня толькі гэтым. Я бачу, як Маскоўская патрыярхія, становячыся дзяржаўнай рэлігіяй, няправеднымі мэтадамі змагаецца са сваімі рэлігійнымі канкурэнтамі. А самае галоўнае, нацкоўвае дзяржаву на малыя рэлігіі, якія называе «таталітарнымі сэктамі». Штучна выклікае варожасьць да іх сярод насельніцтва. Хоць паводле канстытуцыі ў нас дзяржава сьвецкая і ўсе рэлігійныя арганізацыі роўныя. Але ўлада, у надзеі на палітычныя ачкі, лічыць неабходным заігрываць і задавальняць інтарэсы маскоўскай патрыярхіі.

Ужо сёньня можна казаць пра масавы адток людзей ад Расейскай праваслаўнай царквы, сувымерны з тым масавым ростам паствы, які назіраўся напачатку 90-х гадоў. І прычыны таму відавочныя. Гэта й грубае парушэньне правоў іншых рэлігійных суполак, і нездаровыя адносіны паміж дзяржаваю й царквой. І тыя працэсы, што адбываюцца ўнутры самога праваслаўя. У вашым выпадку гэта лізаблюдзкія паводзіны мітрапаліта Філарэта. Ягонае запабяганьне перад вышым прэзыдэнтам кампрамэтуе царкву з палітычнага гледзішча.

У нас жа працэсы больш скандальныя. У нас асноўнае, што выклікае няпрыязь і абурэньне шырокай грамадзкасьці й сродкаў масавай інфармацыі, гэта тое, што Маскоўская патрыярхія атрымала з рук прэзыдэнта Ельцына магчымасьць хуткага ўзбагачэньня. Як за кошт гуманітарнай дапамогі, якая зьнікае невядома дзе, так і дзякуючы тым невераго́дным магчымасьцям атрымліваць прыбытак, падараваны ўладамі. Нафта, золата, дыямэнты, гарэлка, тытунь – няма межаў іхнаму гандлю й банкаўскай дзейнасьці. А колькі яшчэ сфэраў засакрэчаных, куды цяжка пранікнуць.

«НН»: Гарэлка з тытунём – традыцыйны асартымэнт і для Беларускага экзархату.

Г.Я.: А нядаўна ў Данілаўскам манастыры прайшоў так званы «Сусьветны расейскі сабор», на якім прысутнічала ўся сёньняшняя камуністычная вярхушка на чале зь Зюганавым і палітычна ўсеядным Лужковым. Гэты збор – лепшае сьведчаньне таго, што гэта «чырвоная» царква, якая генэтычна ўзыходзіць да таварыша Сталіна й арганічна зьвязаная зь дзяжбясьпекаю. Таму сумленныя сьвятары, скажам так, рэфарматарскага крыла, сустракаюць у сваёй працы неймаверны супраціў вышэйшага духавенства. Але калі гэтая царква будзе й надалей заставацца кансэрватыўнаю, зь сярэднявечным сьветаўспрыманьнем і палітычна ангажаванай на таталітарную ўладу, дык, баюся, праваслаўе пацерпіць абсалютную паразу.

У нас, у адрозьненьне ад Беларусі, больш актыўныя не каталікі, а нэапратэстанты, асабліва «пяцідзясятнікі». Па ўсёй краіне ствараюцца шматтысячныя суполкі, і калі такія тэмпы захаваюцца, Расея папросту ня будзе праваслаўнай краінай. Аб'ектыўна атрымліваецца, што Маскоўская патрыярхія зьяўляецца скрытай антырэлігійнай арганізацыяй, у зьмесьце якой нічога хрысьціянскага няма. Толькі нэапаганства й цемрашальства. Менавіта ў гэтым яе небясьпека, як сацыяльнага інстытуту.

«НН»: А ці магчымае рэфармаваньне менавіта гэтай царквы?

Г.Я.: Яна абсалютна на гэта ня здольная як дзецішча КПСС і КГБ. І ў нас у Расеі зараз самы спрыяльны час для закладаньня рэфарматарскай праваслаўнай царквы. На тых пастулатах, якія прапаведваў нябожчык айцец Аляксандар Мень. Толькі праведзеньне рашучых рэформаў, сувымерных другому Ватыканскаму сабору (дзе былі зробленыя вялікія зьмены ў статуце, у богаслужэньні, у прыватнасьці, пасад павярнулі да народа) можа ўратаваць наша праваслаўе.

«НН»: Але што рабіць сумленнаму сьвятару ў Беларусі?

Г.Я.: Ну што рабіць? Галоўнае, каб сумленьне было чыстае. Калі ён лічыць, што патрэбныя рэформы, хай праводзіць рэформы. Хай забараняюць, хай адлучаюць. Хай пераходзіць як я ва ўкраінскую царкву, у польскую, у якую заўгодна. Нікога не забароніш. Можна дома служыць. Першыя хрысьціяне пачыналі, калі не было аніводнага храма й перамаглі. Была б толькі вера. Нельга маўчаць, нельга паддавацца гэтаму рэлігійнаму монстру. А ў вас гэты філіял у Беларусі фактычна ператварыўся ў таталітарна-дэструктыўную секту, якой развал наканаваны. Хай шараговы сьвятар робіць сваю сьвятую справу. Госпад дапаможа.



Размаўляў З.Б.

# ВАЎЧЫНАЯ ЯМА

ў часе ягонай службы ў войску да каго з афіцэраў падкатваўся асабіст з дужа сакрэтным даручэньнем, мабыць, ніхто таму не адмаўляў. На тое не хапала ні розуму, ні адвагі, усе спраўна выконвалі ўсё, што патрабавалася. Кожнаму тады абяцалі: як вы — нам, так і мы —вам. Тое падабалася. Але як яго вытурылі з войска, і ён пабег да асабістаў па дапамогу, тады атрымаў ад іх кукіш: прабач, нічога ня можам, ня ў нашай кампэтэнцыі.

А як ён ім паказаў кукіш, ужо стаўшы бамжом, тады амаль што пакрыўдзіліся — ну, такога ад цябе не чакалі, вэтэран, нашая апора і надзея. Але ўжо тады ён пляваў на ўсё і на ўсіх на сьвеце, ён стаў жыць толькі ўласным клопатам і ні на каго не зважаў. Якую з таго меў карысьць — іншая справа. Ягоны настаўнік бацька ўсё жыцьцё пражыў для людзей і дацягнуў да дзевяноста гадоў. Але што гэта было за жыцьцё? Асабліва апошнія гады. Зьнямоглы, усімі пакінуты ў глухой, непэрспэктыўнай вёсцы, ён ціха сканаў, і толькі праз тыдзень яго выпадкам знайшла суседка. Пахаваць не было каму, сына нідзе не маглі знайсьці, бо ніхто ня меў ягонага адрасу, ён гадоў восем не пісаў бацьку — не было чаго. Мабыць, гэтак жа лічылі і астатнія два сыны, якія жылі невамедама дзе і пра бацькаву сьмерць, можа, яшчэ й не дазналіся.

Нядобры ён быў да бацькі, ня лепшы й да сына — таго лабаценькага Дзянiскі, якога некалі пакінуў у ракетным гарнізоне. Але калі да бацькі асаблівых сантымэнтаў ня меў, дык за сына дужа балела душа — які ён, дзе ён, ці жывы хаця? Усё збіраўся напісаць, зьезьдзіць, але куды і за што? Ды й былая жонка, маці Дзянiскі, хіба магла яму адказаць — яна толькі дамагалася ад яго алімэнтаў. А Дзянiскі, можа, няма ўжо і ў жывых? У свой салдацкі ўзрост, можа, прапаў дзе ў Афгане, у Чачні, у якой са шматлікіх гарачых кропак, куды пішчом лезьлі нашыя інтэрнацыяналісты, пасылаючы чужых сыноў пад мусульманскія кулі. Папраўдзе ён баяўся дазнацца горкае праўды пра сына і жыў, нічога пра яго ня ведаючы. Яму аж занадта хапіла таго горкага болю, што ён стрываў у памятны дзень сваёго разьвітаньня з сынам.

Зьехаць быў змушаны, зьбіраўся рабіць тое ціха, неўпрыкмет, як не было дома жонкі. Разьведзеныя, яны доўга жылі ў адной кватэры, у адным пакоі і між імі — пяцігадовы Дзянiска. Таго дня зранку жонка выправілася ў сваю сталоўку, ён, не зусім цьвярозы пасьля ўчарашня-

Працяг на старонцы 12

# БЕЛАРУСЬ У ПАРА

*Працяг са старонкі 1*

**Яшчэ адзін прыклад — новы літаратурны часопіс «Arche». Слова «новы» тут фармальнае, бо часопіс зусім ня «дыхае навізною» і зусім не падобны на экспэрымэнт.**

**Ён не падобны да прызнаных некалі савецкіх выданьняў, кшталту «Полымя» ці «Маладосьці», якія на выхадзе з камунізму страцілі палову свайго фармату, а таксама канцэптуальную выразнасьць і ператварыліся ў куртатыя пародыі на саміх сябе колішніх. «Arche» не падобны і да посткамуністычных выданьняў кшталту «Літаратуры», «Ксэраксу Беларускага», «Калосься» або «Фрагмэнтаў» — хутчэй альманахаў, якія таксама ня маюць канцэптуальнае выразнасьці і нагадваюць хутчэй эскізы часопісаў. Не падобны ён і да «Крыніцы» апошніх гадоў, дзе, наадварот, канцэптуальная выразнасьць зашкальвае да фармалізму, дзе форма, рубрыкацыя пануе над зьместам. Разам з тым пералічаныя выданьні сталі нібы донарамі ідэяў і людзей для «Arche», у рэдакцыйнай калегіі якога — Адам Глёбус, Андрэй Дынько, Генадзь Сагановіч, Васіль Сёмуха ды іншыя. Нават вонкава, дзякуючы мастацкаму рэдактару Дзянісу Раманюку, «Arche» выглядае не як экспэрымэнт ці эскіз, а як завершаны культурны прадукт, нумар, выняты з шэрагу аднайменных гадавікоў. Магчыма, невідавочныя кантэкстуальныя сувязі паралельнае Беларусі склаліся так, што зь вядомых імёнаў і ідэяў вытварылася нешта зусім інакшае і адначасова зусім заканамернае. Мабыць, у Беларусі такі часопіс мусіў быць даўно. Магчыма, гэта якраз абрэзанае пад фармат савецкае ідэалёгіі «Полымя» (як галоўны літаратурны часопіс) дзесяцігодзьдзямі займала месца паўнафарматнага «Arche».**

**Ягоная перавага па-над астатнімі ў тым, што ён прызначаны для чытаньня. Іншыя кіруюцца найперш імёнамі або схемамі рубрык, абмежаваным густам рэдактара або проста патрэбаю выходзіць. Акрамя гэтага, «Arche» падводзіць рысу той запанавалай было сярод нашых маладых літаратараў плыні імітацыі інтэлектуалізму, калі культуралягічныя тэксты літаральна перапаўняліся мудрагелістай лексыкай, хоць думка не прасочвалася. Усе пералічаныя праявы на 124-й старонцы «Arche» трапна ахрышчаныя «прынцыпова аматарскім падыходам да творчасьці». Аўтары новага выданьня дэкляруюць народнасьць, зразумеласьць. Яны яшчэ наважваюцца выдаць нумар, прысьвечаны постмадэрну, але выглядае, што постмадэрн для іх ужо ня культ, як было ў папярэднікаў, а толькі аб'ект дасьледаваньня.**

**Ізноў, як у выпадку з рок-музыкамі, цяжка ідэнтыфікаваць «Arche» з канкрэтнымі людзьмі, якія яго робяць. Тут хутчэй варта казаць пра тыя ідэйныя й пачуцьцёвыя сутокі, якія віруюць у Беларусі ў паралельным часе. Магчыма, мы назіраем канец тае зьявы, калі беларускія культурнікі рынуліся ў палітычныя рысталішчы, стваралі партыі, выступалі на мітынгах, ахвяруючы сваё культурніцтва бягучаму моманту. Бягучы момант у Беларусі застыў на адной кропцы. Духоўны сьвет чалавека ўрэшце вызваліўся зь ліпучых абдымкаў спыненае рэальнасьці, аджыў. Бо калі музыка або мастак ня можа вытлумачыць свой творчы посьпех — гэта сьведчыць пра наяўнасьць духоўнага жыцьця, якое ўспрымаецца як паралельны час.**

**Сяргей Паўлоўскі**

# ÜBER ALLES

**Беларускі рок-н-рол перажывае сёньня новы віток свае актыўнасьці. Канцэртныя пляцоўкі запаўняюцца ўдзячнай публікай. Рок-хіты выконваюцца пад гітару ў дворыках і сквэрах. Энтузіясты з тэлевізіі фактычна бясплатна робяць відэакліпы, а «партызаны» з FM-станцыяў круцяць беларускіх рокераў. Улады паступова адмаўляюцца ад палітыкі забароны канцэртаў і спадзяюцца «прыручыць» рок-куміраў, хоць як такое можа быць — нават уявіць сабе цяжка.**

«NeuroDubel» — беларускі гурт, які нават ускосна немагчыма назваць заангажаваным: ані палітычна, ані музычна. Паводле прызнаньня лідэра гурта АЛЯКСАНДРА КУЛІНКОВІЧА, на пачатку дзейнасьці ND перахварэў на «музычную» расейшчыну. Але сёньня ND мае ўласную ўнікальную канцэпцыю, якую я акрэсьліў бы як «драматычны рок». Гэта песьні, дзе экспрэсія вобразу пераўзыходзіць хардавую-панкавую моц музыкі. ND — гэта музычныя міні-драмы, якія зрабіліся аднымі з самых папулярных сярод беларускай альтэрнатыўнай моладзі.

А.Кулінковіч: Мы жывем у выдатнай краіне ў абсалютна паганых умовах. Словы «незалежная Беларусь» для мяне не пусты гук. Я люблю Беларусь, я лічу яе сваёй краінай, я ёсьць беларусам. Я ня думаю, што ў гэтым мы адрозьніваемся ад нашай публікі. Тым больш ня думаю, што наша публіка з сымпатыяй ставіцца да таго, што робіцца з нашай краінай. Я не магу сказаць, што граю пэўную сацыяльную ролю. Бадай, нашая сацыяльная чыннасьць заключаецца ў тым, што мы не бярэм удзелу ў акцыях, якія ладзяцца ППРБ альбо БПСМ. Я не хачу, каб з-за нашага неабдуманага кроку хаця б адзін наш прыхільнік пахіснуўся і ўступіў у дзярмо.

«НН»: У тваіх тэкстах выразна бачныя вобразы з савецкіх часоў. У сярэдзіне 90-х, калі пачало зьяўляцца пакаленьне, якое цьмяна ўяўляе, хто такі «дзедушка Ленін», гэта падавалася недарэчным. Але сёньня твае «ехалі ўроды на памінкі» ажываюць канкрэтнымі тварамі. Нібы іх вяртаньне было прадбачанае.

А.К.: Я сапраўды люблю вобразы з савецкіх часоў, але тыя часы не кіруюць маёй творчасьцю. Да таго ж, вельмі шмат песень, якія сёньня ўспрымаюцца на ўра, былі напісаныя вельмі даўно, але толькі нядаўна загучалі на поўную моц. Іх паклікаў час, які ня хоча даць моладзі забыцца на «дзедушку Леніна». Але, пагадзіся, у вобразах савецкіх часоў ёсьць шмат карыснага для роздуму. Інакш мы сапраўды вельмі хутка на іх забыліся б. Мы ўсе павінныя ў гэтым, і ты, і я... Зрэшты, нашыя песьні пра душу чалавека, пра тое, што ён думае. А гэта заўжды аднолькава, будзь чалавеку восем ці восемдзясят гадоў...

Кулінковіч кажа пра агрэсіўную асуджанасьць, якая апанавала ягоную творчасьць:

А.К.: На сытуацыю ў краіне я гляджу як на фатальную. Раней мне падавалася, што выйсьце зь непрымальнай сытуацыі — набіць каму-небудзь морду. Нават у творчасьці ў нас ішла агрэсія не ад галавы, а ад рук. Цяпер я разумею, што гэта ня правільна, таму ня бачу выйсьця з сытуацыі, у якой апынулася краіна.

Наступны альбом гурта мусіць быць цалкам пэсымістычным. Зь іншага боку, Аляксандар не выключае, што пэсымізм можа ў любы момант зьмяніцца на аптымізм:

— Я бачу па сваёй публіцы, што вырастае новае пакаленьне, якое ведае, што ёсьць свабода, і якое не адмовіцца ад гэтага.

Кулінковіч выключае магчымасьць жыцьця па-за межамі Беларусі. У выпадку, калі навакольнае жыцьцё зробіцца зусім невыносным, ён гатовы зьехаць у вёску. Сярод іншых рэзонаў — ён вельмі ня хоча, каб краіна засталася без такога гурта як ND. На пачатку 90-х ён стварыў песьню «Belarus Uber Alles»:

А.К: Гэта праўда, што песьня стваралася як свайго кшталту сьцёб. Але ў альбом мы яе ўключылі толькі ў 1996-м. І для мяне, і для публікі сэнс словаў «Беларусь перад усім» стаў іншым, глыбокім. Для мяне гэтыя словы азначаюць сумленьне. Сумленьне вышэй за ўсё.

КАСЯ КАМОЦКАЯ таксама лічыць што новае пакаленьне зьявілася. Але пакуль яна ня бачыць плёну дзейнасьці моладзі. Кася мяркуе, што юнацкі экстрэмізм важная рэч, але не дастатковая для таго, каб стварыць штосьці новае. Зрэшты, яна не адмаўляе, што знаходзіцца пад уплывам сваёй значна маладзейшай публікі:

К.Камоцкая: Я не жыву асобна ад грамадзтва, ад дзяржаўнай тэлевізіі... Я зрабілася больш знэрваванай, таму на канцэртах бываюць выплескі агрэсіі. Але гэта не выяўляецца ў закліках і тэкстах. У любым выпадку, я лічу, што тое, што робяць сёньня беларускія рок-музыкі, вельмі важнае для Беларусі.

ЗЬМІЦЕР ВАЙЦЮШКЕВІЧ з гурта «Крыві» кажа пра музыкаў, якія наракаюць на сытуацыю ў краіне. Маўляў, калі кепска — зьяжджай, альбо заставайся й рабі, каб стала лепей. Зьміцер лічыць, што наша грамадзкая дэпрэсія зробленая намі самімі. Бо беларусы за свае грошы ствараюць вядомасьць у краіне расейскім зоркам і грэбуюць беларускімі выканаўцамі. У той жа час на Захадзе шмат хто з тых расейскіх зорак папросту не цікавы, а некаторыя беларускія ўспрымаюцца як сапраўднае адкрыцьцё. Зьміцер кажа, што нават у самых складаных умовах можна рабіць кляснае мастацтва, проста ня трэба ленавацца ўздымацца «супраць эскалятара».

А яшчэ ён кажа пра тое, што ў краіне зьявілася шмат файнай моладзі, якая на канцэртах вяртае музыкам станоўчую энэргію.

ЛЯВОН ВОЛЬСКІ з НРМ, як і 10 гадоў таму, грае ў першую чаргу для падлеткаў. Праўда, ягоная «Мроя» была «беларускім савецкім гуртом» кшталту «беларускіх савецкіх пісьменьнікаў», якія зьніклі з культурнага поля разам са зьнікненьнем СССР. Сёньняшні гурт нарадзіўся разам з зараджэньнем уласна беларускага грамадзтва пасьля рэфэрэндуму 95-га году і вулічных падзеяў 96-га. Вольскі мяркуе, што ўзьлёт папулярнасьці рок-музыкі непасрэдна зьвязаны з дэпрэсіўнай грамадзкай сытуацыяй:

Л.Вольскі: Для публікі, як і для выканаўцаў гэта нібы выйсьце ў паралельную прастору. Там за сьценамі ходзяць



міліцыянты і гапата... Я выходжу на вуліцу пасьля канцэрту й не разумею, што адбываецца вакол.

У розныя часы мы хацелі давесьці рознае... Мы хочам даць пачуцьцё разьняволенасьці, пачуцьцё ўнутранай свабоды.

Беларуская моладзь сёньня шукае разьняволенасьці рознымі шляхамі. У сучаснай Беларусі ізноў зьявіўся такі фэномэн як падзел моладзі на субгрупоўкі. Падчас сёлетняга фэстывалю «Рок па Вакацыях» шматтысячная аўдыторыя з аднолькавым імпэтам скандавала «Жыве Беларусь!» і «Гамон гапаце». Агрэсіўнае адмаўленьне люмпэнізацыі раўналеткаў у абарону ўласнай нармальнасьці.

**Севярын Квяткоўскі**

# БІТОЧКІ

Едучы нядаўна з адным шанаваным мною пісьменьнікам, чые творы ўжо колькі гадоў уключаныя ў школьныя праграмы, у правінцыйны заходнебеларускі горад, куды нас запрасіла на творчыя сустрэчы мясцовае таварыства беларускай мовы, я ўсю дарогу адчуваў нейкую невытлумачальную тугу. Хутчэй за ўсё, гэта была туга ад перадвызначанасьці падарожжа. Ці ад таго, якім я яго сам сабе намаляваў. Сумны бэтонны краявід за брудным вакном раённага гатэлю, крыху бажавольныя актывісты ТБМ, тоўстыя, залатазубыя настаўніцы роднай мовы ды іхныя прыдуркаватыя выхавальнікі. Клясычнае беларускае надвор'е з дажджом панад раскіслымі разорамі толькі спрыяла маім жыцьцянярадасным фантазіям.

Аўтастанцыя выглядала такой самай, якой я яе й маляваў. З засьмечаным пэронам, зь некалькімі іржавымі камэрцыйнымі шапікамі ды дрэнным рэпрадуктарам, які пісклявым галаском аб'явіў наш прыезд. «Як тут можна жыць?» — запытаўся я ў пісьменьніка. «Мяне больш цікавіць, чаму нас не сустрэлі», — адказаў ён.

Раптам на пляцоўку выплыла чырвоная й бліскучая, нібы толькі з канвэеру, AUDI-цыгара, з адчыненага вакна якой на ўсю ваколіцу неслася «вітам, панове, я Казік Пэсэцкі». Затым з аўтамабіля паказаўся й сам герой песьні. Высачэзны бляндын у піжонскім скураным паліто. З-пад неверагоднай велічыні капелюша віжавалі шэрыя, прыгожыя вочы. Раптам незнаёмец накіраваўся да нас. «Я Казімір, бухгальтар раённага ТБМ. Ну як там у Менску?» — працягваючы татуіраваную руку, ды выпускаючы струю дарагога тытунёвага дыму, запытаўся ён, міжвольна глезячы на нас зьверху ўніз.




## *ПЕРШЫ НУМАР ЧАСОПІСА «ARCHE»*

Выйшаў першы нумар часопіса «ARCHE». У нумары – раман Вітольда Гамбровіча «Парнаграфія», навэлы з «Новага дамавікамэрону» Адама Глёбуса, эсэ Евы Сыс «Глёбус Беларусі» і Валеркі Булгакава «Геній Лукашэнкі», а таксама «Валадарская баляда» Паўла Севярынца, інтэлектуальная чытанка: тэксты Ўмбэрты Экі, Вальтэра Бэн'яміна, Пэтэра Слотэрдайка, Жана Бадрыяра, Лешака Калакоўскага, развагі Кшыштафа Чыжэўскага над комплексам сярэднеэўрапейца і Аксаны Забужко над комплексам украінца. Побач з скандальнай прозай Гары Мэт'юза ў шыкоўным перакладзе Юдаля Марголіна новыя творы Вольгі Караткевіч, Марыі Роўды, Наталкі Бабінай і Евы Вежнавец, вершы Далілы Самасыс і песьні Янкі Ценя, геапалітыка вуснамі Зьбігнева Бжэзінскага, дзёньнікавыя запісы. Вялікі фармат, добры друк.

Часопіс можна набыць у беларускіх кнігарнях, шапіках, фондзе «Наша Ніва», а таксама замовіць у рэдакцыі поштай (180.000 + кошт перасылкі, Менск, 220018, а/с 3).

Дыскусіі з нагоды выйсьця першага нумару з удзелам аўтараў і рэдакцыйнага актыву адбудуцца:

10 лістапада, аўторак, 18.30 – Беларускі калегіюм (заля бібліятэкі імя Янкі Купалы, вул. Харужай, 16);

13 лістапада, пятніца, 19.00 – Маладзёжны інфармацыйны цэнтар (Дарашэвіча, 4-2);

19 лістапада, чацьвер, 20.00 – сядзіба БНФ (Варвашэні, 8);

БДУ, філфак, катэдра замежнай літаратуры – сьнежань;

9 сьнежня, серада, 18.30 – Менскі дзяржаўны лінгвістычны ўнівэрсытэт (Захарава, 21, аўд. Б-201).

Прыходзьце да «ARCHE». Мы маем што сказаць.

# ЛЕЛЬНЫМ ЧАСЕ

## КРАЯВІД БЕЗ ЛУКАШЭНКІ

Два вечары ў Бельску Падляскім можна было пачуць найвялікшых зорак беларускага року, а таксама іх супольны праект — шматстылёвую рок-опэру «Народны Альбом».

Невыпадкова ў Бельску Падляскім — там знаходзіцца найвялікшая, побач з Гайнаўкай і Беластокам, супольнасьць больш за 200-тысячнай беларускай меншасьці ў Польшчы, таму тут ёсьць публіка. Тут мае сваю сядзібу Таварыства Беларускай Моладзі, якое ўжо пяць гадоў арганізуе паміж іншым Восень Бардаў.

Уваходзячы ў напоўненую па суфіты залю бельскага дому культуры, мы трапляем нібы ў іншы сьвет — мікракосмас з уласнай мовай, традыцыямі, звычаямі і, што ў нашым выпадку найважнейшае, музыкай. Публікай, якая ведае на памяць тэксты ўсіх хітоў, а значыць таксама — кантэксты і значэньні. Мае ўласныя хіты, культавых артыстаў і іерархію зорак, імёны й прозьвішчы якіх яшчэ дзень таму нічога мне не казалі.



Найцікавей тое, што ўся гэтая экзотыка знаходзіцца ня дзесьці на Мадагаскары, але тут жа, пад бокам — ледзьве 200 км ад Варшавы. Мы лепей ведаем, што робіцца ў мастацкіх салёнах Новага Ёрку ці Менску, Кіева ці Браціславы. Мастацкі ранг гэтых падзеяў відавочна непараўнальны, але датычыць нас у непараўнальна большай ступені.

Што робіцца ў Беларусі, кожны больш менш ведае з тэлевізійных навінаў. Ня трэба хіба й нагадваць, што рок — ня самая ўлюбёная галіна мастацтва настолькі ж грознага, наколькі гратэскавага сатрапа Аляксандра Лукашэнкі.

Невялікае рокавае асяродзьдзе — гэта андэграўнд. Перадусім таму, што беларусы жадаюць слухаць музыку расейскую, амэрыканскую або ўласную папсу. Ёсьць некалькі гуртоў, некалькі касэт, выдадзеных хатнімі мэтадамі і горстка публікі, якая хоча гэта слухаць. Гэтага, аднак, дастаткова, каб, напрыклад, сабраныя ў бельскім доме культуры ведалі творы на памяць. Гавораць нават пра тое, што гэтая група артыстаў больш папулярная сярод беларусаў з гэтага, чым з тога боку мяжы, бо «там ужо саветы».

Вось чаму першы паказ у Польшчы іх супольнага праекту — гэта вялікая падзея. Пра гэта казалі ўжо некалькі гадоў, прэм'ера адбылася ў Менску ў студзені.

«Народны Альбом» — гэта праграма з 27 песень, якія распавядаюць гісторыю «Беларусі ў пігулцы» — мястэчка на памежжы Савецкай Расеі і Рэспублікі Польшчы. Каб перадаць нацыянальную, культурную й сьветапоглядную мазаіку памежжа, кожны твор вытрыманы ў іншым стылі — тутёсьць песьні расейскія, польскія, нямецкія, жыдоўскія, аргентынскае танга, цыганскія рамансы, полькі, бяседныя песьні, вайсковыя маршы, перадусім аднак — беларускі фальклёр. Увогуле гэта толькі стылізацыі, часам вельмі выразныя — чуваць, што выканаўцы —рок-музыкі. У рэпэртуар канцэрту патрапілі элементы такіх беларускіх шлягераў як «El Condor Pasa», «La Bamba», «Twist And Shout» ці «Smoke On The Water». Ва ўсім гэтым столькі ж настальгіі, колькі пачуцьця гумару, самаіроніі са шматлікімі алюзіямі да сучаснасьці.

Музычна «Народны Альбом» можа быць адпаведнікам альбому Szwagierkolaski, гурта, які запісаў у рокавай стылізацыі перадваенныя песьні Станіслава Гжэсюка. Іншыя параўнаньні могуць быць нятрапнымі, бо хоць гэта рок, гучыцьён вельмі сьвежа і арыгінальна.

Спачатку мне падалося дзіўным, што ў краіне, у якой дзеецца шмат важных справаў, артысты займаюцца гісторыямі 80-гадовае даўніны. Аказваецца, аднак, што з дапамогай такой формулы пра Беларусь можна сказаць нашмат болей і пры гэтым ня зьвесьці ўвесь праект да жанру бягучага палітычнага камэнтара. Вось чаму «Народны Альбом» — гэта перад усім твор мастацтва. У Польшчы яго рэкламавалі як «антылукашэнкаўскую рок-опэру», з чаго самі творцы сьмяюцца й падкрэсьліваюць, што існуюць у Беларусі цалкам афіцыйна. «Антылукашэнкавасьць» «Народнага Альбому» заключаецца магчыма ў тым, што Лукашэнкі там няма». З алегласьці часу й справаў, закранутых у песьнях, соцень гадоў трываньня й прападаньня на памежжы народаў, цэнтральная постаць сучаснай беларускай іканаграфіі падаецца малой і неістотнай. Справа зрэшты ў нечым большым, чым сам Лукашэнка. Сытуацыя ў сучаснай беларускай музыцы нагадвае нашу музыку ў часе ваеннага становішча і пазьней. «Вясна Народаў» 90 і 91 гадоў была, спрошчана кажучы, адпаведнікам нашага Жніўня'80. Там таксама быў рокавы бум. Ён злучаў сучаснасьць музычнай формы з родным фальклёрам і пастулятам ужываньня беларускай мовы. Такія гурты як «Уліс», «Незалежная Рэспубліка Мроя», «Новае Неба» ці «Крыві» стварылі сучасную беларускую культуру. Яны мусілі яе ў вялікай ступені менавіта ствараць, бо беларуская культурная і нацыянальная традыцыя не дазваляла нават таго, каб на банкноты незалежнае дзяржавы трапілі гістарычныя постаці, а не ясныя жывёлы.

Потым, аднак, зьявіўся Лукашэнка, заўзятар культурнай інтэграцыі з Расеяй, і пачалася цэнзура ў прэсе. «Народны Альбом» — гэта голас і працягнутая ад невядомых часоў спрэчка пра тое, ці мае сэнс незалежная Беларусь. Лукашэнка, здаецца, сьцьвярджае, што не. Вось чаму «Народны Альбом» —антылукашэнкаўскі.

Але перад усім гэта добра напісаны й выкананы маляўнічы кавалак вельмі арыгінальнай для нас музыкі і як такі, а не як праява палітычнай экзотыкі суседняе дзяржавы, павінен быць цікавы для нас.

Пасьля канцэрту для «сваёй» публікі (у Бельску Падляскім) гурт быў запрошаны на выступы ў Познань, дзе ўчора граў у клюбе Эскулап.

*На здымку Лявон Вольскі — вакаліст гурта НРМ.*

**Робэрт Ляшчынскі, «Gazeta Wyborcza»**

# ПА-БЕЛАРУСКУ

У аўто сядзеў яшчэ адзін чалавек. Саракагадовы пан з акуратна зачасанымі чорнымі валасамі. Пах моцнай парфумы надзвычай пасаваў ягонаму дыхтоўнаму гарнітуру з круглым значком ТБМ на штрыфэлі. «Знаёмцеся, гэта наш бос. Старшыня раённай рады», —прадставіў нам свайго калегу бляндын, калі мы патанулі ва ўтульнасьці нямецкага салёну. «Спачатку едзем у гатэль. Затым сустрэча з актывам, а заўтра праедземся па школках», —паінфармаваў бос. «І Захад нам дапаможа», — чамусьці згадалася мне.

Бухгальтар раённага ТБМ узмацніў гук і рвануў машыну зь месца. Далей я толькі пасьпяваў схопліваць карцінкі раённага жыцьця, што замільгалі ў рок-н-рольным рытме.

Сьвежапафарбаваны баракальны касьцёл; бронзавы першадрукар, падобны на крыжаноснага рыцара, які замест мяча абапёрся на фаліянт з мудрым надпісам «Бярыце і чытайце»; забітая выключна маладой публікай заля бібліятэкі; апазыцыйная мясцовая газэта з праграмным артыкулам Пазьняка; і яшчэ вельмі разумныя вочы дзяцей у вясковай школе.

Трохі аддыхаўшыся ў гатэлі, я нарэшце заўважыў, што вокны нумару выходзілі на сярэднявечны замак часоў Вялікай Літвы. Маленькія хаткі тутэйшых жыхароў нахабна падступаліся да самых сьценаў помніка даўніны. Тым самым надаючы замку выгляд вельмі вялікага, пакінутага дому. Гаспадары якога абавязкова вернуцца. Ды я іх, зрэшты, ужо бачыў.

Даўно заўважыў — людзі, для якіх беларуская мова ёсьць толькі прафэсійным абавязкам ці гістарычным помнікам, нехаця пачынаюць гаварыць штампамі кепскіх гістарычных п'есаў. «Да нас прыехаў наш цудоўны пісьменьнік, чые творы назаўжды ўваходзяць у скарбонку духоўнай культуры нашай зямелькі. Павітаем, дзеці, жывога клясыка». Колькі разоў я гэта чуў, столькі ж і не шкадаваў аб скарачэньні беларускамоўнага навучаньня. Але ні ў кога гэтая мова не гучыць больш пераканаўча й жыва, чым у дзяцей, якія ўвогуле гавораць некалькі гадоў свайго жыцьця. ТБМаўскі бос, а па-сумяшчальніцтву яшчэ й завадзкі сьлесар, павёў нас да сябе ў інтэрнат у госьці. У адным з пакояў гуляліся інтэрнатаўскія дзеці. Дзясяткі тры чалавек займаліся тым, чым і павінны займацца людзі, якім ад пяці да дзесяці гадоў — хадзілі на галаве. Але пакой зьвінеў, рагатаў і енчыў нашаю моваю. «Ды так, зарганізаваў нешта накшталт дзіцячага клюбу. Бацькі ж ня супраць. Дакладней, сюды імкнуцца прыстроіць сваіх чадаў жыхары суседніх інтэрнатаў», — патлумачыў карціну бос.

Седзячы перад ад'ездам у няўтульным савецкім рэстаране, уся выгода якога заключалася ў замкавай вежы ў вакне, я ці не ўпершыню за мінулыя суткі ўлавіў чужую гаворку. Цераз столік ад нас размаўлялі паміж сабою сівы сьвецкі леў нобэлеўскага выгляду з кілішкам каньяку ў руцэ й трыццацігадовы маладзён, падобны на зорку апэрэты. Размаўлялі па-француску. Бухгальтар ТБМ патлумачыў: «Гэты стары — сапраўдны француз. Ды яшчэ й марксіст у dалатак. Зьбег аднекуль з Брэтоні ў 60-х, каб самому будаваць камунізм. Да гэтай пары ўсё будуе». «Ты лепш ў яго запытайся, як тут можна жыць», — параіў мне пісьменьнік. Але седзячы ў захалусным рэстаране ды жуючы біточкі па-беларуску пад шансонны дыялёг, гледзячы на вальтэраўскую галаву на тле замкавай вежы, мне, можа, упершыню не захацелася ў Парыж.

**Зьміцер Бартосік**





# Старонка вершаванага радка

## Андрэй Аляксандраў

***

Я згубіўся ў бязважкасьці слоў,
Быццам ў дзікім, закінутым садзе,
Дзе пустэча нямых галасоў
Зноў гучыць змрочным гімнам бязладзьдзю.

Я няспынна шукаю свой шлях
У нябёсаў чароўныя дзьверы…
Ды яны пакуль – толькі у снах,
А у сны я, чамусьці, ня веру…

МАЛІТВА

Госпадзь магутны!
Да Цябе сваю малітву
Я шлю, укленчыўшы сярод халодных сьцен:
Ты ў сваіх руках трымаеш лёсаў ніткі
Усіх людзей, плянэтаў, зоркавых сыстэм,

Сваёй лагодай блаславяеш ты краіны.
І я – Твой раб пакорны – аб адным малю:
Разьлі сьвятло спагады над маёй Радзімай –
Зямлёй, якую я так горача люблю.

Ня дай загаснуць полымю сапраўднай Веры,
Крыніцы мовы чыстай скончыцца ня дай,
І з-пад улады чорнай д'ябальскае хеўры
Ты, Божа, уратуй мой беларускі край.

Госпадзь магутны!
Валадар ўсяго Сусьвету,
Цябе малю я шчыра, ды не за сябе.
Пачуй маю гарачую малітву гэту
І не пакінь народ, што верыць у Цябе!

## Валеры Барташэвіч

***

Ёсьць на Меншчыне шмат краявідаў цікавых,
Ды Лагойшчына ўсё ж да сябе вабіць нас.
Тут ад гэтай ральлі, паху бэзаў духмяных
Ніл Гілевіча творы адлічваюць час.

Тут на Лысай гары мроіў ў думках Купала
Аб жыцьці беларусаў паміж роўных славян,
У ціхай Гайне вады перабегла нямала
Ад тых дзён, дзе Ядвігін быў лекар сялян.

А Бядуля Зьмітрок крочыў гэтым гасьцінцам,
Што ляжыць між пагоркаў зь Ніўкоў на Рудню.
Беларускай Швэйцарыі партызанскія мсьціўцы
Баранілі тут землю і вольнасьць сваю.

Сотні раз край канаў ад варожай навалы –
Немцы, ляхі, маскоўцы ўсё дзялілі наўсьцяж,
Быццам зграя ваўкоў, разьдзіралі ахвяру –
Балявалі чужынцы на тутэйшых касьцях.

Межы ўпрост пракладалі праз сэрцы людзкія,
Дзе сядзіба стаяла – грувасьціцца дот.
Ну а той, хто тут жыў, пэўна згінуў ў Сібіры,
Хто меў землю – быў вораг, і наадварот.

О, Лайгойшчына, мудрая маці паэтаў,
Хай жа змрочная доля цябе абміне,
Лёг цярновы вянок замест нізкі санэтаў,
Замест пацерак-дотаў ланцуг паў
на грудзі твае.

## Аляксей Бацюкоў

***

Абняты
сполахам і сьлёкай,
заплюшчыў вочы.
Глынаю гэтае паветра.
Каўтаю ўнутар
подых сьцен.
Цалую вусны,
вусны ночы.
Накрыты столлю,
да зор ня зрушны,
зацяты ў вузел
пухлявых вен,
я чую
сьцюжу…

***

Дым.
Помні джала агню.
Стынь.

## А.Б.

ВІКТАРУ

За вакном цемра,
Зорак ня бачна на небе;
Дзе ты і з кім, мой каханы?
Аб чым ты думаеш, марыш ты зараз?

Я гляджу ў вакно –
Мае думкі недзе далёка,
Яны плывуць над зямлёю –
Заўсёды, заўсёды з табою.

Я жадаю табе салодкіх сноў,
Добрай ночы, прыгожых, ласкавых слоў.
І каб заўтра я зноўку мела шчасьце бачыць –
Цябе шчасьлівага, а сябе – няшчаснай…

## Аляксей Бруй

ПЕСЬНЯ ПРА ЯЕ

За вокнамі ноч,
І сьвецяць адны ліхтары.
Ня сплюшчыць воч
І не заснуць да зары.

Пісаць няма сіл,
Толькі думаеш пра яе,
І крыжы ад магіл
Мрояцца ў цішыне.

Гарбата даўно астыла,
Гадзіньнік стаміўся ісьці.
Яна, можа, мяне забыла,
Другія ў яе жыцьці.

Правяду рукой па струнах
І песьню сьпяю пра яе.
І разьнясецца песьня гулам
У змрочнай цішыне.

І дзе б я ні быў,
Яна застанецца са мной.
Я столькі пражыў,
Бо я верыў – ты будзеш маёй.

## Vasil Brykun

ČAS ŽBIRACCA Ŭ VYRAJ

Kachankaj majoju — viaroŭka z mylam na šyji,
Siastroju — bliskučaja viernaja kula.
Bratam majim halak, što pareža mnie vieny…
Śpiech bo ŭžo mnie žbiracca u Vyraj.
Siabrami majmi — zichatkija katki elektryčki;
Baćkami — Dniapro, što prymoćmie maju abalonku.
Maci-Radzima pramoviła mnie pierad skonam:
«Čas tabie ŭžo, synočku, žbiracca u Vyraj!»

TY NIA BOJSIA

Ty nia bojsia ŭ abdojmach majich, maładaja,
U abdojmach majich zakryčyš ad sałodkaha bolu.
Dva počatki žlijucca ŭ adno na Jaryłavu valu,
A ahoń nasaj žarści pavietra niamoje raskole.

Ty nia bojsia majich kipciuroŭ, maładaja,
Jany rvuć tvaju šyju, što tolki kachańnie hartuje.
Skroź kryvavaje mrojva ty ŭbačyš ścianu załatuju,
Našy rodnyja dušy ŭ adno milhacieńnie źnituje.

Ty nia bojsia drapiežnych zuboŭ, załataja!
Maje ikły — klučom ad pahanskaj Nirvany.
A kali čochnie ceŭkaju kroŭ, ja stulusia da rany…
Ty pramoviš cichutka mnie: «Dziakuj, kachany».

## Таццяна В.

***

Вечар у горадзе –
Халодны і сьлізкі,
Сінеюць у холадзе
Крамаў шыльды.
Гольля дрэвы,
Мара зьбяднелая,
Сумныя сьлевы
Ў душы абамлелае.
Хочацца лета,
Сьвята чульлівага –
Сэрца ў прагнасьці
Шмат што зьмяніла б.

Шмат што зьмяніла б,
К сонцу прабілася:
Мара б сагрэлася,
Зноў узбагацілася…
Толькі мароз адступаць
Не сьпяшаецца –
Здані зьнікаюць
Й душа суцяшаецца.

***

Пасярод усіх вятроў,
Паміж ворагаў-сяброў,
Пасярод любой бяды
Беларусь мая – Ты!
На скрыжаваньні вякоў,
Ў тупіку усіх шляхоў
За цябе я зноў малюсь – Беларусь…

## Людміла Гулюк

Я НЯ ВЕРУ

Я ня веру ва ўсьмешкі і прыгожыя словы,
Бо яны, як заўсёды, хлусяць.
Я ня веру, як ні прыкра, у добрыя вочы,
Бо яны спадзявацца мусяць.
Я ня веру, што хутка наступіць вясна,
Бо за вакном амаль вечная восень.
Я ня веру, што аднойчы прыйдзе яна,
І сонца прагляне промень.
Мне хацелася б верыць, шчыра,
У вясну, усьмешку і словы.
Але гэта ўсё – нічога,
Мне б знайсьці толькі веру ў Бога…

## Сяргей Д.

***

Калі аднойчы ўвечары йшоў мяккі мокры сьнег,
Праз цемру непраглядную зьявіўся чалавек.
Ня бачачы ні бруду, ні лужын, ні дарог,
Ступаў ён па зямлі, нібы па аблаках.
І кожны яго крок упэўненасьць даваў,
Ён кожнаму прахожаму любоўю дараваў.
І адышлі няшчасьці, і жах, і боль, і страх,
І крыўды пазабытыя – а зло цярпела крах.
Не, гэта не сьвяты, ня зорны чалавек,
А проста сёньня падае прыгожы яркі сьнег,
І бруду на душы як быццам не было:
Распачыналася сьвяточная ноч на Раство.

## Дзед Карней

ЛІСТ МАРЫНЕ АСТРОЎСКАЙ

Табе, як султану, усё дасылаюць
E-mail-ы свае і лісты казакі
І сонейкам ў допісах тых называюць,
І клічнікі сыплюць з-пад шчодрай рукі.

Я твой янычар, твой халоп, гаспадыня.
Я болей ня ў сілах хаваць жар каханьня.
Хай полымем ён усю плянэту абдыме.
Прымі ж ад мяне гэтаксама пасланьне.

Твой пра-пра-пра-прадзед апеў Кацярыну,
Што праменем сьветлым была ў цёмным царстве.
Я ж вершам сваім праслаўляю Марыну,
Якая тым промнем была у «Юнацтве».

Я б ў сэктары трэцім, як ў сэктары Газы,
Загінуў, напэўна, або стаў вар'ятам,
Ды ручка твая мяне кожнага разу
Выводзіла зь цемры да сьвету, дахаты.

Табе б гарнастая або немаўляці
У рукі – і можна Мадонну пісаць.
(Хацеў бы я быць тым дзіцёнкам і маці…
Але мне тут лепей крыху памаўчаць).

І, быццам твой прадзед (ты чуеш, Марына?),
Гатоў у ледзяное вадзе працаваць,
Каб толькі ўвечары чаем з малінай
Прыходзіла ты мяне пачаставаць.

На востраве, што ў прозьвішчы тваім,
Хацеў бы жыць адлюднікам, як Круза,
Каб толькі ты была там Пятніцай маім
Ды зрэдку прылятала ў госьці Муза.

А, мо, зусім ня востраў то – астрог,
Дзе мне бэтон вільготны, што пярына,
Дзе чуцен кожны пацучыны крок
І дзе пішу на сьценах я: «Марына».

Ну, усё на сёньня, мушу разьвітацца
З табою, любая Марыначка, Марынка.
Пішы звычайнаю, не электроннай поштай.
Адрэса простая: Карнею… у Навінкі.

## Яўхім Корчак

ТВ 911

Кожны дзень прачынаюся з думкамі
пра дыстанцыю.
Кожны дзень чакаю падзеньня мэтэарыта.
Зьвіліны мкнуцца ў такую-сякую абстракцыю.
А ў магазінах, у кожным аддзеле – ашчэпкі
карыта.
Мы не ўміраем, хоць нас яшчэ дустам
ня сыпалі.
На лысіне сонца адбітак вісіць, як яйко.
Хто пры гноі, дык тыя ў асноўным і выжылі,
Ну а пра нас вам пакажуць калісьці кіно.

КАНЕЦ БІТВЫ

На зямлю з калосься падаюць зярняты.
У палях дажынкі правіць вараньнё.
Іх пасе-ганяе аграном цыбаты,
Бо ў запоі сёньня дзядзька камбайнёр.

У калгасе ўчора справілі дажынкі
І мачылі добра на ўрадлівы год.
Вараньню ўсё роўна – радасьць ці памінкі,
Вараньню ўсё роўна – ці паеў народ…

## Надзін К.

***

Кветкі на сьценах
Кветкі на падлозе
Філіжанка з халоднай кавай
Квадрат акна
У пэрспэктыве – аблокі
Зусім маленькай радзіма стала

***

Чаму людзі ня любяць клады?
Толькі там цішыня і спакой,
Толькі там няма адзіноты.

***

Чаканьне, цярплівасьць…
Я так не магу.
Час зьнішчыў каханьне,
Ён зьнішчыць і веру,
На жаль, але я ўсё ж тады не памру.
Я стану ахвярай новай надзеі.
Чаканьне, цярплівасьць…
Калі ж я памру?

## Андрэй Новік

СЬВЕТ

Сьветлы дзень,
Самотны вечар,
Празь сьмерць збаўленьне,
Над гарадзенскім касьцёлам,
Цуд волі Божай,
Дзеля навяртаньня,
Пакута і выраканьне.

Сум і боль,
Выраканьне душы,
Яснае чыстае неба,
Цішыня й супакой.
Анёл вартуе магілу,
За веру сьмерць,
Бязгрэшным было жыцьцё,
І сны прадвесьнікі гадоў.

Пахаваньне – могілкі старыя,
У Духу прадмова ксяндза,
Апошняя воля Хрыста,
Божы слуга,
Сьвяты сьвет,
І жалоба душ…

## Зьміцер Піскур

ДА МОРА

Нэонам вуснаў цалуе горад
Трымае моцна ў сваіх абдымках
А недзе б'ецца ў бераг мора
Якое бачыў на фотаздымках
Знайдзі за морам тузін сусьветаў
Ды падары ёй бяз дай прычыны
І ты пабачыш, – наступным летам
Нібыта квет расьцьвіце жанчына

## Браніслаў Пяткевіч

ФАТУМ

Хто ня любіць нас сьвядома
Й плюс на нас у злосьці,
Вораг нам, даўно вядома,
Браў выток ад горкай косьці.
Мы ж нязломныя нацдэмы,
У душы заўжды Радзіма,
І героі той паэмы,
Дзе ёсьць поле для уздыма.
Ганьбіць нас – не аксіёма,
Толькі прыкрая нагода,
І падножка іх прыёму
Не суцешна для народа.
Можам мы глядзець з-за кратаў,
Не губляючы надзеі,
Што шляхамі дэмакратаў
Пойдуць новыя надзеі.
Час зьнікае для імпэрый,
Дух пануе незалежны,
Волі мірныя ампэры
Набіраюць стан належны.

## Дзядзька Сашка

ДЗЯДЫ-98

Лістапад. Лістоў няма на дрэвах.
Вецер сьціх. І толькі зорка ў небе.
Цішы на золку хопіць ненадоўга –
да першага рыпу дзьвярэй,
да першага погляду сонца
застыг у небе сонны маладзік
і сьвеціць, бы адзінае ў начы ваконца,
сагнуўшы ўсю сваю душу ў сьветлую дугу
на дзіва жоўты ўскрык,
а кольвек быў жа не адзін
і ён крычыць: «Адзін сярод індзіга не змагу»
як сярод белых і прыстойных чорных зорак
якія нечакана здрадзілі яму
і зь цьмою лёгка адышлі ў цьму.
Залатыя рожкі – спраўны маладзік!
Ціха, беларусе, скрушна на Дзяды!

КУХНЯ ЗАКАХАНЫХ

Сяджу на кухні што ля вакна на мора
Ля вакнейка-ваконца тут недалёка да прасторы
Ні голасу сяброў ні проста сьветацьма
Тут набягае хваляй сьцюжа што з марскога дна
Хвалюе муху мора за рамачкай ваконнай
рухавічок гудзе дрыготка лёгкахоладам
цалуе быт газьнічку ў пяткі
і колькі ні выкурвай ненадзейныя запалкі
з каробкі сьвят і з-за пліты
за шклом ні шкла ні лістаты
тут толькі мы з табою
ты ж мэт стракатых болей
блакітаў мора і ракі
на ўзвышшы белым васількі
галоўнае тут вочы цьвета цемнаты
у тваіх вачох сьвет ясны засьціць вугалкі
шукаюць твае вочы вымушаны крык
які бялей бярэсьцейскай кары
курыцца дым ля возера-гары
ўжо холад, печку распалі
хай пойдзе вольхны белы дым
з палена дроў, з бугроў над ім
з авалу белай пустаты
з кустоў на беразе ракі
дык й тут таксама два бакі
зь пярыны белай
двух белых сьцёгнаў ікс
на раскрыжаваньні чыстай і сьцюдзёнай нематы
настолькі быць адной і столечкі адным
пад сінім, шэрым і сьлякотным ў ім
зайдзі на паўгадзіны ў белы дым
сьвет распазнаць, пазычыць зноў другім
затым адлюстраваць за тым
і ў гэтым сьвеце лёгкіх льдзін
паспрабаваць праплысьці ў ім
сьлiной адчуць ільдзінкі небыцьця
і ў сучаснай рамачцы з хвалюючага граба
замураваць імя дрыжачымі рукамі
Ружана, Ружа, Ружанька, з маленечкай ружана
і толькі лёгкі ўсплеск ў кашы імёнаў званых
на абед
задоўга, улетку, да народзінаў Хрыста.

## Алёна Шарэпа-Лапіцкая

ЧУМ

Я пабудую сабе Чум,
Празрысты Чум з крышталяў лёду,
Каб ў Чуме нізка маіх дум
Перачакала непагоду.

У Чум прыйдуць да мяне Зьвяры
Халоднай ночкаю пагрэцца,
Агнём палярнае зары
Павесяліць у Чуме сэрца.

Там будуць гамы і акорд
Зьвінець сугучнаю актавай,
І за сьцяною дзікі «норд»
Спыніцца жорсткаю праявай.

І ўсякі Зьвер, які зьбярог
Свой голас ночкай непагоды,
У Чуме гучна, колькі б змог,
Расказа нам свае прыгоды.

1979 г.

ІМПРАВІЗАЦЫЯ

Я да Цябе імкнулася тады,
Як хмарай шэраю, цясьніліся гады
І ў цемрадзі спрачаліся са мной,
Што згінеш Ты пад грознай чарадой.

Зімовай ночкаю халодны вецер выў –
Трывожылася я: ці жыў і дзе быў?
На ланцугоў цяжар – калі б магла я зьняць –
Хацела б шчасьце ўсё сваё зьмяняць.

Хацела б я пайсьці к Табе туды,
Крынічнай ўзяць з сабой гаючае вады
І напаіць Цябе празрыстасьці пітвом
Ў пярэдадні спатканьня з новым
сьветлым днём.

Не дакарай мяне, што гэта – толькі сны,
Сапраўднасьцю ў жыцьці мо стануцца яны,
Хаця сьцяной высокая турма
Сказала мне: – Стараньні ўсе дарма!

## Натальля Шкапіч

ЖЫВЕ БЕЛАРУСЬ!

Жыве Беларусь і жыць будзе вечна,
Хоць білі тыраны яе і клялі.
Чырвонай крывёй захлынулася пекла
Яе зьняважальнікаў, д'яблаў зямлі.
Вочы ў сьлязах нездарма апускала,
Бачачы здраду сваіх жа сыноў.
Роспач, пакуту – у надзеі хавала,
Помнячы зорную веліч вякоў.
Словы-замовы шчасьліва шаптала:
Мікола Гусоўскі, Скарына-друкар.
Гэта дзеці яе, якіх ўзгадавала
Пад сэрцам сваім, нараджаючы з мар.
На працу цяжкую сыноў благаслаўляла,
Каб страху ня мелі, ня гнулі галоў.
Такіх як Кастусь нам у прыклад паслала,
Хоць лёс іх кароткі – гарчэй палыноў.
У словах гарачых дзяцей пазнавала
Іх мужная сіла – як подых вятроў.
Зь вершаў Максіма вянок завівала,
Зьбірала ў букеты радкі з васількоў.
У белай кашулі – бярозкаю стала,
Як помнік жывы для будучых дзён.
Сонцу насустрач ісьці заклікала,
А зорка Вэнэра імчала ўздагон.



# Старонка празаічнага радка



**Зьмітрусь Бабровец**

## ПАЛЬЧЫК

Я сядзеў у купэ апусьцелага вагону ды пад зьмерны грукат каткоў назіраў за пальчыкам. За прыгожым, зграбным, пяшчотнага вясковага загару пальчыкам. Гартаючы бачынкі нейкае кніжыцы, ён ледзь заўважна ўздрыгваў, бы зь няўцерпам чакаючы на нешта значнае. Раптам кніжка звалілася на падлогу. Пальчык на хвілю зьнерухомеў, затым рашуча ўзмыў да прыгожага роціка зь вільготнымі чырвонымі вусначкамі. Аж цалкам схаваўшыся ў роціку, пальчык пабадзяўся троху ў ягоных салодкіх сутарэньнях, вынырнуў, прабегся па незапаскуджаных памадаю вуснах. Ён песьціў, націскаў, дасьледаваў мяккае падбародзьдзе й шыю, кружляючы ўсё ніжэй.

Самі сабою расшпіліліся вышэйшыя гузікі лёгкае летняе сукенкі. Выскачылі на волю невялікія настырчаныя дзявочыя грудкі, сьвежая цнота якіх была зусім нязвычная да мёртвых сковаў станіка. Пазнаўшы добрых знаёмцаў, пальчык радасна дакрануўся да войстрых гузікаў ды, нібы абкалоўшыся, адскочыў; пачаў болей абачліва вырысоўваць вокал іх кругі ды выгінастыя васьмёркі.

Скура на грудзёх ды шыі пайшла пупыркамі. Гузікі настырчыліся шчэ болей, адказваючы на пяшчоты свайго сябрука.

Удосталь нагуляўшыся, пальчык стрымгалоў кінуўся ўніз, апусьціўшыся на вайстраватую смуглявую вабненькую каленьку. Абедзьве таргануліся ўбакі. Ён жа, разгуляўшыся, апантана мілаваўся з кожнай, пералятаючы з аднэй на другую. Сьлізгануў угору. Паслухмяная ягонае волі, лёгкая паркалёвая спаднічка задзіралася ўсё вышэй, агаляючы маладзенькія спакусьлівыя сьцягенцы; неўзабаве з-пад яе вылузнуліся белыя майточкі, ужо крыху макраватыя. Пальчык, дасягнуўшы майткоў, застыгнуў у роздуме, тады даў нырца пад мяккую тканіну. Зараз ён быў падобны да вопытнага выведніка, які спрытна ўплішчыўся ў варожы лягер.

Усё ж выведніка ўгледзелі: пачуўся ціхенькі стогн... А пальчык ужо рашуча дзейнічаў там, за майткамі. Адно маленькаму захопніку замінала ўзьмяклая тканіна. Ён высьлізнуў, прабегся ўніз па сьцягну, а майточкі, бы шруба з магнітам, цьвірканулі за ім, спыніліся на каленях. Ацяжэлыя, у нязмоце адолець зямное прыцягненьне, зваліліся долу.

Усьлед за тым каленкі папаўзьлі ўгору, рассунуліся як мага, пантохлікі сасьлізнулі з ножак, а пяткі ўпёрліся ў сядзеньне. Пальчык цяпер цудоўна бачыў сваю мэту. Гэта была чырвоная, салодкая, вільготная ружа, расквітнелы цуд пад мякенькімі маладымі, бы пісклячы пух, валосікамі. Ніводнае белае плямінкі не было вакол яе: роўны, ласкава-брунатны загар ляжаў на ўсім целе маладой сонечнай багіні.

Пальчык, набіраючыся адвагі, сьпярша нясьмела шпацырнуў па сквапных вялікіх вуснах, выглядаючы тую маленькую кропачку гузку, пуск ядровае бомбы. Не націскаючы, абышоў яе разоў колькі, песьцячы ружовыя пялёсткі пад кароткія хрыпатыя стогны-усхліпы.

Адкінулася дзявочая галоўка; закаціліся сінія вочы, няспынна аблізваў вусны шыбкі язык, дзідамі тырчалі ўгору грудкі, а пасмачка белых валасоў раптам смыганула аж пад пальчык, накрыўшы ўвадначас гузку... Кароткі крык. Пальчык, не зважаючы на ўжо мокрую пасму, замільгаў хутчэй.

Цела рабіла рытмічныя ўсё часьцейшыя рухі, галоўка, бы на сэансах Кашпіроўскага, круцілася ўбакі, стукаючыся ў перагародку купэ. Пальчык ужо лашчыў самую гузку. Знадрыўнае хэканьне перайшло ў даўгі крык... Потым хвіля цішыні. Нацэліўшыся, пальчык бліскавічна рынуўся ў вадчыненае ўжо сутарэньне; вынырнуў-зьнік, вынырнуў-зьнік ізноў. Поўныя салодкае пакуты, дзявочыя енкі перакрывалі сьвіст цягніка, усё цела калацілася, бы ў прадсконьні. Шчэ адзін моцны штуршок –ды пальчык на волі; дужа ціскануў гузку... Ядровы штуршок –выбух. Разам з глыбезным, ад самага сэрца нізкім стогнам задаволенага юру, дзяўчо, усё ўзмакрэлае, расслаблае, спаўзло на падлогу вагону...

У гэтую хвілю я, згубіўшы зрокам пальчык, ірвучы на сабе вопратку, ускочыў...

**Ганна**

## МАТУЛЯ

Матулечка, родная мая, прывітаньне. Ну вось, нарэшце й пабачыліся. Вой, як стамілася сэрца безь цябе. Як ты, родная, тутака маялася? Так, па тэлебачаньні чула трохі навінаў, ды хіба ж там пачуеш што-небудзь. Толькі абняўшы цябе, удыхаючы твой пах, я адчую праўду – ты ня хлусіш сваім дзеткам.

Матулечка, я вярталася зараз і прыгадала, як было шмат гадоў таму, у маім былым жыцьці, каля ня ведала цябе. Ну так, натуральна, у звычайнай савецкай сям'і пра цябе нічога не казалі. Нас усіх выхоўвалі ў вялікім доме, дзе не было каханьня. Цябе хавалі, рэтушавалі, пэцкалі хлусьнёй і зьнявагай, спрабавалі зрабіць то «Ўскраінай», то «Малодшай сястрой». Ты цярпліва чакала, а потым страсала ўвесь гэны бруд і зноў уздымала высока сваю прыгажосьць.

Мінаў час, я стала зусім дарослай і, нарэшце, адшукала цябе. Божа, як я дзякавала сусьвету за гэта, як ганарылася Табою й прасіла прабачэньня. Я ступіла ў маю Краіну. Нясьмела рабіла першыя крокі, вымаўляла першыя гукі Роднае Мовы і, з кожным імгненьнем, спасьцігала Тваю неабсяжнасьць. У нейкі момант гэта нават спужала: трэба жыць Табою, дыхаць Тваім паветрам, быць Тваім мінулым, сучасным і будучым. І я кахаю цябе, мая адзіная, Моцная, Родная. Я заўжды знаходжу ў цябе ратунак. Што б ні адбывалася, трэба толькі прытуліцца ілбом да тваіх далоняў, як сыходзіць боль і стома, зьнікае турбота й страх. Матуля, колькі пяшчоты ты даеш кожнаму з нас: абдымаеш аблокамі, лашчыш рэкамі, падтрымліваеш сьвятымі камянямі. А калі чуем Мову – кроў ізноў бяжыць хутчэй.

Даруй, Матухна, што прыношу табе свой боль. Табе й так хапае. Гэта ж зараз шыкоўна зганьбіць цябе, пакрыўдзіць Тваё сьветлае імя. Але ж да Цябе гэта не прыстане, Ты ўсё вытрываеш, Ты –моцная жанчына. І нас, сваіх дачок і сыноў, навучыла таму ж. Так дай мне крышачку сваёй ношы, каб хаця трошкі табе было лягчэй. Прымі, Матуля, дапамогу сваёй дачкі. Я няшмат умею –толькі трохі дзетак вучыць. Але я паспрабую іх навучыць так, каб яны ведалі Цябе, ведалі сваю Маці – Беларусь.

Так, родная, у цябе шмат дзетак. Іх раскідала па ўсім сьвеце, але ты шчодра дзеліш нас сваёю любоўю. Ты шмат даруеш нам –бо добра ведаеш.

Так падкажы нам, Матуля, што рабіць. Хавацца ці чакаць нейкіх зьмяненьняў – нельга, зьбіваць адзін аднога – жудасна й бессэнсоўна. А паліць лялькі ды псаваць платы – неяк глупа. Дык дзе ж той шлях, які прывядзе нас да шчасьця? Матуля, я ўпэўненая, ты ведаеш яго. Дык падкажы нам, пакуль мы яшчэ не згубілі розум, памяць і Цябе.

**Марына Неўгень**

## ЗАБОЙЦА ЧАСУ

Я – забойца. Часу. І нават ужо прафэсійная. Мне сорамна за гэта. Але яшчэ больш – балюча. І, ведаеце, што асабліва страшэнна – нас, такіх, многа сёньня. Зашмат. Цэлае пакаленьне забойцаў часу.

Сёмы тыдзень ва ўнівэрсытэце. Першая пара. Лекцыя сусьветнай літаратуры. Выкладчык чытае добра. Не – бліскуча! Але атрымліваецца – для сябе, бо сёньня ўся наша студэнцкая маса ў вялізных прабелах. І амаль кожны займаецца сваімі справамі, у якіх цяжка вызначыць штонебудзь, акрамя пустэчы. Паглядаюць на гадзіньнікі й шумліва чакаюць заканчэньня.

Схіляю галаву перад Жванецкім: не прадбачачы нават, што мы будзем, ён так дакладна сказаў пра нас: «Час у чаканьні цягнецца бясконца, жыцьцё ў чаканьні праходзіць хутка». І нічога не застаецца. Ці гэта ня жудасна, што мы выкідаем у пыл прорвы такія вялікія, адпрацаваныя ўхаластую, кавалкі нашых жыцьцяў. Я вельмі перажываю з гэтае нагоды. Мне да сьлёз шкада сваіх страчаных, расталых дзён. Я нават загадваю сабе, што – усё: ні хвіліны бяз працы, бяз думкі, бяз слова, бяз творчасьці і, увогуле, бязь дзеяньня – ні кроплі часу. Я мару, каб так было са мной і нават зрэдку дакранаюся да гэтай мары, прадчуваючы ў ёй рэчаіснасьць. І... у каторы раз саскокваю зь петляў.

Забойцай часу быць лёгка. Вось толькі сэрцу потым прыходзіцца плаціць за гэта вялізную цану. І тое – калі яно не атрафаванае.

## МАНІНЫ ПЛЯНЫ

Маня заўсёды плянавала сваё жыцьцё наперад. У думках усё атрымлівалася. І Маня пераконвала сябе, што менавіта такім чынам усё й адбудзецца, хаця й ведала наперад, што будзе па-іншаму. Яна была майстрам фантазіі, і створаныя яе мазгамі прадбачаньні будучага лёсу выглядалі так фактычна, што іх не задумваючыся можна было прыняць за ўжо адбылыя й таму трошкі запаволеныя памяцьцю падзеі. З аднаго боку, безумоўна, у гэтым заключалася Маніна бяда, бо плянаў наконт жыцьця было больш, чым самога жыцьця. А з другога боку – бяз гэтага Мані б проста не йснавала й яна б назаўсёды была пазбаўленая тых шчасьлівых імгненьняў, якія даравалі ёй народжаныя зь неверагоднай і застрашальнай хуткасьцю ідэі аб новым жыцьці. Гэта зусім ня значыць, што Маня была тою дурніцай, якая з раніцы да ночы загортвала сябе, як цукерку, у фанцік, у неажыцьцяўляльныя ружова-блакітныя мары. (Яна ўвогуле не любіла ружовага й блакітнага колераў.) Проста яна рыхтавалася да свайго сапраўднага жыцьця, да сапраўднай сябе й ніяк не магла выбраць штосьці адно з усяго прыдуманага мноства...

На гэты раз Маня сказала сабе, што сёньня абавязкова й беспаваротна пазнаёміцца з гэтым сымпатычным хлопцам зь неверагодна таемнай шалёнасьцю вачэй (здаецца, яго імя Алег), таму што часта сутыкаецца зь ім ва ўнівэрсытэце, назірае за ім і адчувае кожны, нават слаба вызначаны, погляд зь яго боку. Канечне, ён таксама ня супраць зь ёй пазнаёміцца. А потым у іх абавязкова будзе каханьне, каханьне, якога ўвогуле ніколі не бывае: безнэрвовае і з той трапяткой пяшчотай, якая даводзіць да страты прытомнасьці, і, мабыць, яны нават ажэняцца. Маня будзе наведваць каханага па вечарох у інтэрнаце й чытаць свае вершы, узбуджаючы яго да россыпу пацалункаў тэмбрам свайго голасу; яна будзе гладзіць яго па галаве ўпершыню за ўсё жыцьцё пацяплелымі далонямі і, прытуліўшы да сэрца, шкадаваць за тое, што ён тут, па сутнасьці, зусім адзінокі, галодны, й да таго ж у яго сабачы холад у пакоі. «Нічога, гэта норма для жыхара інтэрнату», – усьміхнуўшыся, адкажа ён на гэта, абдымаючы Маніны калені. І дадасьць: «Але пасьля цябе я яшчэ доўга не адчую ненармальнасьці гэтае «нормы»». А аднойчы Маня купіць каробку шакалядных цукерак, і яны ўвесь вечар будуць закусваць імі свае размовы пра жыцьцё, пра каханьне і пра будучыню...

Зараз гэта здавалася ёй самым жаданым і неабходным шчасьцем, якое яна так хутка сплянавала й так старанна й часта песьціла ў думках.

Але ні сёньня, ні нават заўтра Маня зь ім не пазнаёмілася... І пачала чакаць пасьлязаўтра. Раптам усё атрымаецца?

## ДЗЕНЬ НАРАДЖЭНЬНЯ

Ненавіджу свой дзень нараджэньня. Ненавіджу. Гэта мая парадаксальная норма выпрацаваная часам. Не, я ня супраць таго, што нарадзілася ўвогуле, ня супраць таго, што жыву й дыхаю гэтым сьветам, але я не магу дараваць часу яго бязьлітасны бег, а сабе – тое, што нават не спрабую вырвацца з-пад яго залежнасьці. Менавіта напярэдадні дня нараджэньня гэта адчуваецца асабліва нясьцерпна. Мяне ахоплівае атрутны боль. І, праходзячы скрозь імгненьне аглушальнай цішыні, я раблюся іншым чалавекам. І наўкола таксама быццам усё зьмяняецца. Гэта жудасна – так, адразу: я не падрыхтаваная. Мне змрочна й халодна. У душы нешта хрумснула: я ўжо тут, але ў думках – (зноўку, зноўку, зноўку!) там. Самае цяжкае, за што я так не хачу дня нараджэньня – погляд назад. Нават ня сам гэты погляд, як паразуменьне праз яго: я ў каторы раз нічога не пасьпела, нічога не зрабіла, нічога... Праматала ды пакінула на паліцы памяці, як антыкварыят, яшчэ адзін год свайго жыцьця. А тое, што паступіла ў ВНУ, напісала колькі артыкулаў ды вершаў – гэта ўсё ня тое. Мала. Канечне, можна спаслацца на кагосьці, хто не зрабіў нават гэтага. Але параўнаньне тут ня выратуе. Справа не ў параўнаньні. А ў тым, як я сама вызначыла, кім і чым хачу быць і што мне дзеля гэтага трэба зрабіць...

Мне ўжо амаль васямнаццаць. І я зноўку напрыканцы кастрычніка разумею, што анічога не пасьпела. Не пасьпела. А заўтра не пасьпею яшчэ больш. Проста, мяне ўжо зачапіла за жывое даросласьць. Я адкрыла, чаму дарослыя так рэдка асьвятляюць свае твары ўсьмешкай: чым старэйшы ты становісься, тым мацней адчуваеш, як цябе здуваюць і б'юць па твары, па галаве, па галечы душы парывы бягучага часу.

Я люблю восень. Я – частка яе. Мне зь ёй добра й цёпла. У кожным зжаўцелым лістку я бачу сябе – шчасьлівую. Я дзякую бацькам за маё нараджэньне ў лістападзе: тут мая стыхія, мая сутнасьць, мая праўда, тут усё – я. І толькі ў адзіны дзень, дзень майго прышэсьця на Зямлю, паміраю ад самой сябе.

**Ксенія Печка**

## ЗА ДВА КРОКІ АД СНУ

Я не люблю пясчаных крэпасьцяў ля вады, калі прыходжу да ракі ноччу й нейкі час стаю нерухома, гледзячы на бледнага блізьнюка-зорку на выгіне ручкі Каўша. І ў момант, калі ў Каўшы пачынае плёскацца ды хвалявацца вада, з асалодай лію яе на сьцены крэпасьці, стараючыся, каб ні адна ненатуральнасьць на роўным ужо пяску не нагадвала аб чымсьці больш складаным, чым прастата пясчынак.



За шыбаю ноч, дзе сьветла – вельмі яркі месяц, усё відаць. І толькі адна зорка. Па падваконьні прапаўзае макрыца –маленькая зьмейка. За яе хвост чапляецца думка: калі б зараз паглядзець праз моцную люпу, было б вусьцішна... Ляжыць агрызак ад яблыка. Ужо паўдня ляжыць. Я кідаю іх паўсюль –можа, гэта неўсьвядомлены варыянт запаўненьня сабой сьвету?.. Углядаюся ў вэнтылятар. Падобны на турбіну. Прычым менавіта сваёй мізэрнасьцю, і яго лопасьці дастаткова пагражальныя... Рука прыліпае да падваконьніка, дрэнна пісаць. Учора разьлілі віно, выцерлі, але ўсё роўна ліпуча... Апошняе, аб чым пасьпяваю падумаць на мытні між рэальнасьцю і сном, добра, што ўсё адносна і на даляглядзе ня бачна ніякіх барадатых абсалютаў.



Трэба ўявіць сабе Вёсачку сярод лесу Восеньскай ноччу. Уявіць, як ты выходзіш з хаты, каб умыцца наноч. Нясьпешна гэтае робіш, паглядаючы на зоры. І раптам чуеш, як вые недзе ў цемры карова. Вы калі-небудзь чулі, як вые карова, заблудзілая сярод соснаў, у Верасьнёўскую ноч? Дзіўна, але разам зь няшчаснай жывёлай пачынаеш шкадаваць і сябе, быццам самая жвавая й няўрымсьлівая часьцінка тваёй існасьці заблукала сярод цемры лесу – альбо лёсу.

Тады ты кідаесься ў хату, зачыняеш дзьверы, занырваеш у ложак і вылічваеш верагоднасьць прысьніць сёньня вясло, што будзе азначаць выйсьце на дарогу, альбо хаця б вошай, якія гарантуюць хуткае набыцьцё грошаў.

**Юры Чарнякевіч**

## СПОВЕДЗЬ

Уздыхваю...

Уздыхваю на поўныя грудзі, адчуваю, як паветра жывіць маю кроў, маё сэрца, цела, розум...

Чалавек... Я – Чалавек. Колькі прайшло тысячагодзьдзяў, як нарадзіўся мой продак! Колькі дасканаліла Прырода слабое чалавечае цела, ягоныя думкі, ягоную душу, каб урэшце рэшт прыйсьці да маёй няўдзячнай асобы!

Безьліч гадоў працавалі вось гэтыя рукі, стагодзьдзямі крочылі безупынку па нязьведаных датуль дарогах вось гэтыя ногі, а вось гэтыя вочы шукалі ды знаходзілі ежу, краявід, жанчыну, ворага... Думкі разьбіваліся аб усялякія перашкоды навакольнага сьвету ды мроілі пра нейкага гаспадара на нябёсах, але потым нараджаліся, паўставалі, клікалі на паўстаньне, перамагалі, адкідаючы састарэлыя догмы й забіваючы іх сваёй маладосьцяй, прыгажосьцяй, моцай...

Уздыхваю...

Тое робяць зараз мільярды людзей на маёй плянэце: і тыя, хто зараз чытае гэтае пісаньне, і тыя, што яшчэ ніколі ня бачылі белага аркуша паперы, і тыя, хто ўвогуле ня думае аб сваёй істоце, а проста існуе.

Задзіночаньне мільярдаў людзей – у кожным кроку, кожным руху, у кожнай думцы... Калі я адчуваю еднасьць, дык магу позіркам ахапіць увесь сусьвет, Сонечную сыстэму, Галяктыку ды павітацца зь іншаземным розумам і зноўку апынуцца ў сваім пакоі.

Я – з усімі. Я – з ідыётам-жабраком, які жыве трыццаць тры гады. Я – поруч з геніем, які стварае атамную эру. Я – з простым калгасьнікам, я – з прэзыдэнтам, я – з паэтам, я –з Сусьветам, з табою, чытач, і з самім сабой. Я думаю думкі разам з усімі – жахлівыя, юрлівыя, брыдкія, баязьлівыя ды зрэдчас – сьмелыя. Я – усё. Я – нішто. Я – поруч...

Маё цела, амаль такое ж, як і ў мільярдаў людзей, уздрыгвае ад гэтае балючае, незвычайнае, нечакае мроі. І я плачу, бо не хачу, не жадаю, не магу быць у чымсьці падобным да іншых, не жадаю жыць поруч, разам са звычайным, абрыдлым ужо сьветам!

Я – Бог і Д'ябал! Я – Сусьвет і зямля!..

Уздыхваю...

Андрэ Жыд

# Застольная песьня граната

*Само сабою, дастаткова трох зернетак*
*граната, каб нагадаць пра Празэрпіну.*

*Колькі б ні шукалі вы душэўнага*
*Шчасьця – немагчымае яно.*
*Хай да плоцевых, да пачуцьцёвых радасьцяў*
*Іншы вас, як ёсьць ахвота, прыракае,*
*Горкіх плоцевых і пачуцьцёвых радасьцяў*
*Зычыць вам – як ён – я не наважуся.*

*– Дзідзье*, мысьляру палкі, я насамрэч табою захапляюся,*
*Што твая вера ў думку спраўляе розуму твайму такую радасьць,*
*Якой ніводная інакшая не пераважыць.*
*Але ня ўсім тут умагчымваецца мецъ аж столькі жарсьці гэткай.*

*О, я таксама, насамрэч, люблю вас,*
*Уздрыгі згубныя душы маёй,*
*Уцехі сэрца, інтэлекту радасьці, –*
*Ды песьня мая ўсё-ткі вам, вам, асалоды.*

*Вам, плоцевыя ўцехі, пяшчотныя, як мурава,*
*Цудоўныя, як квеціва паркану.*
*Так хутка вянучыя, або скошаныя, як лугавая дзятлінка,*
*Як той смутлівы спырнік, што асыпаецца, ледзь толькі*
*дакранесься.*

*Наш позірк – вось ад'яда пачуцьцяў нашых...*
*Усё, чаго ня можам мы памацаць, нам вярэдзіць;*
*Розум ухоплівае думку нашмат спрытней,*
*Як рука наша тое, чаго карціць нашаму воку.*
*О! хай жаданым будзе ўсё, што можаш ты пакратаць,*
*Натанаэль, і не імкніся да паўнейшай авалоды.*
*Найсаладзейшай радасьцю маіх пачуцьцяў*
*Была спатоля смагі.*

*О так, дзівосны ён, туман на ўсходзе сонца над далінай,*
*І сонца – цуд дзівосны,*
*Дзівосны пад нагамі босымі дол ураселы*
*І вогкі ад марской вады пясок;*
*Дзівосна акунуцца ў плынь крынічную;*
*Пацалаваць цалункам лёгкім чыесьці вусны ў змроку...*

*Але плады – тыя плады – Натанаэль, ну што скажу я?*
*Ах, ты не скаштаваў іх,*
*Натанаэль, і гэта мяне скрушыць.*
*Іх мякаць, далікатная і сакаўная,*
*Смакотная, была як плоць крывавая,*
*Пунцовая, як кроў са сьвежай раны.*
*Яны ня рупілі, Натанаэль, ніякай асаблівай смагі,*
*А падавалі іх у залатых кашах;*
*Іх смак спачатку знуджваў сваёю незраўнанай прэснасьцю;*
*Ён непадобны быў на смак ніводнага з пладоў нашых мясьцінаў;*
*Смак перасьпелых гуава нагадваў ён*
*І, падавалася, праймаў усё нутро;*
*А ў роце потым заставалася гаркота;*
*Мы гоілі яе, зьядаючы чарговы плод;*
*Зьнікала ўміг, як толькі наставала,*
*Насаладзь сокам;*
*І насалодны міг той вабіў тым мацней,*
*Чым болей мліла затым несмач.*
*Кош хутка спаражнеў.*
*Апошні плод, што мы былі пакінулі,*
*І той разьдзелены быў неўзабаве.*
*Ах! а пасьля, Натанаэль, хто выкажа, як горка*
*Гарэлі нашы вусны?*
*Ніякая вада змыць не змагла таго апёку.*
*Прага пладоў гэтых нас змучыла да глыбіні душы.*
*Тры дні шукалі іх мы скрозь па рынках,*
*Але сэзон на іх мінуў.*
*Дзе, на якіх, Натанаэль, дарогах нашых чакаюць*
*Нас новыя плады, каб падарыць нам новыя жаданьні?*

*

*Мы будзем смакаваць іх на тэрасах.*
*Дзе-небудзь каля мора, надвячоркам.*
*Мо згатуем у цукровай паліве*
*Зь невялічкім дадаткам ліквору.*
*Мо натрусім іх з дрэваў*
*Запаведных, за абводам каменным, садоў*
*І частавацьмемся ў засені лета.*

*Мы сядзецьмем за столікамі;*
*Плады так і сыпнуцца наўкола нас,*
*Варта будзе адно страсянуць гальлё,*
*Дзе прачнуцца здранцьвелыя мухі.*
*Пазьбіраем мы паданцы тыя,*
*І адзін ужо водар іх нас зачаруе.*

*Ёсьць такія, скажурка якіх пляміць вусны*
*і якіх не ўжываюць, хіба толькі тады, калі надта даймае ўжо смага.*
*Мы іх выявілі пры пяшчаных дарогах;*
*Яны сьвяціліся між калюкастага лісьця,*
*Якое зраніла нашыя рукі, калі мы памкнуліся былі дастаць іх;*
*Мы так і ня здолелі наталіць нашай смагі.*

*Ёсьць такія, зь якіх згатавалася б сочыва,*
*Толькі даўшы ім смажыцца на санцапёку.*

*Ёсьць такія, скажурка якіх не псуецца і ўзімку;*
*Кусьнеш – і на зубах адразу аскома.*

*Ёсьць такія, скажурка якіх прахалоднай здаецца нават летам гарачым.*
*Мы іх елі, прысеўшы на матах,*



*У невялічанькім кабарэ.*

*Ёсьць такія, адзін успамін пра якія зноў сьмяжыць,*
*Ад таго, што знайсьці іх ужо немажліва.*

*

*Натанаэль, а хочаш, я пра гранаты раскажу табе?*
*Іх прадавалі ўсяго за пару су на ўсходнім тым базары.*
*Цэлымі рэшатамі камышовымі, унасып.*

*Мы бачылі, як яны ў пыле валяліся*
*І як іх падбірала голая дзятва.*
*Сок іхны кіславаты, бы сок маліны недасьпелай.*
*Квет іхны нібы з воску выліты;*
*Ён таго ж колеру, што й плод.*

*Скарб прыхаваны, разгародкі вузаватыя,*
*Аквітасьць сакаўнасьці,*
*Лад пяцікутны.*
*Скажурынка зьдзіраецца; зярняты падаюць.*
*Крывавыя зярняты ў лазуркавыя чары;*
*А рэшта, залатыя капкі, на бронзавыя сподкі.*

**З французскай пераклала Ніна Мацяш**

# ВАЎЧЫНАЯ ЯМА

*Працяг са старонкі 7*

га, торапка пакідаў у сумку свой небагаты набытак і надзеў афіцэрскі шынель са спаратымі пагонамі. Дзяніска адразу заўважыў бацькавы зборы і кінуў мэталічны аўтамабільчык, якім гуляў на падлозе. «Ты куды, папка?» — «Я хутка», — схлусіў бацька, каб не трывожыць сына. «Ты ў краму па шакаладку? — дапытваўся сын. — І я з табой». «Я ня ў краму, я ў іншае месца». «Вазьмі й мяне ў іншае месца», — бы што прадчуваючы, прасіўся сын, ужо надзяваючы сваю куртачку. Што было зь ім рабіць? Сварыцца ў яго ўжо не было сілы, але і куды ён мог яго ўзяць? «Ня йдзі за мной, заставайся дома», — строга загадаў ён, і Дзяніска заплакаў. Дзіцячая душа, мабыць, ужо адчувала благое, ашукаць яе было нельга. А ён тады й не падумаў, што болей ім не пабачыцца. Выскачыў у дзьверы і накінуў на прабой дужку замка. У пакоі пакрыўджана плакаў Дзяніска, і ён не хацеў чуць дзіцячага плачу. Той плач прадаўжаў гучэць у ягонай памяці ўсе наступныя дваццаць ці болей гадоў, часам прападаючы, а то раптам узьнікаючы — нясьцерпна, да роспачы. У згадках, снах, самых недарэчных па часе ўспамінах...

Ну, але дзе ж салдат? Чаму не прыходзіць салдат?

Бамж ужо адкінуў свае нядаўнія велікадушныя думкі пра тое, каб салдат не вяртаўся — яму дужа трэба было, каб вярнуўся. Што б зрабіў, калі б вярнуўся, чым бы дапамог бамжу, ён ня ведаў. Наўрад ці яму што памагло б. Але цяпер ён прагнуў пабачыць салдата, тое было вельмі патрэбна бамжу. І можа б, ён прынёс хоць малое каліва, хоць бы адзін глыток. Яму так хацелася цяпер глынуць хоць трошкі, — адчуваў, тады стала б лепей. Як лепей было заўжды, калі вып'е. Дурны ён, што паспадзяваўся, быццам адвыкне ў зоне. Нашто было адвыкаць?

Можа, выпіць — было самае лепшае ў яго бязладным жыцьці. А ад лепшага не адмаўляюцца. Ды й навошта? Дзеля чаго? Шкада, што найкаштоўныя ісьціны прыходзяць непапраўна позна.

Дык дзе ж салдат?

Невядома чаму ён зноў пачаў караскацца на абрыў, зрушыў зь яго пласт зямлі, і ўсё няўдала. Чаму ён гэтак караскаўся — хто ведае. Але такая была яго неўсьвядомленая апошняя воля —кудысь караскацца. Спазьнелая, марная воля. Як і ўсё спазьнелае, тое рэдка бывае ўдалым. Ня стала яно ўдачай і для бамжа. Мабыць, паратунку яму не было ўжо нідзе, і ён падсьвядома адчуваў тое. Ды нейкая добрая ці не воля цягнула яго туды, на абрыў, да іх учарашняга лаўжа, здавалася, так было трэба. І тады ён адчуў, што гэты покліч — покліч канца. Сканаць належала на ўласным месцы — у лаўжы ці ў ложку, але ў сваім кутку.

Але дзе ягоны куток? Кутка ў бамжа даўно не было, а можа, не было й ніколі. Ён свой куток прафукаў, прапіў, той растаяў у прывідным алькагольным тумане. А цяпер бы ён так спатрэбіўся. Хаця б для магілы...

Пасьля чарговае спробы ўлезьці і чарговай няўдачы ён адчуў, як запякло — агнём апаліла ў грудзях, і чымсь салёным напоўніўся рот. Тады ён сплюнуў у пясок, адчуваючы, як хутка зноў стала поўніцца ў роце. Не адразу ён зразумеў, што гэта ішла кроў. Кроў ішла з горла. Тое яго спалохала, але толькі на момант. Мабыць, так яно й павінна быць. Усё папярэдняе было падрыхтоўкай да такога канца.

Ён ляжаў на баку пад абрывам і ўжо не пляваў, толькі павярнуў долу твар. Кроў плыла на пясок. Усё ж крыві было шмат, і мабыць, трэба быў час, каб яна сышла ўся. Зь ёй сыдзе й жыцьцё...

Але, можа, раней прыйдзе салдат?

Салдат зрабіўся дужа патрэбны бамжу — зусім ня дзеля паратунку, а для чаго, ён і сам ня ведаў. Што б ён сказаў салдату? Увогуле сказаць было шмат, для таго не хапіла б жыцьця. Але, можа, найперш разьвітацца. Разьвітацца, не расказаўшы. Вось так, нічога ён не пась-

Мірча Эліадэ

# МІТЫ СУЧАСНЫХ МЭДЫЯЎ

Супэрмэн, фантастычны пэрсанаж стаўся надзвычай папулярны дзякуючы дваістасьці сваёй асобы: трапіўшы на Зямлю з плянэты, зьніклай у выніку катастрофы, супэрмэн жыве пад маскай сьціплага журналіста Кларка Кента. Ён сьціплы, незаўважны, ягоны калега Лойз Лейн увесь час выпераджае яго. У гэтай масцы сьціпласьці героя, які валодае сапраўды бязьмежнымі магчымасьцямі, рэпрадукуецца вядомая міталягічная тэма. Калі па сутнасьці, міт пра супэрмэна задавальняе падспудныя жаданьні сучаснага чалавека, які ўсьведамляе сябе бяздольным і маласільным, але марыць пра тое, што аднойчы стане «героем», выключнай асобай, «звышчалавекам».

Тое самае можна сказаць пра дэтэктывы: з аднаго боку, мы стаем тут сьведкамі барацьбы між дабром і злом, між героем (дэтэктыў) і злачынцам (сучаснае ўвасабленьне дэмана). З другога боку, чытач падсьвядома ўцягваецца ў працэс самаатаесамленьня, бярэ ўдзел у драме, містэрыі, у яго ўзьнікае пачуцьцё асабістай далучанасьці да дзеі, адначасова нябясьпечнай і «гераічнай».

Гэтаксама даказана, што мас-мэдыі міталягізуюць людзей, ператвараючы іх у вобраз-прыклад. [...]

Міталягічныя паводзіны раскрываюцца таксама ва ўпартым імкненьні дасягнуць «посьпеху», такім характэрным для сучаснага грамадзтва і выражаючым цьмянае й неўсьвядомленае жаданьне выйсьці за межы чалавечых здольнасьцяў. Гэта знаходзіць свой выраз і ў памкненьнях зьмены месца жыхарства, іншы раз зусім не рацыянальных, што можна праінтэрпрэтаваць як настальгію за «першапачатковай дасканаласьцю», і ў палкай цязе да «культу сьвятое калясьніцы». Як заўважыў Эндру Грылі, «дастаткова наведаць штогадовы аўтамабільны салён, каб зразумець, што гэта — сапраўдны рэлігійны рытуал. Колеры, асьвятленьне, музыка, пабожнае захапленьне прычараваных наведнікаў, прысутнасьць храмавых танцорак — манэкеншчыц, бляск і раскоша, марнатраўства, сьвет народу — усё гэта ў дачыненьні да іншай культуры мы маглі б назваць сапраўднай культавай імшой (...). Культ сьвятое машыны мае сваіх адэптаў і ўтаямнічаных. Гностык не чакаў думкі-адкрыцьця аракула з большай нецярплівасьцю, чым адэпт аўтамабіля чакае першых зьвестак пра новыя мадэлі. Менавіта ў гэты пэрыяд гадавога цыклю ўзрастае значэньне й роля служкаў культу — гандляроў аўтамабіляў, а неспакойны натоўп нецярпліва чакае новага збаўцы».

Мірча Эліадэ – румынскі гісторык рэлігіяў і раманіст. Пісаў па-румынску і па-француску. Вучыўся ў Індыі, працаваў дыпляматам у Лёндане й Лісабоне. Пасьля Другой сусьветнай вайны перабраўся ў Францыю, пасьля ў ЗША, дзе выкладаў у Чыкагскім унівэрсытэце. Ягоныя працы: «Трактат па гісторыі рэлігіяў» (1949), «Міт пра вечнае вяртаньне» (1949), «Ёга, несьмяротнасьць і свабода» (1964), «Аспэкты міту» (1988); раманы – «Майтрэі» (1933), «Uniformes de general» (1981).

Менш увагі надавалася так званым элітарным мітам, у прыватнасьці, тым зь іх, што зьвязаныя з мастацкай творчасьцю й яе адлюстраваньнем у культуры й грамадзтве. Найперш трэба ўдакладніць, што гэтыя міты замацаваліся ў вузкім коле ўтаямнічаных пераважна таму, што шырокая публіка і афіцыйныя інстанцыі ня надта разумеюцца ў мастацтве. Агрэсіўнае неразуменьне публікай, крытыкамі і афішыёзам такіх мастакоў як Рэмбо і Ван Гог, адмоўныя наступствы, што мела для калекцыянэраў і музэяў няўвага да наватарскіх плыняў у мастацтве, пачынаючы ад імпрэсіянізму і да кубізму й сюррэалізму, паслужылі суворым урокам для крытыкаў, публікі, кнігароў, калекцыянэраў і адміністрацыі музэяў. Цяпер усе яны апанаваныя адным страхам: прапусьціць, не заўважыць новага генія, не пазнаць будучы шэдэўр у цалкам незразумелым творы. Здаецца, ніколі не было гэтак відавочна, што чым з большым выклікам і дзёрзка ставіць сябе мастак, чым ён абсурднейшы, больш незразумелы й недаступны, тым больш у яго прызнаньня, узнагародаў, вагі. У сіх-тых краінах узьнік нават своеасаблівы акадэмізм наадварот, акадэмізм авангарду, прычым настолькі татальны, што мастак, які ня ўлічвае гэтага новага канфармізму, рызыкуе застацца незаўважаным або адціснутым канкурэнтамі.

Міт аб праклятым мастаку, які панаваў у XIX ст., сёньня састарэў. У ЗША, але і ў Заходняй Эўропе таксама, найбольш карысьці мастаку прыносяць нахабства, дзёрзкасьць і выклік у паводзінах: Ад яго патрабуецца быць «дзіваком», ні на кога не падобным і ствараць толькі «цалкам новае». У мастацтве адбываецца свайго роду пэрманэнтная рэвалюцыя. Сказаць, што ўсё дазволена, — гэта мала сказаць: любое наватарства наперад абвяшчаецца й прыраўноўваецца да геніяльнасьці Ван Гога ці Пікасы, і няважна, ідзецца пра ірваныя афішы або кансэрвную банку, падпісаную мастаком.

Значэньне гэтай культурнай зьявы тым больш сучаснае, што ўпершыню, можа быць, у гісторыі мастацтва не існуе больш напружанасьці між мастакамі, крытыкамі, калекцыянэрамі й публікай, пануе поўная і агульная згода яшчэ да таго, як узьнікне новы твор, як адкрыюць яшчэ нікому не вядомага мастака. Адно важна: каб ні ў якім разе ня трапіць у такое становішча, што ў будучыні мы меліся б прызнацца: мы ня ўцямілі новага мастацкага досьведу, праганілі новага генія.

Наконт такой міталёгіі сучасных элітаў абмяжуемся толькі парай заўваг. Перадусім адзначым выкупляльную функцыю панятку «недаступнасьці», як ён праяўляецца ў сучасным мастацтве. Эліта захапляецца «Хаўтурамі па Фінэгане», атанічнай музыкай або ташызмам, бо гэтыя творы ўяўляюць сабой замкнёныя сусьветы, гермэтычныя прасторы, куды можна пранікнуць адно коштам вялізных высілкаў, параўнальных з выпрабаваньнямі, праз якія праходзяць утаямнічваныя ў першабытных супольнасьцях. З аднаго боку, узнаўляецца адчуваньне «ініцыялізацыі», што амаль зьнікла ў сучасным грамадзтве. Зь іншага боку, у вачах «іншых», у вачах «масы» афішуецца прыналежнасьць да нейкай таямнічае меншасьці, не да «арыстакратыі» (сучасная эліта схіляецца хутчэй да «лявіцы»), але да гнозісу, адначасова вечнага, трывалага й духоўнага, апазыцыйнага як афіцыёзным вартасьцям, так і традыцыйнай царкве. З дапамогаю культу экстравагантнай і недаступнай арыгінальнасьці эліта пазначыла разрыў з банальным мяшчанскім сьветам сваіх бацькоў, адначасова паўстаўшы супраць сучасных ёй філязофіяў адчаю.

Па сутнасьці, гіпноз недаступнасьці, незразумеласьці твору мастацтва выдае жаданьне адшукаць новы, таямнічы, невядомы да гэтага сэнс сьвету й чалавечага існаваньня. Мы маем жаданьне «ініцыяцыі», жаданьне знайсьці падспудны сэнс гэтага разбурэньня мастацкай мовы, усіх гэтых «арыгінальных» досьведаў, якія на першы погляд, ня маюць з мастацтвам нічога агульнага. Разьдзёртыя афішы, парожнія палотны, праткнутыя нажом або згарэлыя «прадметы мастацтва», што ўзьлятаюць у паветра падчас вэрнісажу, імправізаваныя спэктаклі, дзе акторы цягнуць жэрабя: хто будзе падаваць рэплікі, — усё гэта мусіць мець значэньне, гэтак жа як нейкія незразумелыя словы з «Хаўтураў па Фінэгане» для ўтаямнічаных набываюць мноства сэнсаў і надзвычайнае хараство, калі адкрываецца, што яны паходзяць ад словаў новагрэцкай мовы або суахілі, калі яны ўзбагачаюцца крыжаванымі намёкамі на магчымыя калямбуры, калі вымаўляць іх гучна й хутка (...).

Гэта быццам бы новы сьвет, што рэканструюецца з абломкаў і загадак, сьвет амаль прыватны й свой, які йснуе толькі для вузкага кола ўтаямнічаных. Аднак прэстыж «складанасьці» й незразумеласьці такі вялікі, што шырокая публіка неўзабаве ўцягаецца ў гэты працэс і абвяшчае пра сваю поўную згоду з адкрыцьцямі эліты.

Мастацкая мова была разбураная кубізмам, дадаізмам і сюррэалізмам, дадэкафанізмам і «канкрэтнай музыкай», Джойсам, Бэкетам і Ёнэско. Разбураць далей могуць толькі эпігоны. Як мы ўжо казалі раней, сапраўдныя мастакі не жадаюць ствараць на руінах. Усё кажа нам, што зьвядзеньне «мастацкага сусьвету» да першаснага стану materia prima, першаматэрыі, зьяўляецца толькі момантам больш складанага працэсу. Як у цыклічных канцэпцыях першабытных супольнасьцяў за «Хаосам», рэгрэсам усіх формаў у першаформы materia prima, сьледам ідзе новая творчасьць, падобная да касмагоніі.

Крызіс сучасных мастацтваў не цікавіць нас як такі, але варта, аднак, спыніцца на полі літаратуры, найперш эпічнай літаратуры, зьвязанай зь міталёгіяй і міталягічнымі паводзінамі. Вядома, што і эпас, і раман, як і іншыя літаратурныя жанры, у іншым пляне і зь іншымі мэтамі працягваюць міталягічнае апавяданьне (...). Наратыў і, у прыватнасьці, раман занялі ў сучасных грамадзтвах месца міталягічных аповедаў і казак у першабытных грамадзтвах. Больш таго, апраўдана казаць пра «мітычную» структуру асобных сучасных раманаў, можна даказаць, што шмат якія значныя міталягічныя тэмы й пэрсанажы атрымаюць новае жыцьцё ў літаратурным абліччы (гэта асабліва верна што да тэмы ініцыяцыі, тэмы выпрабаваньняў, праз якія праходзіць герой-выкупляльнік, ягоных змаганьняў з цмокамі, міталягічнай тэмы здароўя й багацьця). Улічваючы ўсё гэта, можна зрабіць выснову, што сучаснае захапленьне раманамі выяўляе схільнасьць да дэсакралізаваных або сукрытых пад сьвецкімі формамі «міталягічных гісторыяў».

Іншы шматзначны факт: патрэба ў «гісторыях» і аповедах, якія можна было б назваць парадыгматычнымі, бо яны разгортваюцца паводле традыцыйнай мадэлі.

Які б сур'ёзны ні здаваўся крызіс сучаснага раману, патрэба занурацца ў «іншыя» сусьветы й сачыць за прыгодамі «гісторыі», мабыць, унутрана ўласьцівая чалавеку і таму незьнішчальная і нязводная. Ейную сутнасьць вызначыць цяжка: тут выяўляюцца й жаданьне камунікацыі зь «іншымі», «невядомымі», жаданьне падзяляць іхныя драмы й падзеі, і патрэба ведаць тое, што магло б адбыцца. Цяжка ўявіць сабе чалавека, які б не паддаўся чарам «аповеду», дзе гаворыцца пра значныя падзеі, што напаткалі людзей, уладальнікаў «падвойнай рэальнасьці» літаратурных пэрсанажаў, якія адначасова адлюстроўваюць гістарычную й псыхалягічную рэчаіснасьці грамадзянаў сучаснага грамадзтва і надзеленыя магічнай сілай творчае фантазіі. Аднак «выйсьце за межы Часу», ажыцьцяўлянае з дапамогай чытаньня, прагляду — гэта тое, што найбольш зьбліжае функцыі мастацтва й міталёгіі. Бадай, час, што «перажываецца» пры чытаньні раману, ня ёсьць часам, які ў архаічных супольнасьцях інтэгруецца, злучаецца ў адно цэлае пры праслухоўваньні міту, але ў абодвух выпадках адбываецца «выйсьце» з гістарычнага й асабістага часу й пагружэньне ў выдуманы, трансгістарычны час.

Чытач уваходзіць у сфэру ўяўленага, чужога, рытмы якога зьменныя да бясконцасьці, бо кожны аповед мае свой уласны, спэцыфічны й выключны час. Раман ня мае выйсьця ў першародны, першасны час мітаў, але ў той меры, у якой ён апавядае аб праўдападобнай гісторыі, раманіст выкарыстоўвае як бы гістарычны, але ўзяты ў разгорнутай або згорнутай форме час, які, гэткім чынам, валодае ўсёй свабодай уяўных сусьветаў. У літаратуры, больш чым у якіх іншых мастацтвах, праяўляецца бунт супраць гістарычнага часу, жаданьне адшукаць і ўвесьці ва ўжытак іншыя часавыя рытмы, чым тыя, у рамках якіх мы змушаныя жыць і працаваць (...).

Як і трэ' было чакаць, гэта тая самая барацьба супраць часу, тыя самыя надзеі скінуць цяжар «мёртвага часу», часу, які душыць і забівае.

**Пераклаў з францускай А.Д.**

---

пеў у жыцьці — ні для сябе, ні для другіх. Жыцьцё нядаўна яшчэ здавалася такое нясьцерпна даўгое, а апынулася кароценькім, бы заечы хвосьцік... А гэтага няўдаку-хлопца таксама скруціць тая ж самая радыяцыя, што даканала яго. На самым пачатку ягонага маладога жыцьця. Усё ж жыцьцё, якое б яно ні выдарылася, самае каштоўнае ў сьвеце перад чорным правальлем канца.

І ўсё ж ён хацеў дачакацца салдата. Можа б, той прынёс хоць глыток. А так...

Што значыла гэтае А ТАК, ён ужо не дадумаў. Ягоная цьмяная, з прывідамі сьвядомасьць згасла. Паволі, трудна, быццам з астатніх сіл чапляючыся за яву. Нарэшце зьнікла зусім...

Салдат нёс бульбу, ён дужа сьпяшаўся. Невялікае вядзерца, аднак адрывала рукі, і ён хапаў яго за драцяную дужку то правай, то левай рукой. Невядома, ці яно сапраўды было цяжкое, ці хлопец надта аслабеў у гэтай дарозе. Час ад часу ён спыняўся пад хвоямі, ставіў вядзерца ў дол і нядоўга спачываў, штораз азіраючыся па баках. Не, ваўка пакуль не было відаць, воўк за ім ня йшоў. Наўрад ці ён быў здольны бегчы, той пляшывы дахадзяга-воўк. Але й чалавек траціў сілы, дарма, што быў малады. Трудна было дыхаць, у грудзях увесь час тахкала сэрца, ён дужа змакрэў ад поту, але бушлат не скідаў. Зьнімаў толькі шапку, як адпачываў. Пасьля то надзяваў яе на галаву, то клаў на бульбу ў вядзерца. Усё роўна, і так, і так было душна, цяжка і нязручна. Зімовая шапка замінала яму, але й кідаць яе не хацелася. Ён думаў, што шапка ўсё ж беражэ галаву ад нуклідаў.

Сонца ўжо схілілася над лесам, сьвяціла збоку і не так пякло, як у паўдзён. У лесе пабольшала прахалоды — нават на хваёвых грудках не было душнаты. Між хвояў гуляла-пералівалася цёплае, залацістае сьвятло, па імшыстым доле сslаліся касыя цені, патрэсквала сухое гольле пад ботамі. Там-сям буялі верасы, а то пачыналі ўбірацца ў сілу, зацьвітаць зарасьнікі чарніц. Але ягад яшчэ не было. Ці дачакаецца сёлета ягад? — самотна падумаў салдат.

Балота ён абышоў старанай — прадраўся праз хмызьняк і апынуўся на беразе рэчкі. Адсюль ужо блізка было й да іхнага стойбішча, і ён прысьпешыў свой хісткі крок — хацелася, як найхутчэй.

Хмызьняковай сьцяжынай ён выйшаў нарэшце на іх беражок і трохі сумеўся — бамжа нідзе не было. Ні каля рэчкі, ні на беразе, ні на абрыве. Яшчэ праз колькі крокаў ён зглeдзеў скорчаную постаць пад абрывам і падумаў, што той заснуў. Але штось яго затрывожыла, — надта ўжо скорчаная пастава бамжа прымусіла салдата кінуць вядзерца і пабегчы туды. Там найперш ён убачыў згусьцелую кроў на пяску, на плячы кухвайкі і аж зьнячывеў ад думкі, што бамжа забілі. Ажно пасьля зразумеў, што кроў ішла з рота. Бамж быў нежывы.

Надзіва самому сабе, салдат ня надта й спалохаўся. Адчуў толькі вострае пачуцьцё непрыемнасьці, нават гідоты, а затым і зьдзіўленьня — нашто так? Быццам бамж зрабіў тое сам з пэўным нядобрым намерам. Пасьля, аднак, зашчымела шкадаваньне і зь ім — паўзабытае адчуваньне ўласнай пакінутасьці. Цяпер зноў ён адзін. Сам на сам. І ўся гэтая бульба — яго. Яе можна сьпячы і аднаму ўсё зьесьці. І ня трэба нікому аддаваць рэшту хлеба ў кішэні, — усё ж выгода ад гэтай неспадзяванай сьмерці. Ён асьцярожна дастаў абкрышаны кавалак і пачаў яго есьці. Мусіць, як у вайну. Вэтэраны расказвалі, што чым больш гінула ў роце, тым больш для галодных заставалася харчу. І гарэлкі. А ён не прынёс бамжу выпіць, нават не папытаўся ў дзеда... Было журботна і паныла.

*Працяг на старонцы 14*

# СНЫ КАТАЛЁНІІ

**У сярэднявеччы Каталёнія была адной з самых уплывовых міжземнаморскіх дзяржаваў: вяла актыўны гандаль, пасьпяховыя войны з суседнімі дзяржавамі, пашыралася за кошт Валенсіі і Балеарскіх выспаў, давала сьвету геніяльных паэтаў і вучоных...**

**Але нездарма кажуць, што ворагаў трэба баяцца найболей не ў часы вайны, а ў часы міру й спакою і што найвышэйшая вартасьць лідэра — не на полі бою, а ў хвіліны добрабыцьця весьці, не спыняючы, барацьбу з таемнымі й самымі падступнымі ворагамі — лянотай, бязьдзейнасьцю, прагнасьцю... На жаль, як і мы, каталёнцы не змаглі выкарыстаць гэтую параду. Зь цягам часу Каталёнія згубіла свае эканамічныя правы, гандлёвыя прывілеі, духоўную незалежнасьць і нацыянальную мову. На працягу трох стагодзьдзяў — з XVI па XIX — гэтая краіна была бездапаможнай і паралізаванай ва ўсіх сфэрах жыцьця. Але, што цікава і добра вядома нам, у той жа час каталёнцы, пазбаўленыя магчымасьці пісаць на роднай мове, не стварылі ніводнага значнага твору й на гішпанскай, нягледзячы на ўпартае насаджэньне кастыльскага духу.**

**Чаму так? Таму, відаць, што да XVII стагодзьдзя каталёнцы ўжо склаліся як нацыя; працэсы ўтварэньня дзяржавы новай эпохі зайшлі занадта далёка, і Каталёнію ўжо няпроста было ператварыць у яшчэ адну правінцыю гішпанскага каралеўства.**

**Трохсотгадовы сон Каталёніі ня стаў сном назаўсёды, пра што й сьведчыць новая каталёнская паэзія.**

**P.S. Гэтыя падрадкоўныя насьледаваньні прысьвячаю памяці бабулі Грасільды (Грасі) Адамовіч (у дзявоцтве — Роўда) і бабулі Тэрэзы (Тарэсы) Чантарыцкай (у дзявоцтве — Адамовіч).**

**С.А.**

## ПЭРЭ КУАРТ

Каталёнскі паэт, празаік і драматург. Сапраўднае імя – Жоан Алівэ. Нарадзіўся ў Сабадэлі ў 1899 годзе. Адукацыю атрымаў у Барсэлёнскім унівэрсытэце. Пасьля перамогі франкізму некалькі гадоў правёў у выгнаньні – у Францыі і Чылі. Аўтар кніг «Галовы на калодзе» (1934), «Зьвярынец» (1937), «Аплочаны адпачынак» (1960) ды іншых.

### ОДА БАРСЭЛЁНЕ
*(фрагмэнты)*

*Тысячы вокнаў, воч*
*глядзяць на мітусьню тваю і бурапеннасьць.*
*Даўжэе ноч.*
*Прапоратыя памяці падушкі,*
*сноў полымя,*
*ізноў*
*кроў злога чыну,*
*дзяцінства мёртвае, крык, сорам!..*
*Барсэлёна, з разарваным крыльлем,*
*параненая!*
*Зьвіняць зарытыя званы,*
*крыжы лунаюць,*
*і птушкі– вестуны няўцямнага чагосьці.*
*Сьцяна хавае нам нябачныя скрозь нішы.*
*Блакітныя сьцягі, палотны неба,*
*разьвешанае споднае аблокаў.*
*Барсэлёна, адгэтуль*
*хаос тваім парадкам будзе.*
*Ня дыхае больш золата – зьбялела.*
*Асфальт гайдае*
*трызьненьне колаў, напампаваных бураў.*
*І ветразі зьняважана апалі.*
*Барсэлёна,*
*твае нашчадкі зразумець цябе ня могуць,*
*вядзьмарка апантаная,*
*сяньнік чаканьняў.*
*Разбэрсаная, хрыплая,*
*губляеш ты і сорам і штандар,*
*жыцьцё жабруючы*
*між дурнатой і сьмерцю.*
*Усё яшчэ танцуеш,*
*сяк-так прычэсваесься шчэпкай*
*і пудрыш язвы порахам альбо*
*халодным прыскам.*
*Але ёсьць дзеці, што зьбеглі ад цябе,*
*так, тыя, якіх ты надта песьціла –*
*прылізаныя і ў пальчатках, –*
*патрыёты, фу ты, ну ты!*
*Цябе яны зракліся,*
*хіба што ты прыкінесься манернаю кларыскай.*
*Аблаялі цябе яны, бо ты*
*ўжо не такая ветлівая і*
*не цікавісься брутальнаю гульнёю у нажыву*
*сярод бісэксуальных шлюх і фаварытаў.*
*Барсэлёна, пяеш хрыпата песьню ты, якая*
*нас агаломшвае.*
*Тармосіш тых, што прыязджаюць,*
*прызямляюцца, –*
*і тыя разбухаюць,*
*як быстрыня, што йдзе супроць пратокаў,*
*уверх па Рамблас,*
*уверх па Пасэа дэ Граса.*
*Яны сьвішчуць, штурхаюцца, лаюцца,*
*глядзяць спадылба на гаспадарскія палацы,*
*на пужлівыя шторы і трымклівыя рэбры платоў,*
*на дзьверы з сакрэтнымі запорамі.*
*Рагочуць людзі вуліцы,*
*дзеляцца на атрады,*
*якія кідаюць на дно краты,*
*застрашваюць ліфты, каб ня так сьпяшаліся,*
*калечаць двайныя засовы,*
*выключаюць пляўком*
*сыгналы трывогі.*
*Паслужлівыя калідоры зьбянтэжана маўчаць,*
*але залы для прыёмаў прымаюць іх дрэнна,*
*дываны ціха абураюцца іх альпаргатамі.*
*Расхінаюцца насьцеж дзьверы бальконаў,*
*і з вуліцы ўрываюцца ненажэрныя ветру*
*парывы,*
*кроў, рыканьне,*
*пыл, што ўзьвіўся над брукам,*
*вывернутым пазногцямі гневу.*
*Шумна паўзе вужака,*
*доўгая чырвоная бліскавіца ўплішчваецца ў*
*сьцяну:*
*«Дом заняты Рэвалюцыйнай Моладзьдзю».*
*Барсэлёна,*
*твой арыстакратычны квартал*
*апрануў пралетарскую робу.*
*Ён усьміхаецца, горды і нецярплівы, –*
*паўсюль новыя маладыя людзі.*
*Вось у што перакулілася твая фанабэрыя,*
*плод старажытнай зайздрасьці,*
*якая цябе задушыць!*
*Ты столькі пакутавала!*
*Не ад голаду, не ад галізны –*
*ад пошлай прагі прывілеяў.*
*Напружаная пыха.*
*Дурная рызыка.*
*Зьдзек з пракаветнай гармоніі.*
*Душэўны спакой, атрыманы*
*за кошт вартых жалю падачак*
*і рабствам зьнясіленых душ.*
*Праца, спаганеная дарэшты,*
*у патаемных тунэлях нажывы,*
*атлусьценьне ў сьвінарніку роскашы...*
*Барсэлёна, зірні на сябе.*
*Не сьпявай, Барсэлёна.*
*Выслухай сваё сэрца – яно яшчэ б'ецца.*
*Не спыняйся. Плач кожны дзень патроху,*
*калі Зямля пачынае ўсьляпую*
*новы віток.*
*Плач пакрыху, не пераключайся на іншае,*
*гледзячы,*
*як вецер рэквізуе ў дрэваў лістоту.*
*Ня бойся прадчуваньняў новай хвалі.*
*Працуй. Маўчы.*
*Забудзься пра гісторыю.*
*Трызьні ёю, перайнач яе.*
*Сачы за морам, сачы за гарамі.*
*Думай пра сына ў тваім чэраве.*

## ЖАЗЭП КАРНЭ (1884-1970)

Каталёнскі паэт і празаік. Нарадзіўся ў Барсэлёне. Вывучаў філязофію, філялёгію і права. У 1904 годзе выдаў свой першы паэтычны зборнік «Кніга паэтаў». У 1921 годзе паступіў на дыпляматычную службу. Доўгі час жыў у Коста-Рыцы, у Францыі. З прыходам да ўлады Франка – у Мэксыцы й Бельгіі. Аўтар кніг «Сакавітыя плады» (1906), «Слова на ветры» (1914), «Вецер у чаратах» (1920), «Прарок» (1941), «Дрэвы» (1954), «Кола году» (1966). Перакладчык Шэксьпіра і Андэрсэна на каталёнскую мову.

***

*Быць каталёнцамі ў сьвеце*
*даў нам бог і назваў*
*добрым найменьнем, даў нам*
*пракаветнасьць і сьвежы сок.*
*Няхай ня роўня мы ўнукам –*
*але мы ім шляхі пракладалі,*
*няхай яны іншыя –*
*але сутнасьць у нас адна.*
*Даў нам бог нашу веру,*
*ранішніх справаў разьбег,*
*палёў залатых разьлівы,*
*сьнежную сьвежасьць рэк,*
*грошы зь велічным звонам,*
*і лепшую сярод манет –*
*любоў, і сьмелую гібель*
*з тварам, які вылучае сьвятло*
*(мёртвы, глянце, бацькавы крошкі пабраў!),*
*а прыйдзе слава – няхай суседзям*
*спаць яна не дае:*
*радзіма – цяжкая справа,*
*тут крылы патрэбны і нораў.*
*І калі мы мусім пакутваць,*
*дык бог, відаць, мае рацыю,*
*раз даў нам загану, якая,*
*перагараючы ў нас,*
*нам усё ж сьціплую радасьць*
*падаруе ў прызначаны час.*

## ПЭРЭ ЖЫМФЭРЭ

Нарадзіўся ў Барсэлёне ў 1945 годзе. Паэт, празаік, літаратурны крытык. Скончыў юрыдычны факультэт Барсэлёнскага ўнівэрсытэту. Вершы пачаў пісаць на гішпанскай мове. За кнігу «Палаючае мора» атрымаў Нацыянальную літаратурную прэмію (1966).

### *РОНДА*

*Добра было б мець рэвальвэр – каб слухаць*
*бруеньне крыві і ведаць, што я не памру,*
*што шчаўчок курка і парахавая ўспышка*
*не разьнясуць мой, нібы анёламі беражоны,*
*сад.*
*Як усё азараецца, калі вочы заплюшчваю.*
*І фантазіі каханьня праходзяць скрозь мяне,*
*быццам вобразы маленства альбо сьпевы*
*русалкі.*
*Асьцярожней ступайце – не разбудзіце ружы.*
*Імгненьне дажджу за нявыспаным шклом,*
*і імгненьне, калі твой позірк і ўсьмешка чуваць,*
*і імгненьне, калі твая ўсьмешка раскрывае*
*нябёсы й плянэты,*
*і імгненьне, калі твая скура пераўтвараецца ў*
*шапатлівае зьзяньне,*
*і імгненьне, калі твае вусны, і вочы, і дождж...*
*Хацеў бы мець рэвальвэр, каб слухаць*
*бруеньне крыві і ведаць, што я не памру.*



*Працяг са старонкі 13*

Салдат сядзеў побач зь нябожчыкам, жаваў хлеб і думаў. Мабыць, найперш трэба дроваў — тых, ля вогнішча, пасьля залевы засталося мала. І ён, зьеўшы хлеб, паплёўся ў лес. Нешта сабраў і прынёс. Пасьля пачаў ладзіць цяпельца. Ён ня ўмеў карыстацца «кацюшай» і пазьбіваў пальцы, пакуль запаліў шкуматок. Далей таксама было не лягчэй — ад дымлівага шкуматка распаліць кавалак сухога моху. Ён усё дзьмуў і дзьмуў, пакуль зусім не закружылася галава і ён стаў, бы п'яны. Трохі спачыў і зноў дзьмуў.

Можа, праз гадзіну ці болей учарашняе кастрышча ажыло, у вечаровай ціхманасьці над рэчкай зноў пацягнуўся ўгару хвост дыму. Сьпяшаючыся, ён падклаў болей паліва — будзе гарэць. Галоўнае было зроблена — яны здабылі агонь. То была б агульная радасьць, якую цяпер меў адзін. І яна менела напалавіну. Такая была тутэйшая арыфмэтыка. Арыфмэтыка сабачага жыцьця...

Пакуль гарэў ладны касьцёр, напальваў вугольле, салдат падышоў да бамжа. Што было рабіць? Наесьціся бульбы і матаць адсюль? Ды — куды? Гэтае нязбыўнае пытаньне, бы праклён, вісела над ім паўгода, і ён не знаходзіў на яго адказу. Можа, яго наогул не існавала — адказу, а ён, дурань, яго шукаў. Інакш бы ён не апынуўся ў зоне, а знайшоў бы якое іншае месца. Але ці было яно, тое іншае месца? Во і бамж апынуўся менавіта тут — ужо ці не зьвяла іх разам фатальная агульнасьць лёсаў? Але якая ў іх магла быць агульнасьць? Рознасьці — гэта так, колькі заўгодна. А агульнасьці?.. Аднак жа нешта было, інакш бы яны не апынуліся разам.

Дык што ж — і канец іхны аднолькавы?

Гэткія думкі палохалі, як было зь імі згадзіцца? Салдат здрыгануўся і перастаў думаць пра тое. Лепш было наогул ня думаць. Калі б тое было магчыма...

Сонца зусім схавалася за борам. Увесь бераг рэчкі і хмызьняк на баку зарэчча патаналі ў засені, у якой патроху расплываўся шызы дым кастра. Толькі бязвоблачнае неба над лесам раскашавала-купалася ў разьвітальным сонечным зьзяньні — там гралі шчасьлівыя бомы, якія не дасягалі зямлі. На зямлі ўладарылі бомы хаўтураў.

Нарэшце салдат паклаў у вугольле дзясятак бульбінаў, старанна загарнуў іх у прысак. Хай пякуцца. А сам падышоў да нерухомага цела бамжа. Што зь ім рабіць? Мусіць жа, трэба было яго пахаваць? Але ні рыдлёўкі, ні нават здатнага для такой патрэбы нажа ў іх не было. Салдат узьлез на абрыў і выламаў зь ляшчыны тоўстую палку. Канешне, лепей было б пахаваць на абрыве, збоч ад іхнага начнога лежбішча, але палкай там не ўкапаеш. Там дзерніна і хвойныя карані... І ён пачаў капаць у пяску, пад абрывам, побач зь целам нябожчыка. Тут было лягчэй, ён калупаў палкай і жменямі выграбаў пясок. Праз гадзіну атрымалася ямка, — мелкаватая, праўда, і нязграбная. Як і бамжова жыцьцё, падумаў салдат. Якое жыцьцё, такое й пахаваньне. Ды і ўсё жыцьцё ёсьць, мусіць, заробкі на паховіны, не на што іншае. А некаторыя думаюць — на кар'еру. Кожная кар'ера во — канчаецца ямай. Дык ці варта так дбаць пра яе?

Пра кар'еру або пра яму — салдат ужо дадумаць ня мог. Ён аж спалохаўся ад думкі: а ці будзе каму пахаваць яго?

Можа, ня трэба было хавацца, уцякаць, можа, лепш, каб яго знайшлі. Вядома, і пакаралі. Чорт яго ведае, што ў жыцьці лепш, а што горш. Ён ці не з маленства хацеў пайсьці ў армію, з кніжак і кіно яму падабалася ўсё вайсковае — зброя, абмундзіроўка, тэхніка. Ён нават прагнуў абараняць радзіму і пры тым праявіць геройства. Ён радаваўся, як у ваенкамаце яго прызначылі ў ракетныя войскі, і ня думаў, што гэтая радасьць хутка вылезе яму бокам. Давялося пачарнець з гора — ня радуйся раней часу, дурань.

Ён не хацеў жыць брыдка, прагнуў сумленьня і чысьціні. Атрымалася ўсё наадварот. Дык што ж яму — гінуць цяпер у свае дзевятнаццаць гадоў?

Задумаўшыся, ён не адразу заўважыў, як побач паявілася птушачка — маленькая вяртлявая трасягузка з доўгім хвосьцікам. Немаведама адкуль узяўшыся тут, яна бесклапотна паскакала па пяску, штосьці там клюнула, азірнулася на адзінокага, прыбітага горам чалавека ля вогнішча і нібыта ціхенька піскнула.

— Плісачка! — прашаптаў ён зь нечаканай пяшчотай, адразу ўспомніўшы слова, якім у вёсцы клікалі гэтых птушак. Але птушка адразу пырхнула ўгару ды імкліва адляцела за рэчку. Нашто яна тут, па чыю душу прылятала? — растрывожана думаў салдат, крануты нечаканым паяўленьнем птушкі.

Тым часам, мабыць, сьпякліся бульбіны.

## ГАБРЫЭЛЬ ФЭРАТЭ (1922-1972)

Адзін з найвыбітнейшых каталёнскіх паэтаў сярэдзіны стагодзьдзя. Аўтар паэтычных кніг «Тэорыя целаў» (1966), «Жанчыны і дні» (1968) ды іншых.

*ВЕРА*

*У абдымках яе трымаеш.*
*Сьпіш, і яна табе сьніцца,*
*і ведаеш: усё, што ты бачыш*
*у сьне, – гэта толькі сон.*
*І сэрца тваё трапечацца*
*трапятаньнем новае веры.*
*Адно толькі – і ня болей, –*
*адно-адзінае*
*слова*
*дазволіць табе зразумець,*
*што варта прачнуцца.*
*Ты ведаеш –*
*і гэтае слова*
*таксама табе прысьнілася,*
*і ўсё-ткі там,*
*за мяжою*
*ўсіх сваіх сноў,*
*ты трымаеш яе*
*ў абдымках.*

## САЛЬВАТОР ЭСПРЫУ

Каталёнскі паэт і празаік. Зь сям'і натарыюса. Скончыў Барсэлёнскі ўнівэрсытэт. Аўтар паэтычных кніг «Могілкі ў Сінеры» (1946), «Песьні Арыядны» (1949), «Вандроўнік і сьцяна» (1955), «Скура быка» (1960).

*ЧАСАМ БЫВАЕ НЕАБХОДНА*

*Часам бывае неабходна,*
*каб у імя народу памёр адзін чалавек,*
*але ўвесь народ ніколі*
*не павінен паміраць у імя*
*аднаго чалавека –*
*запомні гэта, наш агульны горад.*
*Навядзі масты разуменьня,*
*пастарайся спасьцігнуць, а то й палюбіць*
*гаворку рознаплямённых дзяцей тваіх.*
*Няхай праліецца павольны дождж*
*на ральлю, і вецер*
*няхай пяшчотна гайдае*
*шырокую ніву.*
*Жыві, горад наш, вечна*
*ў міры, працы й свабодзе –*
*цяжкай, але справядлівай.*

Прадмова, біяграфічныя даведкі і пераклад з падрадкоўніка – **Славаміра Адамовіча**

Адам Глёбус

# СУЧАСЬНІКІ

*(Літоўцы, расейцы й іншыя)*

**ДЖАЎКШТАС**

У 1969 годзе Сільвэстрас Джаўкштас напісаў палатно з назваю «Гібель актывіста». На падлозе вясковай хаты ляжыць забіты актывіст. Зь цемры, праз вакно яго застрэлілі лясныя браты. Каля гэтага палатна атрымліваўся дзіўны эфэкт. Глядач мог стаць савецкім міліцыянтам, які знайшоў труп актывіста, а мог быць памагатым ляснога брата, які пазірае на нябожчыка праз другое вакно. Асабіста я ні разу неператвараўся ў міліцыянта.

**ВАЗЬНЯСЕНСКІ**

Пад Барсэлёнаю, у Січазе пад час карнавалу, у натоўпе я апынуўся побач з паэтам Андрэем Вазьнясенскім. Той глядзеў у вітрыну й гаварыў да старой кабеты: «Сорак баксаў. Паглядзі... Гэтая драбяза каштуе сорак баксаў!!!»

**ІСКАНДЭР**

У доме творчасьці Фазілю Іскандэру дастаўся нумар без тэлевізара. Усчаўся вэрхал. Заўгас прытарабаніў з дому ўласны тэлевізар. Вёз ён яго ў дзіцячай калясцы.

**САВІЦКІ**

Чытаючы раман «Тэма без варыяцыяў» Дзьмітрыя Савіцкага, падумаў, што ў сьвеце існуе інтэрнацыянальная эміграцкая літаратура. Асабліва тут вызначалася XX стагодзьдзе: Аляксей Талстой, Аляксандар Куприн, Джэймс Джойс, Генры Мілер і безьліч іншых.

**УШЫНСКАС**

Пэўна, не было такога манумэнталіста ў Беларусі, хто б ня ставіўся з павагаю да літоўскіх вітражоў. Беларусы маглі толькі марыць пра музэй вітражоў, які быў у Коўне. Зараз яго мусіць няма, і Бог зь ім. Асноўнае: у Літве была школа, якую стварылі людзі кшталту Стасіса Ушынскаса й Аўгустынаса Савіцкаса. А яны ж вучыліся ў Парыжы. Ушынскас у самага Фэрнана Лежэ. Як нам не хапала такой школы...

**ПАРШЧЫКАЎ**

Паэт Аляксей Паршчыкаў напісаў радок: «Мора – гэта звалка веласіпедных рулёў». Нечаканае параўнаньне. І цяпер, гледзячы на мора, што пачынае хвалявацца, я бачу гэтую бліскучую звалку рулёў.

**АНЕНСКІ**

Некалі эсэіст Леў Аненскі працаваў у каляніяльным (азначэньне Паршчыкава) часопісе «Дружба народов». Каб ведаць народы ня толькі па тэкстах, ён шмат езьдзіў па СССР і прыдумаў досыць унівэрсальную сыстэму формулаў. Хто як корміць гасьцей? Рускі: «Ты еш, еш. Ну, што ты не ясі? Выпі й закусвай». Беларус: «Маці, пастаў госьцю на стол, і пайшлі, хай чалавек паесьць».

**ЯРОМЕНКА**

Аляксандар Яроменка напісаў кніжачку вясёлых вершаў, сабраў калекцыю мастацкіх вырабаў з расейскіх турмаў і зьнік. Дзе? Што робіць? Ці жыве? Зрэшты, ня ў тым сутнасьць. Калі чытаю Сашкіны санэты, пераконваюся: нобэлеўскую прэмію можна даваць толькі за вершы. Каб хоць неяк кампэнсаваць тое, што яе не даюць мастакам і рэжысэрам. Ну сапраўды, чаму Сянкевіч і Шолахаў ляўрэаты, а Пікаса й Бунюэль – не?

**БУДЗІНАС**

Савецкі журналіст Яўген Будзінас аднаго разу паглядзеў у вакно й сказаў: «Крыўдна ўсё ж, што кавалак жыцьця даўжынёю ў гадоў сорак пайшоў на тое, каб зразумець: мне не падабаецца гэтая зямля й гэты народ. Нічога добрага ні на гэтай зямлі, ні з гэтым народам ужо ня будзе». Каб я ня ведаў Будзінаса, і гаварыў ён не пра мой народ і маю зямлю, дык і «чорт яго пабірай», як любіў паўтараць Караткевіч. Толькі за вакном была Беларусь. А Будзінас ладуе валізы, каб зьехаць. І ўсё ж у гэтым выказваньні ёсьць дзьве станоўчыя рэчы... Беларусь пазбавіцца таго, хто яе ня любіць. А Яўген, якому 54, ня будзе мець новых 40, каб узьненавідзець іншую зямлю й другі народ за новым вакном.

**РЭЙН**

Піцерскі паэт Яўген Рэйн, сябра Язэпа Бродзкага й вучань Ганны Ахматавай, аднойчы сярод ночы, калі мы чыталі вершы й пілі «рускую», сказаў: «Не пішы нацыяналістычную паэзію, і ўсё складзецца добра». Паслухаў я Рэйна й перайшоў на прозу.

**МАРКАВА**

«Вялікая руская перакладчыца» – так было напісана пра Веру Маркаву ў анатацыі да кнігі Сэй-Сёнагон «Нататкі каля ўзгалоўя». Незвыклае словазлучэньне запомнілася. Тым больш, што, чытаючы Басё, Іса, Бусона, Такубоку й Сэй Сёнагон у перакладах Маркавай, я ўяўляў не Японію, а Беларусь. А сказаўшы пра гэта Веры Мікалаеўне, якая нарадзілася ў Менску, пачуў наступнае: «Самае дарагое, што ў мяне засталося зь дзяцінства, гэта ўспамін пра вербы над Сьвіслаччу». Чытаю й перачытваю:

На смерть маленького сына
*О мой ловец стрекоз!*
*Куда в неведомой стране*
*Ты ныне забежал?*

Чыста беларускі верш.

**ЕЎТУШЭНКА**

Калі ў расейскую паэзію прайшло пакаленьне мэтамэтафарыстаў –Жданаў, Паршчыкаў, Яроменка – Яўген Еўтушэнка, вялікі знаўца каньюнктуры, вырашыў прымазацца да новых зорак і прыйшоў весьці паэтычную вечарыну. Ён досыць маляўніча прадставіў Яроменку й даў яму слова, але Сашка слова ня ўзяў і. нават з крэсла ня ўстаў. Ён гучна на ўсю залю сказаў: «Хадзі сюды, я табе ўрэжу!» Еўтушэнка ўцёк.

**АХМАДУЛІНА**

Ахмадуліна – бляклы цень Ахматавай.

**ВЫСОЦКІ**

Ніколі не любіў і не палюблю песьні Ўладзімера Высоцкага, але процьму ягоных твораў ведаю напамяць. Высоцкі – яскравы фэномэн масавае сьвядомасьці, які жыве ў нас незалежна ад нашага жаданьня.

**МІХАЛКОЎ**

Кінарэжысэр Мікіта Міхалкоў прыехаў у Беларускі тэатральна-мастацкі інстытут з выступленьнем. Кінуў палітон на крэсла у рэктараце, зайшоў у залю і, хутка прайшоўшы між радоў, заскочыў на сцэну. Скачок узрадаваў. А вось развагі пра геніяльнасьць мастака Фядотава мяне расчаравалі. Зрэшты, кінафільм «Абломаў», пабудаваны на варыяцыях палотнаў Фядотава, на мой погляд – адна зь лепшых прац Міхалкова. Геніяльнасьць ганчароўскага, чыста рускага вобраза – памешчыка Абломава выцягнула з пасрэднасьці Фядотава й Міхалкова. Што ні кажы, а сцэнар у кіно – аснова асноваў.

**КРАСАЎСКАС**

Мой настаўнік маляваньня Трахім Ігнаценка вучыўся ў Вільні разам са Стасісам Красаўскасам. Той – са словаў Ігнаценкі –заўсёды марыў быць авангардыстам. Аднойчы, на эцюдах да Стасіса падыйшоў селянін і сказаў, што краявід атрымаўся вельмі праўдзівы. Красаўскас зрэагаваў наступным чынам: парваў аркуш з акварэльлю на дробныя шматкі.

05.11.1998

# ВАЎЧЫНАЯ ЯМА

Салдат выграб з прысаку крайнюю, трохі абцёр яе аб штаны і спрабаваў адкусіць. Але чамусьці ня здолеў — абпякло ў роце і спазма здушыла горла. Тады ён памкнуўся другі раз, і другі раз нічога ня выйшла. Штосьці сталася зь ягоным горлам ці страўнікам — тыя не прымалі ежы. Пачало мкнуць на ваніты, і ён выпусьціў бульбіну. Хлопец не на жарты спалохаўся — ён ня мог есьці. Затое мацнелі ваніты, разы два з горла лінула ледзьве не на касьцёр. Ад нутраных сутаргаў у яго выварочвала страўнік — так было кепска. Нізка схіліўшыся над долам, ён сядзеў ля прытухлага вогнішча ўжо бяз жаднай увагі да бульбы. Ён чакаў, калі ягоныя пакуты скончацца. Але пакуты не канчаліся — пакуты, здаецца, мацнелі.

Так доўжылася нямала часу, пачаў затухаць касьцёр. У цемрыве ночы воддаль цьмяна блішчэла вадзяная пляма затокі. Побач, трохі асьветлены рэштай вагню, ляжаў скалелы нябожчык. Мабыць, трэба было падкласьці палак у вогнішча, ды салдату было не да таго. Ён зрабіўся абыякавы да вагню, пра які нядаўна яшчэ гэтак дбаў. Прыйшла чарга дбаць пра сябе.

Трохі, аднак, саўладаўшы зь немаччу, ён устаў, падняў ацежалелае нежывое цела і зваліў яго ў яму. Загарнуць пяском не пасьпеў — зноў падступілі ваніты. Тады ён аблёг долу побач і думаў, што, мабыць, тут і сканае таксама. Сканаць тут разам, можа, было б і нядблага... Побач марудна паміраў касьцярок, у цемры на краях вогнішча яшчэ варушыліся-міргалі дробныя агеньчыкі. Спакваля і тыя атухлі...

Ачнуўся глыбокай ноччу — яму й зусім стала блага. Толькі пасьпеў сесьці на сьцюдзёным пяску, як зноў скалануўся ад ванітаў. Ванітаваць даўно ўжо не было чым, але ўсё роўна яго ірвала знутры, — здаецца, ірвала з вантробаў. Ён не разумеў чаму, і то крыху паднімаўся, то зноў аблягаў долу. Між пакутных сутаргаў трохі забываўся ў зьнямозе, каб неўзабаве прахапіцца зноў і зноў надрывацца ў ванітах. Здаецца, ужо зусім апусьцеў страўнік і ўсе вантробы, а нясьцерпная гарката не пераставала імкнуць з горла, сутаргі не спыняліся. І яму здавалася, што лепей сканаць, чым так пакутваць.

Можа, пад ранак трохі заснуў.

Прачнуўся, як ужо разьвіднела, сеў, пачаў выціраць запэцканае падбародзьдзе, грудзі. І тады на пальцах убачыў кроў — як і ўчора ў бамжа. Зь ягонага рота таксама ішла кроў. Значыцца, і яго неўзабаве чакае тое ж.

Але ж ён не хацеў паміраць...

Ён з натугай устаў і, хістаючыся, пайшоў берагам прэч. Прэч ад гэтай затокі, ад вогнішча, ад незакапанай магілы. Яму трэба было дабрысьці да броду.

Мабыць, новая мэта надала нейкай сілы — хістка, няўпэўнена, аслабела ён адолеў, аднак, немалы кавалак шляху па лесе. Але і выдыхся дашчэнту. Упаў у падлеску, сярод арабінавага маладняку, доўга ляжаў. Сьвядомасьць яго затуманілася, часам ён пераставаў разумець, хто ён і дзе знаходзіцца. Але не надоўга. Усё ж ён прымушаў сябе ўстаць і йсьці. Яму вельмі трэба было дайсьці да броду.

— Людзі-і-і-і, людзі-і-і-і, — намагаўся ён крыкнуць, але зь ягоных вуснаў зьлятаў толькі шэпт. Ніхто нідзе не адгукаўся. Ды і нідзе не было нікога. Не было нават ваўка. На момант успомніўшы дахадзягу, салдат прамовіў у думках: дзе ты, браток па няшчасьці? Воўк ты мой, воўча... Хадзі, можа, паратуемся разам...

Пачала дужа дакучаць смага — хацелася піць. Ды рака й балота засталіся ззаду, у бары вады не было. Ён разумеў гэта і трываў. Ён толькі ішоў. Ад дрэва да дрэва, ад хвоі да хвоі. Аднак усё выразьней стаў адчуваць, што ня дойдзе.

Але няўжо сапраўды ня дойдзе?

Спалох трохі надаў сілы. Але няшмат. Аслабела пратупаўшы дзясятак крокаў, падаў на дол, ляжаў. Нашто ж усё так атрымалася, чаму? — гучала ў ім недаўменнае пытаньне. Усё тое ж пытаньне без адказу. Хто загубіў ягонае жыцьцё? І чаму? А можа, гэтак з самага пачатку наканавана лёсам? Тады ён не вінаваты. Сам ён ужо бясьсільны што-небудзь у ім зьмяніць.

Устаючы, ён кідаў кароткія позіркі па бакох — думаў, мо дзе ўбачыць людзей. Каб крыкнуць. Ды людзей не было. Не было і ваўка. Салдат застаўся зусім адзін у гэтым прыгожым і страшным лесе.

Стала чамусьці цёмна. Можа, настала ноч? Значыць, ён так і не дапяў да выратоўчага броду, ня выбраўся з гібельнай ямы. Цемра навалілася на лес, на салдата, і ён ужо не разумеў, у які бок ісьці. І ці ісьці наогул? Сілы ў яго не было нават устаць...

*Вуясары, 1998 г.*

